# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 (70) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2015 г.



**Валерый Васільевіч Сліўкін,**

***кандыдат геграфічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, адзін з заснавальнікаў часопіса “Лідскі летапісец”***

––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––––

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 2 ( 70 )** **КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ** **2015 г.**

## *У НУМАРЫ:*




***Стар. 2. 3-я Лідскія чытанні.***



***Стар. 4. Кроніка Ліды.***



***Стар. 7. Лідскія юбіляры 2015 года. Валеры Сліўкін.***



***Стар. 12. Белагруд.***



***Стар. 17. Экскурс у гісторыю беларускага бежанства Першай сусветнай вайны.***



***Стар. 26. Лідчына ў 1924 - 1929 гг. у люстэрку прэсы.***




***Стар. 66. Паўвеку. Вайна.***


**На першай старонцы выкладкі Курган Неўміручасці ў Лідзе.**
***Здымак Гражыны Бурачэўскай.***





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**9 друк. аркушаў**

**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2601.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2015 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.08.2015 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 11100 руб.**
**індывід. 6 мес.- 22200 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792






# 3-я Лідскія чытанні

## *Да 175-х угодкаў з дня нараджэння Францішка Багушэвіча*

15 красавіка ў Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы прайшлі III Лідскія чытанні, прысвечаныя 175-годдзю з дня нараджэння бацькі беларускай нацыі Францішка Багушэвіча.

У чытаннях прынялі ўдзел прадстаўнікі Лідскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"; навуковыя супрацоўнікі ДУ "Лідскі гістарычна-мастацкі музей"; бібліятэкары ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы"; школьныя краязнаўцы Лідскага раёна; настаўнікі гісторыі школ г. Ліды.

Пасля прывітальнага слова загадчыка аддзела абслугоўвання і інфармацыі ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы" Ненартовіч С.К. выступіў педагог дадатковага навучання А.У. Блахіна, які ў гонар першай кніжкі Францішка Багушэвіча "Дудка беларуская" зайграў на трох тыпах беларускіх дудак.

Першай з дакладам "Айчына, праўда і свабода як мастацкі ідэал паэзіі Францішка Багушэвіча" выступіла кандыдат філалагічных навук, БДУ, г. Менск, Багдановіч І.Э. Затым з дакладам "Немец" і "жыд" як кантэкстуальныя сінонімы ў творчасці Францішка Багушэвіча" выступіў кандыдат філалагічных навук, БДУ, г. Менск, Запрудскі І.М. Наступнае паведамленне на тэму: "Багушэвіч у Доцішках" зрабіла Юрго В.М., метадыст ДУК "Воранаўская раённая бібліятэка". Спавешчанне на тэму: "Папулярнасць творчасці Францішка Багушэвіча ў Лідзе" зрабіў краязнавец з г. Ліды Леанід Лаўрэш. Наступны даклад "Вывучэнне творчасці Францішка Багушэвіча ў школьнай праграме" прачытала настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 1 г. Ліда Велькашынская Г.А. Даклад "Францішак Багушэвіч у паўстанні 1863 года: легенды, здагадкі і факты" зачытаў рэдактар часопіса "Лідскі летапісец", г. Ліда, Суднік С.В. "Лідскія матывы ў творчасці Францішка Багушэвіча" раскрыў навуковы супрацоўнік літаратурнага аддзела ДУ "Гістарычна-мастацкі музей"Алесь Хітрун. Напрыканцы з мультымедыйнай прэзентацыяй "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай…" выступіла галоўны бібліёграф ДУК "Лідская раённая бібліятэкі імя Янкі Купалы Курбыка Г.Р. Завяршыў чытанні бард Сяржук Чарняк песнямі на словы Францішка Багушэвіча і іншых беларускіх паэтаў.



*Ірына Багдановіч*



*Ігар Запрудскі*



*В.М. Юрго*



*Г.А. Велькашынская*



*А.У. Блахін*

Падчас чытанняў на экране змянялі адзін другі кадры з відамі Кушлянаў і экспазіцыі тамашняга музея Францішка Багушэвіча. Дыск перадаў у Лідскую бібліятэку дырэктар Кушлянскага музея Алесь Жамойцін. Другі відэашэраг быў створаны ў Лідзе па выніках паездкі Станіслава Судніка і Алеся Хітруна па Багушэвічавых мясцінах у Кушлянах і Жупранах. Не карэктна было праводзіць чытанні і не пабыць у Кушлянах і Жупранах, не паглядзець, як ушаноўваецца памяць чалавека, які абвясціў усяму свету Беларусь.

Падчас чытанняў прагучала заўвага, што Багушэвіч у нас не даўшанаваны. Так, да 175 угодкаў па ўшанаванні Ф. Багушэвіча зроблена не шмат. Хаця "Белпошта" выдала мастацкую марку, а 21 сакавіка правяла спецгашэнне маркі і канверта першага дня. Было некалькі мерапрыемстваў па Беларусі (у тым ліку ў Гародні). "Беларускі кнігазбор" выпусціў грунтоўны том выбраных твораў. Падтрымліваюцца ў прыстойным стане помнікі ў Смаргоні і Жупранах.



*Леанід Лаўрэш*



*Станіслаў Суднік*



*Алесь Хітрун*



*Г.Р. Курбыка*



*Сяржук Чарняк*



*Падчас чытанняў*

Аднак трэба згадаць яшчэ адзін вельмі важны момант, а менавіта - у касцёле ў Жупранах на пачэсным месцы вісіць партрэт Ф. Багушэвіча. На тэрыторыі Беларусі ў касцёле вісіць яшчэ толькі адзін партрэт пісьменніка - партрэт Уладзіслава Сыракомлі ў Нясвіжы. Таму можна смела гаварыць, што як бы там ні было, а Францішак Багушэвіч у Беларусі не занядбаны, сведчаннем чаму і праведзеныя ў Лідзе на высокім узроўні чытанні.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Кроніка Ліды

7 красавіка Мітрапаліт Менскі і Заслаўскі Павел прадставіў лідскім вернікам прадстаяцеля новаўтворанай Лідскай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы епіскапа Лідскага і Смаргонскага Парфірыя.





15 красавіка на аэрадром Ліда прыбыў першы з чатырох самалётаў “Як-130”.

17 красавіка лідзянін Аляксандр Венскель стаў бронзавым прызёрам чэмпіянату Еўропы па цяжкай атлетыцы з вынікам 386 кг (177 кн + 209 кг).





Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 170 ад 22 красавіка настаўніца рускай мовы і літаратуры Дзяржаўнай установы адукацыі “Гімназія № 1” г. Ліды Глыздава Таццяна Міхайлаўна ўзнагароджана медалём Францыска Скарыны.





8 траўня адкрыты цэх па вытворчасці шкловаты на шклозаводзе “Нёман” у г. Бярозаўцы.




У траўні ў выдавецтве “Кнігазбор” (г. Менск) выйшла кніга выпускніцы Ганчарскай СШ Ганны Шаўчэнкі (Серэхан) “Паэзія Антона Гарэцкага і станаўленне рамантычнай традыцыі ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя”.



31 траўня каманда па міні-футболу “Лідсельмаш” стала 2-х кратным чэмпіёнам краіны.




У чэрвені ў Лідскай друкарні выйшла кніга вершаў лідскай паэтэсы Ірыны Бараздзіной “Из соли, сахара и перца”.




У чэрвені Лідская ЦРБ імя Янкі Купалы выпусціла буклет да 70-годдзя Валерыя Сліўкіна.



У канцы чэрвеня Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дырэктар Лідскага гістарычна-мастацкага музея Ганна Драб ўзнагароджана медалём Францыска Скарыны.

# Лідскія юбіляры 2015 года

## Валерыю Сліўкіну - 70

8 чэрвеня 1945 года ў Лідзе ў сям'і Васіля Кузьміча і Валянціны Міхайлаўны Сліўкіных нарадзіўся сын Валера. Бацькам у той час прыйшлося перажыць нямала: у пасляваенны час яны падымалі з руін народную гаспадарку Лідчыны. У 1963 годзе Валера заканчвае школу № 3 горада Ліды са срэбным медалём, праз 5 гадоў - Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт з чырвоным дыпломам. Яшчэ пазней абараняе дысертацыю і атрымлівае навуковую ступень - кандыдат геаграфічных навук. Працуе выкладчыкам ў Алма-Ацінскім універсітэце, у геалагічных партыях у Казахстане, Якуціі... У 1983 годзе вяртаецца назад у родны горад, уладкоўваецца ў геадэзічную службу, працуе на будоўлях і пачынае актыўна займацца краязнаўчай дзейнасцю. Гэты кірунак прыводзіць яго ў Лідскі гістарычна-мастацкі музей, дзе з 1998 года і па сённяшні дзень Валерый Васільевіч працуе старшым навуковым супрацоўнікам.

Валерый Сліўкін з'яўляецца адным з заснавальнікаў краязнаўчага гістарычна-літаратурнага часопіса "Лідскі летапісец". За плённую і старанную працу па зборы і захаванні краязнаўчых дакументаў ён узнагароджаны медалём Мітрафана Доўнар-Запольскага "За вяртанне гістарычнай памяці" з уручэннем дыплома і занясеннем у Кнігу гонару "Руплівцы твае, Беларусь".

Дзякуючы вялікаму запасу краязнаўчага матэрыялу, які збіраецца па крупінках, Валерый Сліўкін вызначыўся найбольш аўтарытэтным спецыялістам у вобласці гісторыі Лідчыны. З яго даследчымі працамі чытач знаёмы не толькі са старонак "Лідскага летапісца", але і з мясцовых і рэспубліканскіх выданняў. Напэўна, ні адзін гістарычны момант, які тычыцца горада Ліды, не абышоўся без навуковага ўдзелу Валерыя Васільевіча. Яго пяру належаць шматлікія матэрыялы не толькі пра развіццё прамысловасці, адукацыі, культуры, харчавання, канфесій горада і раёна, але і пра старажытныя пасяленні Лідчыны. Дзякуючы яго намаганням вернуты з нябыту забытыя імёны нашага краю. А неабыякавасць да роднага краю дапамагае яму знаходзіць таленавітых людзей, сустракацца са сведкамі падзей, запісваць іх успаміны.

Дасканала валодаючы краязнаўчай інфармацыяй В. Сліўкін раскрыў жыццё Лідчыны ў перыяд Першай сусветнай вайны. А што датычыцца Вялікай Айчыннай вайны, то яму знаёмы не толькі падзеі, але і ўсе яе героі. Супрацоўнікамі музея з самага пачатку яго існавання быў сабраны багаты матэрыял пра партызанскі атрад "Іскра" і іншыя вайсковыя фармаванні часоў Вялікай Айчынай вайны. Увесь гэты архіў сістэматызаваны дзякуючы намаганням В. Сліўкіна. Не засталіся без яго ўвагі і старажытныя муры Лідскага замка: Валерый Васільевіч дасканала вывучыў неабходнасць яго будаўніцтва, усю яго гісторыю, пачынаючы з XIV стагоддзя.



Лідскі вучоны правёў вялікую даследчую працу да 100-годдзя Лідскага ваеннага аэрадрома, вынікам якой стаў выход кнігі "Аэрадром Ліда - 100 год палётаў. 1913 - 2013" (сумесна з Д. Кіенкам). У дадатак В. Сліўкіным у Лідскім гістарычна-мастацкім музеі ад-крыта выстава "Крылы над Лідай".

Значная частка кнігі "Памяць. Ліда і Лідскі раён" пададзена Валерыем Васільевічам. На аснове яго даследчай работы музеем распрацавана музейна-асветніцкая праграма "Старадаўніх муроў адраджэнне", якая ў 2009 годзе была адзначана Спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва.

**Спіс публікацый В. Сліўкіна:**

1. Краязнаўчы каляндар. 2015 / склад. Г.Р. Курбыка, В.В. Сліўкін. - Ліда, 2014. - 6 с.

2. Краязнаўчы каляндар. 2014 / склад. Г.Р. Курбыка, В.В. Сліўкін. - Ліда, 2013. - 6 с.

3. Краязнаўчы каляндар. 2013 / склад. Т.В. Чайко, В.В. Сліўкін. - Ліда, 2012. - 6 с.

4. Киенко, Д. Аэродром Лида - сто лет полетов / Д. Киенко, В. Сливкин. - Смоленск : Хартекс, 2013. - 170 с.

5. Краязнаўчы каляндар. 2012 / склад. Т.В. Чайко, В.В. Сліўкін. - Ліда, 2011. - 6 с.

6. Краязнаўчы каляндар 2011 / склад. Т.В. Чайко, В.В. Сліўкін. - Ліда, 2010. - 6 с.

7. Краязнаўчы каляндар 2010 / склад. Т.В. Чайко, В.В. Сліўкін. - Ліда, 2009. - 6 с.

8. Сливкин, В. Из истории Белицы / В. Сливкин, ред. Т.И. Зенюкевич. - Лида, 2011. - 16 с.

9. Лида: город древний и молодой / текст В. Сливкин, фото С. Плыткевич. - Минск : УП РИФТУР, 2010. - 21 с.

10. Сливкин, В. Краткая история города Лида

рассказанная и нарисованная / В. Сливкин. - Лида : ООО ПКЦ ОНИКС, 2007. - 24 с.

11. Ліда : фотаальбом / аўт. тэксту В.В. Сліўкін. - Мінск : Беларусь, 2005. - 98 с.

12. Ліда = Lida. / аўт. тэксту В. В. Сліўкін. - Мінск : Беларусь, 2005. - 16 с. : 17 л. іл.

13. Сліўкін, В. Аднаўленне каталіцкага храма / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 50.

14. Сліўкін, В. Акупацыйны рэжым / В. Сліў-кін / / Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 192 - 196.

15. Сліўкін, В. Ач-Гірэй - лідскі стараста / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 52.

16. Сліўкін, В. Бітва пры Дакудава-Недакудава / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 47.

17. Сліўкін, В. Вайдыла / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 42-44.

18. Сліўкін, В. Вайна 1812 года / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 94-95.

19. Сліўкін, В. Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 70-72.

20. Сліўкін, В. Востраўскае пагадненне / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 46-47.

21. Сліўкін, В. Ганаровыя грамадзяне г. Ліда / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 454-464.

22. Сліўкін, В. Герб і магдэбурскае права [Ліда] / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 65-66.

23. Сліўкін, В. Грамадзянская вайна 1432 - 1439 гадоў [Ліда] / В. Сліўкін / Памяць: Ліда і Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 51-52.

24. Сліўкін, В. З гісторыі бібліятэчнай справы [Ліда] / В. Сліўкін // Памяць: : Ліда і Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 517-519.

25. Сліўкін, В. З гісторыі вызвалення Ліды / В. Сліўкін // Памяць : Ліда і Лідскі раён: Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 261-264.

26. Сліўкін, В. З гісторыі перыядычнага друку [Ліда] / В. Сліўкін, Н. Хацяновіч // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 519-521.

27. Сліўкін, В. Завяшчанне караля Аляксандра / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 55.

28. Сліўкін, В. Заснаванне Ліды / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 41-42.

29. Сліўкін, В. Землі Лідчыны пераходзяць у прыватную ўласнасць / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 58-59.

30. Сліўкін, В. З'яўленне прозвішчаў / В. Сліўкін / / Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 59-60.

31. Сліўкін, В. Кальвінізм, уніяцтва і праваслаўе / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 68-70.

32. Сліўкін, В. Канфлікт магнатаў з-за Ліды / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 54.

33. Сліўкін, В. Ліда - павятовы і судовы цэнтр / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 61.

34. Сліўкін, В. Ліда пры каралях Казіміру і Аляксандру / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 52-54.

35. Сліўкін, В. Ліда ў 1680 годзе / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 72-73.

36. Сліўкін, В. Лідскі піярскі калегіум і манастыр / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 75-77.

37. Сліўкін, В. Лідскі стараста - будаўнік Мірскага замка / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 56-58.

38. Сліўкін, В. Лідчане ў Грунвальдскай бітве (15 ліпеня 1410 года) / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Бела-русі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 49-50.

39. Сліўкін, В. Лідчына на рубяжы стагоддзяў / В. Сліўкін, Э. Вальчук // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 113-116.

40. Сліўкін, В. Лідчына ў 1830-1850-ыя гады / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 99.

41. Сліўкін, В. Лідчына ў 1908-1916 гадах / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 121-122.

42. Сліўкін, В. Лідчына ў канцы 16 - першай палове 17 стагоддзя / В. Сліўкін // Памяць. Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 66-68.

43. Сліўкін, В. Лідчына ў канцы 18 - першай палове 19 стагоддзя / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён

: Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 92-93.

44. Сліўкін, В. Лідчына ў час Паўночнай вайны / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 73-74.

45. Сліўкін, В. Люблінская унія 1569 года / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 64-65.

46. Сліўкін, В. Мяцеж Глінскіх / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 55-56.

47. Сліўкін, В. Нашэсце крыжаносцаў на Ліду ў 1394 годзе / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 47-48.

48. Сліўкін, В. Наезд смаленскага князя Юрыя Святаслававіча / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 49.

49. Сліўкін, В. Павятовае вучылішча ў Лідзе / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 109-110.

50. Сліўкін, В. Падзелы Рэчы Паспалітай / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 77-79.

51. Сліўкін, В. Пасляваеннае становішча / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 97-98.

52. Сліўкін, В. Паўстанне 1831 года / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 98.

53. Сліўкін, В. Паўстанне 1863 года / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 106-108.

54. Сліўкін, В. Першая сусветная вайна і акупацыя / В. Сліўкін // Памяць: Ліда. Лідскі р-н : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск : Беларусь, 2004. - С. 122-123.

55. Сліўкін, В. Рэвалюцыйны рух 1905-1907 гадоў / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 117-118.

56. Сліўкін, В. Станаўленне прамысловасці / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш., маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 108.

57. Сліўкін, В. Старажытныя паселішчы Лідчыны / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 83-84.

58. Сліўкін, В. Старажытныя паселішчы Лідчыны / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш., маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 84-86.

59. Сліўкін, В. Старажытныя паселішчы Лідчыны / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 86-87.

60. Сліўкін, В. Старажытныя паселішчы Лідчыны / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 87.

61. Сліўкін, В. Старажытныя паселішчы Лідчыны / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 87-88.

62. Сліўкін, В. Старажытныя паселішча Лідчы-ны / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 88-89.

63. Сліўкін, В. Узвядзенне храмаў / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 77.

64. Сліўкін, В. Узлёт і падзенне Лідскага замка / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 45-46.

65. Сліўкін, В. Хан Тахтамыш / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 48-49.

66. Сліўкін, В. Шлюб Ягайлы і Соф'і Гальшан-скай / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 50-51.

67. Сліўкін, В. Як літвіны прынялі рымскую веру / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 44-45.

68. Сліўкін, В. Яны нарадзіліся на Лідчыне / В. Сліўкін // Памяць : Ліда. Лідскі раён : Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал. В.Г. Баранаў і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. - Мінск, 2004. - С. 460.

69. Сліўкін, В. Беліца // Бацька наш Нёман: Вершы, апавяданні, нарысы, эсэ: Для ст. шк. узросту / В. Сліўкін, уклад. Я.І. Хвалей; маст. В.П. Свентахоўскі. - Мінск : Юнацтва, 2001. - С. 352 - 356

70. Сліўкін, В. Гісторыя, напісаная ў небе / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2015. - № 1. - С. 43-50; 2013. - № 4. - С. 55-72.

71. Сліўкін, В. Ліда і Лідскі павет. 1913 - першая палова 1914 г. / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2014. - № 3. - С. 31-36.

72. Сліўкін, В. Вяртанне Веры Навіцкай / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2013. - № 4. - С. 9-11.

73. Сліўкін, В. Выбітны шахматны кампазітар / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2013. - № 4. - С. 12; Наша слова. - 2013. - 26 снежня. - С. 4.

74. Сліўкін, В. Рамонтныя і рэстаўрацыйныя работы ў Лідскім замку ў пачатку XX стагоддзя / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2013. - № 1. - С. 34-38.

75. Сліўкін, В. Да 140-годдзя акадэміка Уладзіслава Людвігавіча Котвіча / В. Сліўкін // Наша слова. - 2012. - № 13. - 28 сакавіка. - С. 2.

76. Сліўкін, В. Прэзідэнт Расійскай дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук з Ліды / В. Сліўкін // Наша слова. - 2012. - № 21. - 23 траўня. - С. 6-7; Лідскі Летапісец. - 2012. - № 2. - С. 7-10.

77. Сліўкін, В. Акадэмік Уладзіслаў Людвігавіч Котвіч / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2012. - № 1. - С. 7-9.

78. Сливкин, В. Война 1812 года: что принесла

она Лидскому краю? / В. Сливкин // Лідская газета. - 2012. - 11 снежня. - С. 4-5.

79. Сліўкін, В. Адкуль наша прозвішча / В. Сліўкін // Лідская газета. - 2011. - 12 красавіка. - С. 3.

80. Сліўкін, В. Панчанкаў Віктар Ільіч / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2011. - № 4. - С. 4-7.

81. Сліўкін, В. Кудлу Віктару Іванавічу - 70 / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2011. - № 4. - С. 14-15.

82. Сліўкін, В. 50 гадоў назад футбольная каманда Ліды ўпершыню стала чэмпіёнам Гарадзенскай вобласці / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2011. - № 3. - С. 27-29.

83. Сліўкін, В. Радзюк Трафім Сямёнавіч / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2011. - № 3. - С. 22-25.

84. Сліўкін, В. Наскоў Іван Міхайлавіч : 100 гадоў з дня нараджэння / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2011. - № 3. - С. 26.

85. Сліўкін, В. Астрынскія, Беліцкія, Васілішскія, Жалудоцкія, Каняўскія, Лідскія, Радунскія і Эйшышскія баяры ў 1528 г. / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2011. - № 1. - С. 23-32.

86. Сліўкін, В. Гісторыя лідскага перыядычнага друку : Частка 1 (да 1990 г.) / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2011. - № 2. - С. 34-46.

87. Сліўкін, В. Лідскі калегіум / В. Сліўкін // Лідская газета. - 2011. - 7 чэрвеня.

88. Сліўкін, В. Тахтамышаў двор / В. Сліўкін // Лідская газета. - 2011. - 26 красавіка

89. Сліўкін, В. Кароль Падчашынскі : 220 гадоў з дня нараджэння / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2010. - № 4. - С. 34-35.

90. Сліўкін, В. Генерал-лейтэнант Юзаф Зарэцкі (Іосіф Заржэцкі) (19.12.1800-29.01.1869) / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2010. - № 4. - С. 36-38.

91. Сліўкін, В. Да стагоддзя Данііла Маркавіча Шапіры / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2010. - № 4. - С. 39.

92. Сліўкін, В. Будзевіч Іван Іванавіч (нар. 25.10.1940 у г. Лідзе) / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2010. - № 4. - С. 39

93. Сліўкін, В. Мужчынская гімназія ў Лідзе / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2010. - № 3. - С. 21.

94. Сліўкін, В. Немцы ў Лідзе. 1941-1944 / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2010. - № 3. - С. 41-46.

95. Сливкин, В. Древняя Лида хороша собой и сегодня / В. Сливкин // Белая Русь. - 2010. - № 3. - С. 7-11.

96. Сліўкін, В. Да пытання аб лакалізацыі Дайнаўскага княства / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2010. - № 2. - С. 24-29.

97. Сліўкін, В. Забыты / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2010. - № 2. - С. 15-16.

98. Дукса, М. "Хай не буду адкінуты навекі" / М. Дукса, А. Вашкевіч, В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2010. - № 2. - С. 17-21.

99. Сліўкін, В. Лідскія ветракі / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2010. - № 2. - С. 41-43.

100. Сліўкін, В. Князі Палубенскія / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2010. - № 1. - С. 20-22.

101. Сліўкін, В. 80 гадоў абутковай фабрыцы / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2009. - № 3-4. - С. 14-15.

102. Сліўкін, В. Райнес (Рэйнес) Іцхак Якаў / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2009. - № 3-4. - С. 26-27.

103. Сліўкін, В. Вадзяныя млыны Лідскай зямлі / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2009. - № 3-4. - С. 42-62.

104. Сліўкін, В. 1379 год. Шлюб Вайдылы з Марыяй Альгердаўнай / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2009. - № 1-2. - С. 16.

105. Сліўкін, В. Ліда. 1839 год / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2009. - № 1-2. - С. 18.

106. Сліўкін, В. Першыя калгасы вясны 1949 года / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2009. - № 1-2. - С. 19.

107. Сліўкін, В. Смаленскія Рурыкавічы на Лідчыне / В. Сліўкін / Лідскі Летапісец. - 2009. - № 1-2. - С. 33-37.

108. Сліўкін, В. Мабілізацыя на Лідчыне ў першай палове 20 стагоддзя / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2009. - № 1-2. - С. 38-58.

109. Сливкин, В. Секрет шейбаковского кирпича / В. Сливкин // Лідская газета. - 2009. - 22 снежня. - С. 4.

110. Сліўкін, В. Востраў, ды не той і не там / В. Сліўкін // Наша слова. - 2009. - № 19. - С. 3.

111. Сліўкін, В. Ліда ў 1938 годзе / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2008. - № 3-4. - С. 24-25.

112. Сліўкін, В. Лідскі замак. Выдумкі і міфы / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2008. - № 3-4. - С. 38-48.

113. Сливкин, В. Самое древнее поселение на Лидчине - Белица / В. Сливкин // Лідская газета. - 2008. - 10 студзеня. - С. 4.

114. Сліўкін, В. Белагрудскі касцёл Святога Арханёла Міхаіла (p.w.S. Michala Archaniola) / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2008. - № 2. - С. 12-13.

115. Сліўкін, В. Абраз пэндзля Юзафа Азямблоўскага ў Лідскім Фарным касцёле / В. Сліўкін; С. Суднік / / Лідскі летапісец. - 2008. - № 2. - С. 28-30.

116. Сліўкін, В. Лідскі замак / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2008. - № 3-4. - С. 38-48.

117. Сливкин, В. Покорнейше доношу, что здесь есть и каменное укрепление / В. Сливкин // Лідская газета. - 2008. - 17 студзеня. - С. 2.

118. Сливкин, В. Летчик, который сбил фашистского асса / В. Сливкин // Лідская газета. - 2008. - 19 студзеня. - С. 3.

119. Сливкин, В. Здесь в классах живет история / В. Сливкин // Лідская газета. - 2008. - 3 мая. - С. 4.

120. Сливкин, В. Дали ему имя вождя всех народов / В. Сливкин / Лідская газета. - 2008. - 12 чэрвеня. - С. 2.

121. Сливкин, В. Лидские корни... короля Андорры / В. Сливкин // Лідская газета. - 2008. - 12 ліпеня. - С. 2.

122. Сливкин, В. Ханские следы у древнего замка / В. Сливкин // Лідская газета. - 2008. - 13 сакавіка. - С. 4.

123. Сліўкін, В. Гісторыя партызанскага атрада "Іскра" / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2007. - № 2. - С. 73-79; № 3-4. - С. 57-77; 2008. - № 1. - С. 57-77; № 2. - С. 69-81.

124. Сліўкін, В. Гісторыя будынка, якому споўнілася 100 гадоў / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2007. - № 3-4. - С. 41-42.

125. Сліўкін, В. Напалеон Орда (11.2.1807 - 26.4.1883) / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2007. - № 1. - С. 18-29.

126. Сливкин, В. Белогрудскому костелу скоро сто лет / В. Сливкин // Лідская газета. - 2007. - 27 студзеня. - С. 3.

127. Сливкин, В. Девчонки когда-то шагали по улицам Лиды / В. Сливкин // Лідская газета. - 2007. - 8 снежня. - С. 3.

128. Сливкин, В. Наш город на карте 1507 года / В. Сливкин // Лідская газета. - 2007. - 8 снежня. - С. 3.

129. Сливкин, В. Почетные граждане Лиды - кто они? / В. Сливкин// Лідская газета. - 2007. - 26 мая. - С. 3.

130. Сливкин, В. Работа художника XIX века хранится в храме / В. Сливкин // Лідская газета. - 2007. - 20 снежня. - С. 3.

131. Сліўкін, В. Сажалі ўсе, або Лёс грамадоўца / В. Сліўкін; С. Суднік // Лідскі Летапісец. - 2006. - № 4. -

С. 27-32.

132. Сліўкін, В. Мастацтва пачынаецца з агню / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2006 - № 4. - С. 33.

133. Сліўкін, В. Будаўніцтва Лідскага замка і ўладкаванне прылеглай тэрыторыі (14 - 5 стагоддзі) / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2006. - № 4. - С. 36-41.

134. Сліўкін, В. Праз усе часы / В.Сліўкін // Беларусь. - 2006. - № 1. - С. 30-32.

135. Сліўкін, В. Вуліца Віленская: гісторыя лідскіх вуліц і пляцаў / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2005. - № 3. - С. 28-38.

136. Сліўкін, В. Лідскае піва / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2005. - № 4. - С. 43-54, 2006. - № 1. - С. 18-29; № 2. - С. 24-36; № 3. - С. 30-42; № 4. - С. 42-50; 2007. - № 1. - С. 76-87.

137. Сливкин, В. В поисках утраченного / В. Сливкин // Советская Белоруссия. - 2005. - 11 июня. - С. 27.

138. Сліўкін, В. Вандроўка па гісторыі Мажэйкава / В. Сліўкін // Лідская газета. - 2005. - 11 чэрвеня. - С. 3.

139. Сливкин, В. Что таит название "Люборы" / В. Сливкин // Лідская газета. - 2006. - 28 студзеня. - С.4.

140. Сліўкін, В. Помнікі, звязаныя з падзеямі 2-й Сусветнай вайны на тэрыторыі г. Ліды і Лідскага раёна / В. Сліўкін, А. Каладзяжная; фота // Лідскі Летапісец. - 2005. - № 1-2. - С. 32-52.

141. Сліўкін, В. Тарнова / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2005. - № 1-2. - С. 83-88.

142. Сліўкін, В. Лідскае падполле. Хроніка супраціву / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2004. - № 3-4. - С. 24-26.

143. Сліўкін, В. Аднаўленне Ліды: ліпень-снежань 1944 гг. / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2004. - № 3-4. - С. 27-34.

144. Сліўкін, В. Лідчына ў паўстанні 1794 года / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2004. - № 1-2. - С. 23-38.

145. Сліўкін, В. Малое Мажэйкава (цяпер Мажэйкава) / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2004. - № 1-2. - С. 39-48.

146. Сливкин, В. Лида: легенды и реальность. Даты её основания / В. Сливкин // Лідская газета. - 2004. - 18 верасня; 22 верасня. - С. 5.

147. Сливкин, В. Твоё имя из седой старины / В. Сливкин // Лідская газета. - 2004. - 28 жніўня. - С. 4.

148. Сліўкін, В. Ваверка была горадам? / В. Сліўкін // Лідская газета. - 2004. - 26 лютага. - С. 5.

149. Сліўкін, В. Дзе ж было заключана Востраўскае пагадненне? / В. Сліўкін // Голас Радзімы. - 2004. - 22 красавіка. - С. 19.

150. Сліўкін, В. Пранёсся век - і горад не пазнаць / В. Сліўкін // Лідская газета. - 2004. - 22 студзеня. - С. 3.

151. Сліўкін, В. Урбанонімы горада Ліды / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2002. - № 1. - С. 9-18; 2003. - № 2. - С. 8-15; № 3-4. - С. 35-39.

152. Сліўкін, В. Лідзе - 680 гадоў / В. Сліўкін; С. Суднік // Лідскі Летапісец. - 2003. - № 1. - С. 8-10.

153. Сливкин, В. Там, над речкой Каменкой / В. Сливкин // Лідская газета. - 2003. - 21 жніўня. - С. 3.

154. Сліўкін, В. Ліст І. Дамейкі на Лідчыну / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2002. - № 3. - С. 17.

155. Сліўкін, В. Гісторыя адукацыі ў Лідзе / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2002. - № 3. - С. 23-28, № 4. - С. 20-26; 2003. - № 1. - С. 22-27, № 2. - С. 16-18, № 3-4. - С. 40-45.

156. Сліўкін, В. Лідскай "Свабодзе" - 100 гадоў / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2002. - № 4. - С. 9-10.

157. Сліўкін, В. Знішчэнне лідскіх яўрэяў / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2002. - № 2. - С. 23-28.

158. Сліўкін, В.В. Літаратурная Лідчына / В.В. Сліўкін; Т.І. Зенюкевіч // Лідскі Летапісец. - 2001. - № 4. - С. 19-29.

159. Сліўкін, В. Хрысціянства на Лідчыне / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2001. - № 1. - С. 11-17, № 2. - С. 18-23, № 3. - С. 17-24.

160. Сліўкін, В. Уладзімір Мурахвер пра людзей і пра сябе / В. Сліўкін // Тэлескоп. - 2001. - 6 снежня. - С. 4.

161. Сліўкін, В. Лідскі чыгунна-ліцейны і машынабудаўнічы завод братоў Шапіраў у 1914 годзе / В. Сліўкін, С. Суднік // Лідскі Летапісец. - 2001. - № 3. - С. 29-31.

162. Сліўкін, В. Лідзяне XX стагоддзя / В. Сліўкін [і інш.] // Лідскі Летапісец. - 2001. - № 2. - С. 9-12.

163. Сливкин, В. 22 июня 1941 года. Как это было / В. Сливкин // Принеманские вести. - 2000. - 15, 22, 29 июня; 6 июля. - С. 3.

164. Сліўкін, В. Грамадзянская вайна на Лідчыне 1944-1954 гады / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2000. - № 1. - С. 10-17, № 2. - С. 18-22, № 3. - С. 26-31, № 4. - С. 16-23.

165. Сліўкін, В. На подступах да сусветнай Веды / В. Сліўкін, С. Суднік // Лідскі Летапісец. - 2000. - № 4. - С. 24-30.

166. Сліўкін, В. Старажытныя пасяленні Лідчыны / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 2000. - С. 23-26.

167. Сліўкін, В. Шахматны кампазітар з Ліды / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 1999. - № 8. - С. 11-14.

168. Сліўкін, В. Некаторыя тлумачэнні да прывілею / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 1999. - № 8. - С. 17-18.

169. Сліўкін, В. Найстаражытнейшыя пасяленні Лідчыны / В. Сліўкін, Н. Таванюк; фота // Лідскі Летапісец. - 1997. - № 3. - С. 12-17; 1998. - № 4. - С. 16-20, № 5. - С. 16-21; 1999. - № 6. - С. 15-20, № 7. - С. 16-19.

170. Сліўкін, В. Першыя Саветы / В. Сліўкін, М. Хацяновіч // Лідскі Летапісец. - 1999. - № 7. - С. 20-24.

171. Сліўкін, В. Да гістарычных зьвестак Тэадора Нарбута пра Ліду / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 1998. - № 4. - С. 10-11.

172. Сліўкін, В. Лідчына ў паўстанні 1863 года / В. Сліўкін, С. Суднік // Лідскі Летапісец. - 1998. - № 4. - С. 12-15.

173. Сьліўкін, В. Развагі пра Лідзкі замак / В. Сьліўкін // Лідскі Летапісец. - 1997. - № 2. - С. 10-15.

174. Сліўкін, В. Заснаванне Ліды / В. Сліўкін // Лідскі Летапісец. - 1997. - № 1. - С. 7-9.

175. Сливкин, В. 8 июля 1944 года / В. Сливкин // Принеманские вести. - 1999. - № 10. - С. 3.

176. Сливкин, В. Древнейшие поселения Лидчины / В. Сливкин // Телескоп. - 1998. - 18 февраля. - С. 2.

**Пра яго:**

1. Хітрун, А. Нястомны і руплівы краязнавец Зямлі Лідскай / А. Хітрун // Наша слова. - 2015. - № 23. - С. 5.

2. Ковальчук, И. Геолог, краевед с душой поэта / И. Ковальчук // Лідская газета. - 2010. - 8 чэрвеня. - С. 6.

3. Жалкоўскі, А. Пра гісторыю Ліды / А. Жалкоўскі // Принеманские вести. - 2007. - 24 мая. - С. 6.

4. Жалкоўскі, А. Пра старажытны горад... / А. Жалкоўскі // Краязнаўчая газета. - 2007. - № 22. - С. 4.

5. Суднік, С. Сліўкін Валеры / С. Суднік // Лідскі Летапісец. - 2005. - № 1-2. - С. 11.

6. Валерыю Сліўкіну [(нар. у 1945 г., Ліда)] - 60 // Наша слова. - 2005. - 8 чэрвеня. - С. 1.

7. "Засветились" ли в Лиде мировые рекордсмены? // Лідская газета. - 2004. - 24 ліпеня. - С. 4.

***Лідская ЦРБ.***

*Міхал Шымялевіч*

# БЕЛАГРУД[1]

### 1. Наваколле

Наваколле Ліды мае характар нязначна сфалдаванай (хвалепадобнай) раўніны, нахіленай да атачыўшых яе з усіх бакоў рэкаў Жыжмы, Дзітвы, Гаўі і Нёмана. Паўночная частка гэтай раўніны ўздымаецца ў асобных пунктах да 206 м над узроўнем мора (Юльянава ці Аўсядава), у той жа час паўднёвая спадае да 124 м (вусце Лідзейкі ў Дзітву). У правякі адзін з языкоў гіганцкага ледніка, які раставаў і ўсцяж пасоўваўся на паўднёвы захад, сцёр сваім цяжарам і згарнуў з роўнай перад тым паверхні марскога дна пэўную колькасць чырванаватай гліны, пяскоў, жвіроў, рознай велічыні камянёў, а таксама іншых матэрыялаў ды насыпаў на паўднёвы захад ад сённяшняй Ліды лакальны вал ці так званую франтальную марэну. Пасля адступлення ледніка атмасферныя ападкі павыдзеўблі з бегам стагоддзяў і выпаласкалі значныя абшары ўсёй Лідскай раўніны і пашчэрбілі франтальную марэну, пакідаючы толькі яе абломкі, складзеныя з больш моцных і цяжкіх матэрыялаў. Тыя абломкі франтальнай марэны ў выглядзе разарванага шэрагу тэрытарыяльных узвышшаў выразна выступаюць у ваколіцах Ліды, каля Варнішак, Малгоў, Кульбакаў, Белагруда і Вялікага Ольжава. Уздоўж таго шэрагу ўзвышэнняў, атачаючы яго з захаду і паўдня, коціцца натуральны сцёк вады - рака Дзітва.

Белагрудскае ўзвышша размешчана за 14 км на паўднёвы захад ад Ліды, мае даўжыню 2 км, шырыню каля 0,5 км, складаецца з групы пагоркаў з закругленымі вяршынямі і падымаецца на 31 м над лакальным узроўнем люстра р. Дзітвы, або - 162 м над узроўнем мора. Павернуты да Дзітвы паўднёва-заходні зарослы лесам бераг гэтага ўзвышша дастаткова круты і на фоне рачной даліны ствараe найпрыгажэйшы краявід. Паводле мясцовай тэрміналогіі высокае сухое месца сярод балота называецца “груд”, а паколькі Белагрудскае ўзвышша складаецца ў значнай меры з белых пяскоў, таму той мясцовасці нададзена назва белага груда ці Белагруд[2].

На карце Rizzi Zannoni, выдадзенай у Парыжы ў 1772 г., паміж Лідай і Мыто пазначана вялікая лясная прастора з назвай “Лідскі лес”. Прастора тая калісьці складалася з лясных абшараў, якія належалі да Лідскага староства, Цыбарскага дзяржання, маёнткаў Дайнава, Белагруд і інш. Асклёпкі тых лясоў захаваліся ажно да сённяшніх часоў, і таму гэты закуток можа найпрыгажэйшы і найцікавейшы ў ваколіцах Ліды. Асабліва прыгожы тракт з Ліды да Белагруда, які ў значнай ступені працінае тыя лясы.

У даўнейшыя часы дарога з Ліды на Слонім, ці так званы Беліцкі гасцінец, бегла з Ліды на Гарні, Палубнікі і Любары, дзе быў пабудаваны вялікі мост цераз Дзітву. Перад Ольжавам ад той дарогі адхілялася дарога на фальварак Белагруд, беглам яна цераз Дзітву на Парачаны, Голдава і Жалудок і была вядомая пад назвай Зэльвенскага гасцінца. Іншая дарога з Ліды на Навінкі бегла каля Астроўлі і Цыбараў на мост цераз Дзітву, на якім ад даўна бралі аплату маставую ці грэблевую або так званае мыта, адкуль і паселішча, размешчанае каля таго моста і называнае некалі Дзітва, атрымала назву Мыто. Дарога тая называецца ў Лідзе Мытлянскім гасцінцам. Ішоў ён на Васілішкі, Астрыну і Азёры да Гародні. У 1796 годзе па загаду Кацярыны II тагачасны літоўскі генерал-губернатар князь Рапнін распачаў у акупаваным краі пабудову новых дарог. Для выканання таго пачынання сагналі тысячы мужыкоў, і на працягу некалькіх месяцаў былі пабудаваны новыя прамыя і шырокія тракты, між іншым з Вільні на Ліду, а з Ліды - адзін на Мінойты і Руду да Слоніма і Навагрудка, другі - якраз да Гародні. Новы Гарадзенскі тракт выходзіў з Ліды з вуліцы Каменкі і вёў на Раклёўцы, Малое Ольжава і Арлянку. Не гледзячы на тое, што з Ліды да Гародні цераз Астрыну налічвалася 100 вёрст, новы тракт скіравалі на вялікія панскія двары - Тарноўшчыну, Вялікую Лебяду, Вялікае Мажэйкава, Ішчалну, Шчучын і Каменку, і адлегласць паміж Лідай і Гародняй павялічылася да 116 вёрст. У лютым 1797 г. гэтым трактам у карэце пад канвоем правезлі з Гародні на Ліду і Вільню ў Пецярбург няшчаснага караля Станіслава Аўгуста, а праз тры месяцы ў атачэнні вялікіх княжат і пышнай світы праімчаў туды цар Павел I, пакінуўшы ў памяці мясцовай люднасці адзіны свой начлег у піяраў у Лідзе. У памятным “годзе вайны” прайшлі тым трактам палкі казацкія і палкі напалеонаўскія. Да 1906 г. адбываўся тудой перавоз пошты з Ліды на Ішчалну, Жалудок, Шчучын і Васілішкі. Калі ў тым годзе рух пошты перанеслі на чыгунку Полацк - Сядлец, тракт замёр амаль цалкам і захаваў толькі значэнне гміннай дарогі.

У 1902 - 1905 гг. была пабудавана чыгуначная каляя Маладзечна - Ліда - Ваўкавыск з жалезным мостам цераз Дзітву пад Парачанамі. Першую чыгуначную станцыю ў бок Ваўкавыска пабудавалі на

[1] Белагруд - ранейшая і больш правільная назва сучаснай Белагруды. Менавіта гэтая назва будзе ісці па тэксту. *Рэд.*

2 Назва Белагруд паходзіць сапраўды ад наяўнага тут некалі белага груда, але складаўся ён не з белага пяску, а было гэта радовішча вапны, даўно выпрацаванае і забытае, пра што ёсць пісьмовыя сведчанні. *Рэд.*

адлегласці 29 вёрст ці 32 км ад Ліды. Жыхары ваколіц Белагруда былі пазбаўлены магчымасці карыстання чыгункай і дабіраліся да Ліды пеша або возам. Толькі пасля вайны на тым чыгуначным адрэзку ўсталявалі прыпынак у Белагрудзе, што дало магчымасць люднасці карыстацца больш выгадным сродкам даезду за дробную аплату.

Дзякуючы прыгожаму размяшчэнню, выгаднаму даезду і добрым кліматычным умовам Белагруд належыць лічыць за найлепшую мясцовасць для адпачынку і летнікаў для лідзян. Выпадае пры гэтым успомніць, што аматары зімовага лыжнага спорту ваколіцы Белагруда лічаць за лепшае месца, якім лідскія лыжнікі карыстаюцца кожнай зімой.

У сувязі з камасацыяй[3] вёскі Гарняты характар ляснога краявіду быў, што праўда, трохі пашарпаны. Але мясцовы ксёндз - пробашч Стэфан Гародка, прагнучы ўратаваць ад знішчэння прыгажосць тых ваколіц, учыніў моцныя старанні ў кірунку забеспячэння недатыкальнасці занятых лесам пагоркаў. З той жа мэтай, бачачы, што вясковыя людзі, прыйшоўшы на дзялкі пасля камасацыі, пачынаюць прыступаць да цераблення лясоў, якія ў маляўнічасці таго краявіду адыгрываюць найбольшую ролю, пастараўся аб тым, каб людзям тым аддаць ва ўласнасць паважную паласу дагледжаных касцельных грунтоў узамен на захаванне цэласці лясных зарасляў. Такім спосабам ксёндз Гародка ўратаваў частку характару таго першабытнага, сапраўды маляўнічага храма прыгажосці тутэйшага краявіду.

### II. Зямельныя ўладанні

Белагрудская ваколіца яшчэ за часы Ўладзіслава Ягайлы, гэта значыць у першай палове XV стагоддзя, складала адно ўладанне і належала роду Завішаў. Паводле традыцыі, Завішы належалі да найдаўнейшай літоўскай шляхты і ўжывалі пячатку Ружы - герб, прынесены на Літву, як казалі, продкам іх Гектарам з дружыны Палямона. Пазней, у выніку сваяцтва Завішаў з Кезгайламі і Шэмятамі, для тых радоў зрабіўся супольным адзін герб - Лебедзь. Не мелі нашыя Завішы нічога агульнага ані з Завішамі вялікапольскімі, ані з Параем[4], які сюды быў перасаджаны для Білмінаў толькі пасля Гарадзельскай уніі ў 1413 г. Казімір Ягелончык, будучы яшчэ Вялікім князем літоўскім, каля 1442 г. пацвердзіў Завішу 12 людзей парачан у Лідскай воласці, якія ўжо перад тым былі яго спадчынай па бацьку, і таму ж ці іншаму Завішу - Андрэю, свайму кухмістру - даў пяць людзей над ракой (Дзітвой?) у Ольжаве. Каля 1488 г. валодаў часткай тых грунтоў Міклаш Завіша, каралеўскі дваранін, пасля якога землі тыя перайшлі: адна палова - на левым беразе Дзітвы - брату яго Андрэю Завішу, Віленскаму цівуну, а другая палова - на правым беразе Дзітвы - другому брату яго Юрыю Завішу. Усё гэта рабілася каля 1500 г. Абедзве тыя часткі Белагрудскіх абшараў называліся Белагрудам. Нашчадкі Андрэя Завішы на сваёй частцы Белагруда трымаліся да другой паловы XVII ст. Юры Завіша пакінуў сыноў Мікалая, Крыштафа, Ольбрахта і Яна, а таксама дачку ў замустве за Мікалаем Гамшэем. Паводле попісу 1528 г. тыя ж Завішы са сваёй часткі Белагруда ставілі з Васілішскім паветам 3 коней. Каля 1560 г. гэтую частку Белагруда разам з Вашкевічамі набыў ад Завішаў князь Андрэй Вішнявецкі, які праз дваццаць гадоў прадаў яе Ярашу Мікалаевічу Ваўчку.

На схіле XVI ст. унук Андрэя Завішы Ян Янавіч Завіша, падкаморы Лідскі, пазней кашталян і ваявода Віцебскі выкупіў раскіданыя часткі Белагруда і 11 лютага 1593 г. на ўладаннях тых, а таксама на ўладаннях сваіх Швекшнях забяспечыў на карысць жонкі сваёй Анастазіі з Трызнаў Завішы 400 коп літоўскіх грошаў. Пасля смерці ваяводы Віцебскага землямі тымі разам з Жырмунамі і Вostравам валодаў пляменнік яго Мікалай Завіша, таксама кашталян Віцебскі, а калі і ён памёр без нашчадкаў, мела іх у сваім валоданні ўдава яго Гальшка з Тышкевічаў Завіша, якая ў 1658 г. аддала ў заклад Рудзінскім баяр Банцэвічаў адлучаных ёю ад Белагруда. Пад канец XVII ст. валодала Белагрудам дачка Яна Юрыя Завішы, старасты Браслаўскага - Ганна, у першым замустве (каля 1690 г.) жонка Пятра Амора, графа Тарноўскага, а ў другім - Крыштафа Шчыта, кашталяна Смаленскага. Памяць тых двух прозвішчаў увекавечана ў назвах маёнтка Тарноўшчына і фальварка Шчытнікі.

У палове XVIII ст. Жырмуны, Востраў і Тарноўшчына з Белагрудам з волі Барбары з Завішаў княгіні Радзівіл сталіся ўласнасцю яе дзяцей, прычым у выніку сямейнага раскладу Тарноўшчына з ваколіцамі адышла ў валоданне яе сына Станіслава Радзівіла (1722-1784), падкаморага Літоўскага. Пасля Станіслава Радзівіла землямі тымі валодаў князь Мікалай Радзівіл, уладальнік Жырмун, Явара і Бярдзічава. У 1808 г. Мікалай Радзівіл выдаў на Тарноўшчыну застаўное права Тадэвушу Андрэйкавічу на 10 тыс. чырвонных злотых і 130 зл. польскіх. Калі потым за гэтую прыналежнасць вынік судовы працэс. то ў 1824 і 1825 г. бакі падпісалі пагадненне ў выніку якога Андрэйкавіч стаў уладальнікам Тарноўшчыны. Пазней сын яго Юлій Андрэйкавіч прадаў Тарноўшчыну Канстанціну Кашыцу.

Канстанцін Кашыц сын Юзафа, афіцэра 19 палка ўланаў з 1812 г., пазнейшага маршалка Навагрудскага і эмігранта па 1831 г., нарадзіўся ў 1828 г., адукацыю атрымаў ва ўніверсітэце ў Дэрпце, дзе атрымаў ступень кандыдата дыпламатычных навук, вызначаўся незвычайнымі здольнасцямі, а асабліва рэзкім словам і вострым пяром. У 50-х гадах мінулага стагоддзя, калі былі яшчэ дзейныя шляхецкія соймікі, слушнымі жартамі і эпіграмамі моцна дакучаў павятовым і губернскім чынам, праз што нарываўся на

[3] Камасацыя - ліквідацыя цераспалосіцы. *Рэд.*

[4] Герб, утвораны выявай кветкі з пяцю пялёсткамі, якую часта называюць чамусьці ружай. *Рэд.*

прычэпкі з іх боку. Пра аднаго такога саноўніка, які пішучы ліст да знаёмага слова *"аўторак" ("wtorek")* напісаў праз *ф - "афторак" ("ftorek")*, за што быў празваны "пан Афторак" ("pan Ftorek") - склаў некалькі вершаваных сатыр пад назвамі: "Загадка", "Крыжык", "Дагератып", "Пастка на крэскі (сеймікавыя галасы ці воты)" і г.д. Кашыц браў чынны ўдзел у падзеях 1863 г., за што быў арыштаваны. Добра разумеў, што яго пераследуюць свае, і, адчуваючы сябе здраджаным, упаў духам. Сасланы на выгнанне, праз нейкі час вярнуўся ў край і змушаны быў, як кажуць, "дабраахвотна" падпісаць 25 траўня 1866 г. акт, у сілу якога Тарноўшчыну з фальваркамі Рубікі, Шчытнікі, Белагруд, Чыжэўшчына і Банцавічы, разам каля 2500 дзесяцін, прадаў палкоўніку Маўрасу за 56300 рублёў, у гэтай суме набыўца прыняў да пагашэння 12000 рублёў доўгу былога ўладальніка Юлія Андрушкевіча і саступіў прадаўцу дом у Рызе, ацэнены ў 25000 рублёў. Не ўратавала гэта аднак Кашыца, бо ён быў зноў сасланы ў Сібір і, вярнуўшыся праз некалькі гадоў, памёр у 1881 г.

Новы ўладальнік Тарноўшчыны быў унукам Георгія Маўраса, у 1785 г. гаспадара Малдавіі. Сын гаспадара Мікалай у 1828 г. у час вайны з Турцыяй эміграваў у Расію, а ўнук Дзімітр як афіцэр расійскага войска у 1849 г. браў удзел у задушэнні паўстання ў Венгрыі і Трансільваніі, у 1853-1856 г - ва Ўсходняй вайне, а ў 1863-1864 - у задушэнні паўстання на Літве і Белай Русі. Ад 1873 г. Дзімітр Маўрас у рангу генералмаёра камандаваў 1-й брыгадай 27 дывізіі пяхоты ў Вільні, а ў 1877-1878 г. - 6-й рэзервовай дывізіяй пяхоты ў вайне супраць Турцыі. У 1879 г. выйшаў на пенсію ў рангу генерал-лейтэнанта і асеў на стала ў Вільні ва ўласным доме па вуліцы Міцкевіча. На канікулы заязджаў Маўрас з сям'ёй у Тарноўшчыну, дзе пабудаваў мураваны двухпавярховы дом з вежай, царкву, гарэльню, ветраны млын і да т. п. Акрамя Тарноўшчыны Маўрас набыў Мыто, Дзітву Талвашоўскую, Паперню, Нявішу, Дубічы, Вялікую Лябяду, Зданаўцы, Няцеч, Ярэмічы, Жукаўшчыну і інш., разам каля 15000 дзесяцін або 150 квадрвтных км - цэлае нямецкае княства! У 1876 г. атрымаў Маўрас у кесара Франца Іосіфа дыплом на графскі тытул, які яму ў тым жа годзе прызнаў цар Аляксандр II. Маючы аднаго сына Мікалая і хочучы нашчадкам сваім забяспечыць на вечныя часы магнацкія сродкі ўтрымання, гр. Дзімітр Маўрас атрымаў ад цара Аляксандра III ўказ ад дня 20 снежня 1883 г., у сілу якога з зямель Тарноўшчыны з ваколіцамі Андрушак, Малога Ольжава і Данеўшчыны, агульнай плошчай 3557 дзесяцін і 600 квадратных сажняў была ўтворана ардынацыя, у склад якой былі ўключаны дом у Вільні, багатая бібліятэка і каштоўныя кляйноты. Паводле статуту гэтай ардынацыі выдзелены маёнтак пасля смерці першага яго ўладальніка меў перайсці да сына яго гр. Мікалая Маўраса і да паходзіўшых ад яго нашчадкаў з захаваннем паміж спадкаемцамі старшынства паводле першародства і з перавагай мужчынскай лініі над жаночай. Памёр Дзімітр Маўрас у 1896 г., а за няпоўныя трыццаць гадоў пасля яго смерці магнацкая фартуна рассыпалася і ад афармленай спецыяльнай уставай ардынацыі засталася адна частка. Гр. Маўрас пасля смерці сваёй жонкі быў прызнаны за асобу няпоўнага розуму і ў 1911 г. быў аддадзены пад апеку, а ў 1919 г. памёр у Гатчыне. Павятовы надаўчы камітэт у Лідзе 11 красавіка 1921 года прыняў ва ўласнасць Польскай дзяржавы частку той ардынацыі - фальваркі Малы Ольжаў, Шчытнікі, Белагруд, Чыжоўшчыну і Бабоўцы агульнай плошчай 304,2564 га.

**III. Пробства**

Белагрудскі парафіяльны касцёл, як апавядае "Інвентар" яго за 1860 г., *"пабудаваны ў 1609 г. месяца студзеня. 15 дня я. в. Янам Завішам, ваяводам Віцебскім у Віленскай губерні, Лідскім павеце, хоць і ў месцы партыкулярным, але вельмі прыгожым, над ракой Дзітвой на ўзнёслым узгорку, на адлегласці ад павятовага горада Ліды ў 13 вёрст. Быў асвечаны пад назвай Св. Арханёла Міхаіла, але не вядома калі і кім"*. Гэтую кароткую рэляцыю пра пачатак Белагрудскага касцёла можам дапоўніць звесткамі, пачэрпнутымі з шаноўнай гісторыі кс. Яна Курчэўскага "Віленскае біскупства" *(Вільня, 1912 г., с. 210)*: *"Белагруд, 5 класа, пад назвай Св. Арханёла Міхаіла, закладзены драўляны Янам Завішам, ваяводам Віцебскім, які аплочваючы той касцёл у 1609 г. (15 лютага) сказаў, што пабудаваў яго ў маладым веку, адразу па сваім навяртанні; надаў касцёлу фальв. Мядзеўшчыну - 8 валок, вёску Янаўляны - 10 валок з падданымі, барок і сенажаць над Дзітвой, права лоўлі рыбы ў Дзітве і 10 коп літоўскіх грошаў штогод з двара Белагруда на ксендза і кантараў з абавязкам на дзве імшы штотыднёва"*. Касцёл той быў высвечаны пад назвай Найсвяц. Панны Марыі. У 1703 г. касцёл нанава адбудаваў уладальнік Дзітвы Шамятоўскай Уладзіслаў Шэмят. Фундуш касцёла павялічыў Караль Рагоўскі, запісаўшы яму 20 кастрычніка 1730 г. дом у Лідзе. У 1832 г. Лідскі земскі суд прызнаў таму ж касцёлу як кампенсацыю за даўгавое абавязальніцтва ад Бінкі Шмуйлавіча Камянецкага пляц з домам у Лідзе. Пляц той пры вуліцы Лідскай з'яўляецца ўласнасцю Белагрудскага касцёла аж да гэтай хвілі[5].

Зямельны фундуш гэтага касцёла - фальварак пры вёсцы Мохавічы (лепей Янаўляны), які даўней называўся Мядзёўшчына, у 1844 годзе быў прыняты ў скарб дзяржавы і ўключаны ў склад дзяржаўных зямель Дуброўна (перад тым сталовыя землі Віленскага біскупства). На момант секулярызацыі фундуш той меў ворнай зямлі, лугоў і да т. п. 100 дзесяцін, лесу 164 $^{1}/_{2}$ дзесяціны, сялянскіх зямель вёскі Янаўляны на 5 дымоў 100 дзесяцін, падданых душ мужчынскіх - 23 і жаночых - 25, дзве карчмы - у вёсцы Мохавічы і пры касцёле. У 1854 г. з даўняга фальварка Мядзёў-

[5] Да хвілі напісання артыкула. *Рэд.*

шчыны да касцёла прыдзелена як бенефіцыя нармальная дзялка плошчай 33 дзесяціны з даўнімі фальваркавымі будынкамі.

У тым фальварку аддаўна знаходзілася плябанія і капліца, у якой пробашчы адпраўлялі штодзённае набажэнства. У 1850 г. белагрудскі пробашч кс. Лінкін пабудаваў тут новую драўляную капліцу.

Мясцовы пробашч кс. Юзаф Дэксніс у 1892 годзе выбудаваў новую драўляную плябань ужо пры самім касцёле ў Белагрудзе. Белагрудскія пробашчы акрамя даходу з касцельнага фальварка і апрача штатных выплат ад скарбу дзяржавы аж да 1915 г. атрымлівалі таксама адсоткі ад прынятых ў дзяржаўную адміністрацыю фундушовых капіталаў, абапёртых на прыватных земскіх маёнтках. Уладальнікі тых маёнткаў з году ў год аплачвалі з той мэтай у скарбовую касу разам з падаткамі ўстаноўленую квоту пад назвай прыватнай павіннасці.

Белагрудская парафія была ўтворана з частак Лідскай і Ваверскай парафій Віленскім біскупам кс. Абрагамам Войнам у пачатку XVII ст. У кнізе хрысціянскіх метрык названы наступныя паселішчы, якія належалі ў той час да Белагрудскай парафіі: Шчытнікі, Кульбакі, Ольжава, Горнае або Горны (Гарняты?), Кавалі, Дайнава, Бабоўцы, Банцавічы, Мохавічы, Зайкі, Далекія, Раклёўцы, Парачаны, Янаўляны, Молгі, Ваўчылавічы, Бельскія, Дзітва Актавая, Цыбары, Навіны, Любары. Паводле дэцызіяльнага сіноду, які адбыўся 10-12 лютага 1744 г. у Вільні, Белагрудская парафія мела ўключаць наступныя дамены: Тарноўшчыну з Белагрудам і Шчытнікамі, Дзітву, Кульбакі, Сеўрукоўшчыну, Данеўшчыну, Малы Ольжаў і біскупскія вёскі - Янаўляны, Дубчаны і Мохавічы. Люстрацыя Лідскага павета 1796 года называе наступныя земскія валоданні, якія належалі да складу парафіі: Рубікі, Сеўрукоўшчына, Данеўшчына, Старая Дзітва, Тарноўшчына з прыналежнымі Белагрудам і Кульбакамі. Канчаткова ўстаноўленыя граніцы гэтай парафіі арцыбіскупам Галавінскім у 1844 г. у асноўным пратрывалі да сённяшняга дня[6]. У 1781 г. Белагрудская парафія налічвала 1727 душ, у 1845 - 1692 душы, у 1860 - 1492 душы, а ў 1910 - 2300 душ.

Паколькі Белагрудская парафія ў XVIII ст. ахоплівала некаторыя ўладанні князёў Радзівілаў, як Востраў, Дайнава, Вялікі Ольжаў і Тарноўшчыну, то Белагрудскі касцёл бывала кіраваўся пробашчамі жырмунскімі і нават здзецельскімі, як тыя, хто нараўне з белагрудскімі атрымоўвалі прэзенты ад Радзівілаў і лічыліся радзівілаўскімі слугамі. У раёне Белагрудскай парафіі было некалькі капліц - у Дайнаве, Вялікім Ольжаве, Дзітве Шамятоўскай, Данеўшчыне, Востраве, Радзівонішках. У 1781 годзе да гэтага касцёла належаў філіял у Дылеве. Ксяндзы-аўгустыяне пустыннікі мелі ў сваім закладным уладанні радзівілаўскія землі Дайнава і Вялікі Ольжаў, у якіх утрымоўвалі сваіх капеланаў. Мелі капеланаў таксама і некаторыя прыватныя гаспадары буйных зямельных уладанняў.

[5] Да дня напісання артыкула. *Рэд.*

Акрамя таго ў Радзівонішках і Мыце былі ўніяцкія цэрквы. Пры чым у метрычных кнігах Белагрудскага касцёла не рэдка сустракаюцца ў XVIII ст. і першай палове XIX ст. побач з прозвішчамі мясцовых пробашчаў таксама і ксяндзы-манахі і прыватныя капеланы і, нават, уніяцкія парахаі, якія ў адсутнасць і ў замяшчэнне пробашчаў таго касцёла выконвалі духоўныя паслугі для мясцовай люднасці рыма-каталіцкай. Падаём тут пералік капланаў, пра якіх, як выканаўцаў духоўных паслуг у Белагрудскай парафіі, згадваюць метрычныя кнігі таго касцёла ад пачатку XVIII ст.

“Ксёндз **Юзаф Рыхтар**, плябан Белагрудскі, які быў пасвечаны на капланства года 1670, дня 1 сакавіка, на плябань Белагрудскую ўзведзены ў 1679 г. дня 20 чэрвеня, памёр у 1716 г., дня 18 лютага і тут пакладзены” (надпіс на могілках у Белагрудзе).

1723 г. - **Стэфан Вайціцкі**, парах Белагрудскі.

1726 г. - **Якуб Лянкевіч**, Capelanus Loci ordinaryi.

1731 г. - **Аляксандр Рубскі**, парах і прапаведнік Белагрудскі.

1735 г. - **Феліцыян Блажаевіч**.

1737 г. - **Юзаф Антоні Сахацкі**.

1743 г. - **Эўстахі Ляшчэўскі**, Ord. Eremitorum S. P. Nostrio Aug.

1744 г. - **Мікалай Больтц**, Sacr. Theologiae Doktor Ordinis Eremitorum S. Patris Augustini Prowinciae Poloniae Prior Prowicialis.

1773-1780 г. - **Мартын Догель**, Comandarus et Curatus Bialohrud.

1774 г. - **Геранім Руткоўскі**, аўгустыніянін.

1784 г. - **Міхал Абрамовіч**, начальнік Белагрудскі.

1785 г. - **Амброзі Орда**, S. Augustial Capelanus Aule Olzewiensis ex constsslone parochi loci hujus.

1782 і 1785 г. - **Красцэнты Сумарок**, Curatus Bialohrudensis.

1786 г. - **Міхал Старэнскі**, Ritus Graeci Comendarius Bialohrudensis.

1786 г. - **Ануфры Ясінскі**, пробашч у Ракавічах.

1790 г. - **Францішак Адравуж Высоцкі**, Decanus Lidensis Prepositus Zyrmuntnsis et Administrator Eccleslae Bialohrudensis, які ўтрымліваў у той жа час вікарыя Мацея Бразоўскага.

1791 г. - **Станіслаў Роля Каменскі**, куратар і парах Белагрудскі да 1 студзеня 1799 г.

Ад 1 студзеня 1799 г. - **Францішак Саламановіч**, куратар Белагрудскі, алтарыст Здзецельскі.

Ад пачатку 1803 года - **Тамаш Руткоўскі**, Praesbiter Ecclesiae Bialoyrudensis да 1822 г.

У 1814 г. - **Караль Хяльмінскі**, Ritus Graeci.

У 1815 г. - **Ян Радкевіч**, Prowisor Mytlensis.

У 1815 г. - **Павел Сцяпурынскі**, парах Радзівонішскі ад 1788 г.

У 1815 г. - **Давід Кургановіч**, парах Голдаўскі.

У 1815 г. - **Аляксандр Календа**, парах Лідскі.

У 1817 г. - **Станіслаў Нарыеўскі**, аўгустыніянін.

У 1820 г. - **Цыпрыян Чыжэўскі**, аўгустыніянін.

У 1820 г. - **Максім Зубрыковіч**, аўгустыніянін.

1822 г. - **Сімон Брадоўск**і, P. Aug.

1824 г. - **Аляксей Дабейка**, аўгустыніянін.

1826 г. - **Гіацынт Скобелаў**, Ord. Piar. (?).

1826 г. - Людвік Кадзевіч, аўгустыніянін.

1836 г. - **Праспер Дакшэвіч**, адміністратар Белагрудскі.

1843 і 1846 г. - **Юзаф Кулеша**, адміністратар Белагрудскі.

1850 г. - **Клеменс Лінкін**, капелан Дваранскай школы ў Лідзе.

У 1860 г. пасля Лінкіна адміністрацыю парафіі прыняў **Бярнард Пятрусевіч**.

Ад 9 ліпеня 1862 г. - **Юзаф Стралкоўскі**.

1868-1885 г. - **Валяр'ян Пятроўскі**.

У тую малую і бедную парафію ў 1902 годзе быў пераведзены з філіяла Бутрыманцы на пробства кс. Казімір Сталеўскі, які перад тым быў пробашчам спачатку ў Параф'янаве, а потым у Ішчалне. Ксёндз Сталеўскі ў прыгожым Белагрудзе знайшоў вельмі стары і зруйнаваны часам касцёлік. Праз колькі гадоў вельмі цяжкай і ахвярнай працы кс. Сталеўскі за сабраны з ахвяр капітал пабудаваў новы мураваны касцёл - сціплы, але надзвычай прыгожа дастасаваны да навакольнага краявіду. Касцёл той высвяцілі ў 1908 г. пад назвай Св. Арханёла Міхаіла.

У вялікім алтары Белагрудскага касцёла ад даўняга часу знайходзіцца старажытны абраз Маці Божай Балеснай. Праўдападобна, абраз той паходзіць з канца XVII ст. і ў мясцовай люднасці слынны, як цудатворны. Далучаны інвентар 1860 г. апісвае яго наступным чынам: *"Абраз Маці Божай Балеснай у невялікім фармаце алейна маляваны, шаты срэбныя, тло аксамітна-чорнае, рамы прыгожай работы са сніцэрскай пазалочанай разьбой. Вышыня абраза - аршынаў 2, вяршкоў 4 $^{1}/_{2}$, шырыня - аршын 1, вяршкоў 11. Шата срэбная ў размаітыя кветкі, часткова пазалочаная. Прамені часткова пазалочаныя на аксамітным тле. На тле тым з 20 зорачак можа і срэбных. У шату ўстаўлены 36 камянёў, здаецца від сердаліку. На тым абразе подпіс з літар, здаецца, срэбных: "Маці Міласэрдная, пад Тваю абарону здаёмся". Вотаў срэбных - 20"*.

На старой мураванай званіцы пры касцёле, якая адначасова злучала ў сабе і ўваходную браму на могілкі, перад пабудовай новага касцёла знайходзіліся два званы: 1) большы з надпісам: "R: 1697 M: Augusta D: 4 L: S: Z. Z. E: E: M. W: S: do Kosciela Bialogruckaho" і 2) меншы з надпісам: "Lal J. Wener w Wilnie, 1818".

Парафіяльная школа пры Белагрудскай плябані існавала ад даўна. Вядома нават, што ў школе той вучыліся дзеці: у 1777 г. - 21, у 1782 г. - 4. Школа была прымітыўная: вялікі стол, дзве доўгія лавы па баках, а на іх некалькі дзяцей, схіленых над лемантарамі або кніжкамі для набажэнства, бо школьныя падручнікі - не для вяскоўцаў: некаторыя з дзяцей гусінымі пёрамі спраўляюцца пісаць літары і нават цэлыя словы ў сшытках з тоўстай наздраватай паперы... Школу вёў арганіст пад наглядам пробашча. Школу закрылі ў 1864 г.

Пры касцёле заўсёды быў прытулак для некалькіх дзядоў і баб, якія адначасова даглядалі чыстаты ў касцёле, званілі, прыслужвалі ў плябані і да т. п. Паводле звестак, пададзеных кс. Курчэўскім *("Віл. біск.", с. 370)*, Белагрудскі шпіталь меў фундуш, ахвяраваны княгіняй Радзівіл, жонкай падкаморага В.К.Літ. (у палове XVIII ст.), а менавіта дом, які ўтрымоўвалі з міласціны. Шпіталь і касцельная карчма былі размешчаны над ракой Дзітвой каля могілак, пры дарозе на Арлянку.

Уладальнік Тарноўшчыны Дзімітр Маўрас у 1867 г. каля касцёла выбудаваў сваю карчму, якая давала яму значны даход. Калі ў 1897 г. расійскі ўрад увёў дзяржаўную манаполію на спіртное, гандаль гарэлкай перанеслі за 1 км ад касцёла - да Арлянкі, каля маста на Дзітве, пры Гарадзенскім гасцінцы, дзе адкрылі манапольную краму № 283.

У 1861 г. пасля скасавання прыгону, з прыгонных зямель Тарноўшчыны, Радзівонішак, Малога Ольжава, Вялікага Ольжава, Кульбакаў і Дзітвы Шамятоўскай утворана вясковая гміна з сядзібай у маёнтку Тарноўшчына і з назвай Тарноўскай. У склад Тарноўскай гміны спачатку ўваходзілі вёскі Парачаны, Масявічы, Хадзюкі, Гарняты, Рэпнікі, Бабоўцы, Палубнікі, Далекія, Дудары, Раклёўцы, Банцавічы, Ольжава, Кульбакі, Монькаўцы, Цвербуты, і Більтаўцы, разам вёсак 16, душ 848. У 1866 г. да Тарноўскай гміны далучылі са скасаванай гміны Голдаўскай вёску Дзітрыкі, а з раздзеленай Лідскай гміны дзяржаўных сялян - вёскі Мохавічы, Янаўляны, Дубчаны і Цыбары, прычым Тарноўская гміна была падзелена на тры вясковыя грамады - Тарноўскую, Ольжаўскую і Радзівонішкаўскую. Так арганізаваная Тарноўская гміна налічвала 20 вёсак, сялянскіх душ паводле рэвізіі 1857 г. - 1166. У тым жа годзе выбудавала гміна на зямлі вёскі Гарняны каля пробства ўласныя будынкі - для гміннай улады і для народнай школы.

У 1906 годзе ў Тарноўскай валасці налічвалася 20 вёсак, спачатку нададзеных дзялянак зямлі - 326, фактычных сялянскіх гаспадарак - 680, чальцоў валасці, саміх вяскоўцаў мужчын - 3501, жанчын - 2406, разам - 4907; зямлі нададзенай - 5227 дзесяцін, набытай па-за надзелам - 103 дзесяціны: коней - 652, кароў - 1632 і іншага быдла - 2050 штук. Кожная вясковая грамада мела ўласныя запасы збожжа. Некалькі гадоў назад Тарноўскай гміне прысвоена назва "Белагрудская". Пры валасной управе функцыянавала народная школа з расейскай мовай выкладання.

***Пераклад Станіслава Судніка***
***паводле "Ziemia Lidzka" № 2, ст 5-6; № 3-4, ст. 2-3; № 5, ст.2; № 6, ст. 11-12;№ 7, ст. 4. 1936-1937 гг.***

***Віктар Кудла***

# Экскурс у гісторыю беларускага бежанства Першай сусветнай вайны

У 2014 годзе споўнілася 100 гадоў з пачатку Першай сусветнай вайны, якая занялася далёка ад Беларусі, але стала паваротным момантам у яе гісторыі. Уцягнутая ў вайну як частка Расійскай імперыі, Беларусь спаўна сербанула горыч разбурэнняў, а насельніцтва - голаду, рэквізіцый, прымусовых работ ваеннага часу, а значная колькасць - бежанства.

Актуальнасць тэмы вызначаецца тым, што гісторыя бежанства на беларускіх землях даследавана недастаткова. У савецкі час гуманітарная праблема бежанцаў той пары не афішавалася з нагоды нявыгаднасці параўнання многіх варункаў дапамогі бежанцам у царскай Расіі, з масавымі рэпрэсіямі ў часы калектывізацыі, раскулачваннем і гвалтоўнай высылкай у Казахстанскія стэпы

Яшчэ больш "белых плям" у вывучэнні становішча асобных рэгіёнаў, у прыватнасці Лідскага павета.

Адной з найважнейшых крыніц па праблеме бежанства ў Першую сусветную вайну з'яўляюцца ў першую чаргу: успаміны саміх бежанцаў, запісаныя як па гарачых слядах ад толькі што пераажытых падзей, так і мемуары, пакладзеныя на паперу праз шмат гадоў, але ў асноўным - архіўныя матэрыялы, а таксама эміграцкія даследаванні.

На жаль, дабіцца ў архіўныя крыніцы нашых беларускіх архіваў мне не ўдалося. Найбольш змог адшукаць апублікаваныя працы па бежанстве ў бібліятэках і ў Інтэрнэце.

Цэлае стагоддзе нас раздзяляе ад падзеі, якая разбурыла імперыі, перакроіла межы краін, паламала лёсы цэлых народаў, болем адклікаецца і сёння ў сэрцах многіх людзей, нашчадкаў тых высяленцаў.

Так здарылася, што мае родныя былі сведкамі той далёкай вайны. На іх долю выпаў цяжкі лёс бежанцаў. Майму бацьку Кудлу Івану Іванавічу на той час было 6 гадоў, а цётцы Вользе - 8 , але іх дзіцячыя ўражанні вельмі моцна ўрэзаліся ў памяць на ўсё жыццё. У свой час былі зроблены відэазапісы бацькі ўжо ў сталым узросце, занатаваны ўспаміны цёткі Вольгі. Захаваліся і зберагліся сямейныя дакументы той мінуўшчыны і рэрытэтныя экспанаты.

Дзядоў і бацькоў ужо няма, а пытанняў да іх з цягам часу ўзнікае ўсё болей і болей. Шкада… Светлая памяць аб іх натхніла мяне напісаць пра падзеі стогадовай даўніны і такім чынам выканаць свой сыноўскі абавязак.

**Радаводныя ніткі**

Мае продкі па бацькоўскай лініі жылі ў вёсцы Дроздава, што за 20 кіламетраў ад Ліды, з даўніх часоў. Ёсць дакладнае падцверджанне гэтаму ў архіўных крыніцах. У перапісе за 1795 год па вёсцы Дроздава запісаны Станіслаў Кудла - меў 35 год, гэта значыць 1760 года нараджэння. Тут жа запісаны сыны: Васіль-8 гадоў, Антон - 6 гадоў, а праз 10 год у 1805 годзе нарадзіўся Дамінік. У 1812 годзе ў Васіля (меў 25 год) нарадзіўся Андрэй, які ў 30-ці гадовым узросце ажаніўся з Кларай з Агародкікаў.

Больш падрабязныя звесткі пра насельніцтва вёскі Дроздава мы маем у перапісе 1848 года. Тады ў вёсцы Дроздава былі 24 гаспадаркі. А пад нумарам 16 ў разрадзе гаспадароў *цяголь* альбо *пашанныя* маецца запіс: Васіль Станіслававіч Кудла - 80 год, сын Андрэй - 36 год, яго жонка Клара -36 год і іх тры дачкі: Кацярына - 6 год, Мар'яна - 4 гады, Ганна - 2 гады, а таксама значыцца парабак Ян Кучынскі - 15 год. А ўжо праз два гады нарадзіўся нашчадак роду - Ісідар.

Як і ўсе сяляне навакольных вёсак, нашы родзічы былі прыгоннымі памешчыцы Петранэлы Францаўны Ленскай з маёнтка Вашкевічы. У той час ім было выдзелена 19 дзесяцін зямлі, з іх 14 - ворнай.

Тут жа ў перапісе занатавана колькасць абавязковых натуральных павіннасцяў на гаспадарку: прыгону за тыдзень з падводаю - 3, пешым - 2, згону ў год з працоўнай душы - 8 з падводай. Апроч гэтага ў абавязак уваходзіла: узараць і забаранаваць панскай зямлі, выраб палатна з панскага матэрыялу, вывазка дроў для фальварка. А вось колькасць натуральных павіннасцяў\дзякла\ крыху здзіўляе: за год належала даніны: 1 курыца, 10 яек, 1 капа грыбоў, 3 гарнцы ягадаў. І звыш натуральных: чыншу - 2 рублі серабром.

***Заўвага:*** у пасляваенны час, у 1945-50 гады з сялян- аднаасобнікаў "дралі" значна больш… Падаткі, нядоімкі, апісанне. Са страхам сустракалі фінагента, упаўнаважанага. Мала што заставалася з харчоў у хаце… Галадалі…

Далей наш род прадоўжыў Іван Ісідаравіч.

***Даведка*** *№ 6382 Літоўскай Духоўнай Кансісторыі аб тым, што ў сялян вёскі Дроздава Лідскага павета Ісідара Андрэевіча Кудлы і Аляксандры Андрэеўны (ў дзявоцтве - Міцюкевіч) нарадзіўся 23 студзеня 1875 года сын і хрышчаны - Іаанам у Ганчарскай Свята Пакроўскай царкве. А ў 1892 годзе нарадзілася Соф'я.*

Маючы пад 30 год (і на далей гэта стала сямейнай традыцыяй) Іван ажаніўся з Аляксандрай Лукашэвіч 1882 г.н. з вёскі Дзітрыкі. У іх нарадзіліся: у1906 годзе Вольга, а ў 1908 Ваня - мой бацька.

Якраз ім выпала гаротная доля бежанства і ваеннага ліхалецця…

***Ведамасць натуральных павіннасцяў прыгонных сялян вёскі Дроздава***


Справка

***Даведка аб нараджэнні Івана Кудлы***

У другой палове 19 стагоддзя ў аграрнай палітыцы Расійскай імперыі прайшлі карэнныя змены. У1861 годзе было адменена прыгоннае права, што прывяло да значнай сацыяльна-эканамічнай трасфармацыі беларускай вёскі. Сяляне атрымалі больш-менш свабоду, уласнасць на зямлю, а Сталыпінская аграрная рэформа садзейнічала ўздыму сельскай гаспадаркі. Аб зменах у дабрабыце сялян можна меркаваць па перапісе ў 1915 годзе гаспадарчай маёмасці майго дзеда Івана Ісідаравіча, пра што будзе ніжэй.

**Пачатак вайны**

Расійская імперыя ўступіла ў Першую Сусветную вайну дрэнна падрыхтаванай і паступова страчвала сваю ваенную магутнасць. Нямецкая армія наступала на Ўсходнім фронце. Пад пагрозай захопу апынуліся заходнія губерні.

Ужо з першых дзён вайны людзі ўцякалі ад вайны, пакідалі свае гаспадаркі, першапачаткова рассяляліся ў прыфрантавой мясцовасці, разлічваючы ў хуткім часе вярнуцца назад.

Адным з разбуральных і непапраўных наступстваў І-й Сусветнай вайны для Расійскай імперыі з'яўляецца бежанства, якое дасягнула нябачаных раней памераў. Сёння мы маем дадзеныя пра мільёны загінуўшых, параненых у тую Вялікую вайну, пра мільёны палонных, але мала ведаем пра маштаб народнай тра-

гедыі, звязанай з гвалтоўным перасяленнем у глыб краіны велізарных мас цывільнага насельніцтва заходніх губерняў Расійскай імперыі, якія апынуліся ў зоне ваенных дзеянняў.

***Даведка.*** *У 1914 - 1915 гадах каля 5 млн. чалавек, з 23 млн. пражываўшых на тэрыторыі, захопленай праціўнікам, вымушаны былі пакінуць свае родныя мясціны і перасяліцца на ўсход - у губерні Цэнтральнай Расіі, Паволжа, Сібіры, Прымор'я і Сярэдняй Азіі.*

Першым заканадаўчым актам аб арганізацыі бежанскай справы быў створаны 14 верасня 1914 года Камітэт Вялікай Княжны Таццяны Мікалаеўны. Фактычна з першага дня камітэтам кіраваў член Дзяржаўнага Савета, дзейны стацкі дарадца А.Б. Нейдгард (царская дачка Таццяна займала пасаду ганаровай старшыні). Камітэт з'яўляўся цэнтральным органам па абароне бежанцаў, карыстаўся ўрадавай падтрымкай і дзяржаўнымі субсідыямі.

Ужо восенню1914-га года на дарогах Гарадзенскай губерні, якія вядуць на ўсход, з'яўляюцца першыя грамадзяне Царства Польскага. З-за няўдач расійскага войска неабходнасць эвакуацыі становіцца відавочнай, і ўлады на ўсіх узроўнях пачынаюць рыхтаваць да яе мясцовае насельніцтва, якое, на думку дзяржаўнага кіраўніцтва, не павінна было заставацца на захопленай ворагам тэрыторыі. Фармальна эвакуацыя з'яўлялася справай добраахвотнай, але за яе актыўна агітавалі праваслаўныя святары, а таксама чуткі пра зверствы немцаў. Фронт набліжаўся, рускія адступалі. Людзі не ведалі, што рабіць: ці ўцякаць у Расію, ці хавацца ў лясах і балотах, пакуль фронт не пройдзе. Ксяндзы сказалі сваім вернікам, што палякам няма чаго баяцца немцаў, бо яны ваююць з рускімі, а не з палякамі, і раілі не пакідаць сваіх дамоў і радзімы. Праваслаўныя святары раілі ўсім праваслаўным уцякаць у глыб Расіі, бо рускім, як яны казалі, пагражаюць зверствы з боку немцаў і нават смерць. І праваслаўныя беларусы пачалі выязджаць, а каталікі засталіся на месцы.

Але ў цэлым колькасць бежанцаў да лета 1915 г. была нязначнай, і размяшчаліся яны ў большасці сваёй у прыфрантавых абласцях.

**Грос Тамара** (З успамінаў яе маці Вольгі Кудлы): *"Калі пачалася вайна, маёй маці было 8 гадоў, яна ўжо хадзіла ў царкоўна-прыходскую школу ў Дроздаве. Там працавала настаўніцай яе цёця Соф'яІсідараўна - ёй было 22 гады. Аб пагрозах, што набліжаюцца на нашу мясцовасць расказаў родны брат бабулі - Іван Аляксандравіч Мулінскі, які быў прызваны ў царскае войска, і, вяртаючыся з фронту, заехаў у Дроздава. Ён быў камандзіраваны на курсы кавалерыстаў дзесьці пад Маскву.*

*Яшчэ зімой не стала матчынага дзядулі ІванаІсідаравіча Кудлы - у лютую сцюжу прастыў, хварэў і памёр 4 студзеня 1914 года* (так выбіта на помніку на Ганчарскіх могілках, *В.К.*).

*Бацькі вырашылі адправіць і маму са старэйшымі: бабуляй Аляксандрай і цёцяй Соней. Разам рушыў у дарогу і Мулінскі. З сабою бацькі напакавалі ў валіску* (дарэчы яна захавалася як рэліквія той пары, *В.К.*) *тое-сёе з яды і вопраткі. Развіталіся ... Бацька канём адвёз да цягніка. Вагоны перапоўнены, праз некалькі сутак даехалі да Серпухава. Дзядзя Мулінскі дапамог уладкавацца... . Як бежанцаў нас накіравалі ў сяло Навінкі, што за кіламетраў дзесяць ад горада. Кватаравалі ў Жукавых... Цёцю Соню прызначылі настаўніцай, а бабуля працавала кухаркай у ўладальніка сітца-набіўной фабрыкі Коншына. Рэшткі яды ад стала прыносіла дахаты, наварыць супу і яшчэ чагосьці - так і карміла ўсю сям'ю.*

*Маці пайшла ў школу. Дзяцей было многа. Вучылася з задавальненнем, добра і многа чытала і палюбіла на ўсё жыццё кніжкі ... Помню вершык: "Тятя, тятя, нашы сети притащили мертвеца".*

Няўдалы для расійскай арміі ход вайны вясною 1915 года, імклівасць змены стратэгічнай абстаноўкі ў ходзе адступлення рускіх войскаў, суправаджаліся раптоўнасцю высялення жыхароў прыфрантавых паселішчаў.

Для таго, каб не даць немцам мясцовыя стратэгічныя рэсурсы, расейскія ўлады прынялі рашэнне эвакуяваць вайсковыя і прамысловыя прадпрыемствы. Пры адступленні рускае камандаванне імкнулася прымяніць практыку 1812 года - "выпаленай зямлі". Войскам быў аддадзены загад не толькі разбураць шляхі зносін, але і спальваць гарады і вёскі.

Па ўсёй лініі фронту пачалося прымусовае высяленне сялянства, у першую чаргу мужчын прызыўнога ўзросту "ад 17 да 45 гадоў", каб захаваць кадры для папаўнення арміі і пазбавіць ворага працоўных рэсурсаў. Адначасова ў сельскага насельніцтва, рэквізавалі запасы харчавання, акрамя месячнай нормы. Калі лішкі прадуктаў "не могуць быць вывезены", іх трэба было "знішчыць". Акрамя таго, ваеннае камандаванне аддало распараджэнне рэквізаваць і "адпраўляць у тыл ўсё быдла", "знішчыць пасевы касьбой" і г.д.

У адносінах да ўпартых, акрамя растлумачальнай працы ўжываўся прымус, часам з выкарыстаннем не толькі паліцыі, але і "конных частак арміі". Мноства бежанцаў хавалася ў лясах, *"адтуль іх выганяла паліцэйская ўлада і прытым з такой стараннасцю і энергіяй, што нават спальвала іх буданы, вынікам чаго бывалі няшчасныя выпадкі з чалавечымі ахвярамі"*.

А вось як грунтоўна з болем і занепакоеннасцю за слёс бежанцаў-беларусаў напісаў у газеце "Наша Ніва" № 29 ад 31ліпеня 1915 года Якуб Колас:

***"Найвялікшая ахвяра.***

*Поруч с тым, як немецкіе арміі пасоўваюцца глыбей у межы Расейскай дзержавы, як яны захопліваюць так-званые "акраіны" яе адну за аднэй, - аграмадные абшары зямлі пусьцеюць, багатые, густа пакрытые вёскамі і гарадамі краі зменяюцца ў пустыню. Быў выданы прыказ: каб народ адыходзіў з забраных зямель разам з расейскім войскам - і вось*

*цэлые племёны губляюць грунт пад нагамі, пакідаюць свой край і выселяюцца у чужые староны- між чужых людзей. Дзеецца нешта дзіўнае, нешта да веры не падобнае: ў вадзін момэнт народ, што меў сваю старонку, што быў сам у сябе панам, разам бытцым таець, разсеіваецца, як туман, каб адгэтуль вясьці ўжо вечна жыцьцё жыда-вандроўніка...*

*Сперша людзям трудна нават зразумець, якой ахвяры ад іх вымагаюць. Хто меў свой дом, у таго й думка ў галаве ня дзержыцца, што адгэтуль ён будзе ўжо не гаспадаром у сябе, а кутнікам! - А тым часам акопы рэжуць яго палеткі, бомбы капаюць аграмадные ямы, вываpaчываючы наверх нетру Зямліцы-Маткі, агонь нішчыць да званьня вёскі і гарады, - і толькі памяць аб пакінутай Бацькоўшчыне будзе жыць у народзі, пакуль самае імя яго ня счэзьне...*

*Пакінуць родны Край - гэта і ёсьць найвялікшая ахвяра, якую бярэ вайна: на пустое мейсцо хлыне хваля чужых людзей, - і займуць яны адвечные сялібы народу, асудзіўшы яго на век жыць бяздольным!*

*Чым можна замяніць чалавеку родны край? На гэта ёсьць адзін атказ - роднаго краю нельга нічым замяніць. Народ і яго старонка звязаны неразрыўна між сабой. Праз вякі - сталецьця рос тутака народ - і душа яго, думкі яго, песьні і казкі-легенды, усё яго творчэство адбівало ў сабе акружаючую яго прыроду. Перэсадзіце гэты народ на другі грунт, перэсяліце жыхара цёплаго поўдня на халодную поўноч,- і ён будзе гібець, ажно пакуль зусім не загіне, ня зменіцца так, што яго не пазнаеш...*

*Вось у чым страшэнства ахвяры насяленьня "акраін"- у районе вайны. У каго згарэла хата, той можэ адбудаваць яе; каму забралі ўсё меньне - той працай сваей можэ ізноў прыдбаць яго. Але народ, каторы адарвалі ад роднай глебы і разсеялі па чужых землях, такі народ ніколі ня верне сабе даўнейшаго жыцьця, а будзе мыкацца між чужымі, як выкляты Богам за нейкі цяжкі грэх, -*

*а-н-а*

*Божэ мой! калі паўстане*
*Ў сьвеці згода тая?*
*Лад ці скора к людзям гляне,*
*Змоўкне бура злая?*
*Загарэўся, задыміўся*
*Сьвет вайной, і далей*
*Дым пажараў пакаціўся*
*Агнявістай хвалей.*
*Гінуць людзі, памарнелі*
*Скарбы іх і сёлы,*
*Ад крыві пачырванелі*
*І горы, і долы...*
*Божэ мой! калі уціхне*
*Гэта трасяніна?*
*Блескам сонца калі ўспыхне*
*Згоднасьці часіна?*

***Якуб Колас.***

Рабаўніцтва і гвалт, якія чыніліся арміяй, сталі звычайнай з'явай пры высяленні грамадзян. Пры нежаданні насельніцтва сыходзіць са сваіх месцаў, іх вёскі і мястэчкі проста спальваліся. Незлічоныя натоўпы галодных, абадраных людзей, рухаліся на ўсход. Ішлі ўласным ходам, ехалі на падводах, наперадзе войскаў, часта змешваючыся з вайскоўцамі. Гінулі ад голаду і эпідэмій, стральбы артылерыі і авіяцыі. Ішлі суцэльнай сцяной, пляжылі пасевы збожавых, бульбы, псавалі сенажаці і лугі.

Л. Н. Войталоўскі ў сваёй кнізе так апісваў гэтыя падзеі: *"Навстречу колонне, точно охваченные лихорадочной дрожью, мелькают спугнутые деревни, смятые тяжкими ударами войны. Десятки и сотни мужиков, коров, лошадей; бабы с распущенными волосами, как будто растрепанными ураганом; матери, прижимающие к груди спеленутых младенцев; бездомные собаки; интеллигенты без шапок; евреи в измятых разорванных кафтанах; сидящие на узлах старухи... . Все это бежит перед нами жалкой вереницей оторопелых, покорных,беспомощных и враждебно-суровых лиц с выражением ужаса,унижения и дикой усталости в глазах. Никто не знает, куда и от чего бегут эти толпы несчастных, но почему-то все охвачены странным и мстительным озлоблением к бегущим".*

У чэрвені-ліпені 1915 года рух бежанцаў па Беларусі быў вельмі неарганізаваным. Мясцовая адміністрацыя клапацілася аб эвакуацыі толькі ўстаноў і службоўцаў, пакідаючы на волю лёсу насельніцтва губерняў. У дзеяннях мясцовых чыноўнікаў, якія ўдзельнічалі ў эвакуацыі насельніцтва, панавала блытаніна, адсутнічала ўзгодненасць. Цывільныя ўлады не толькі не аказвалі істотнай дапамогі высяленцам, але часам наносілі ім шкоду, загадваючы бессістэмна перасоўвацца то назад, то наперад. Многія ўцекачы тыднямі блукалі на прасторы некалькіх дзесяткаў кіламетраў, што, да прыкладу, назіралася ў раёне Ліда - Навагрудак.

Трэба адзначыць, што 20 чэрвеня 1915 года Вярхоўнаму галоўнакамандуючаму Імператару Мікалаю II далажылі аб *"маркоце, узлаванасці і смуце"* сярод насельніцтва, з нагоды *"бессістэмна эвакуацыйных распараджэнняў"*, *"знішчэннем цэлых паселішчаў"*. Вярхоўны адразу ж па прамым провадзе *"тэрмінова, сакрэтна"* аддаў распараджэнне генералу Аляксееву: *"Загадайце ўсё гэта неадкладна ліквідаваць"*, гэта значыць спыніць гвалтоўную эвакуацыю.

Пасля гэтага Савет міністраў прыпыніў гвалтоўнае перасяленне жыхароў прыфрантавых тэрыторый, але дзейнічаў зусім дрэнна.

14 ліпеня 1915 года сваёй пастановай быў уведзены інстытут Галоўупанаважаных на франтах, была створана ўрадавая арганізацыя дапамогі бежанцам "Северопомощь" якія вызначалі парадак высялення з тэрыторыі франтоў, кірункі руху і спосабы транспарціроўкі бежанцаў на новыя месцы жыхарства. У іх абавязкі ўваходзіла таксама забеспячэнне бежанцаў у дарозе харчаваннем, медыцынскай і ветэрынарнай дапамогай, адзеннем. Грошы на гэтыя мэты атрымлівалі з казны. На пасаду Галоўупанаважаннага па Паўночна - Заходнім фронце быў прызначаны І. Зуб-

чанінаў.

Вось як адрэагавала газета “Наша Ніва” ад 27 ліпеня 1915 года:

***“Дарэмная трывога.***

*Вялікая трывога ўзнялася па нашых вёсках і мястэчках, калі па валасьцёх, што бліжэй да вайны, разаслалі прыказ народу выбірацца і паліць дабро і хаты, а збожэ скашываць, як будуць набліжацца немцы. Трывога і за сябе, і за сваю будучыну: што рабіць у чужой старане, як жыць?- І плач і лямэнт быў атказам на гэты прыказ, а іншые слабые сэрцэм гаспадары, не чакаючы немца, без ніякаго загаду самі пачалі глуміць сваё дабро і ўцякаць з родных вёсак.*

*Трывога ўзнялася ня толькі між селянамі: занепакоіліся і ўсе тые грамадзкіе працаўнікі і таварыствы, што даюць падмогу і апеку высяленцом і другім ахвярам вайны. Занепакоіліся яны, бо на тое, каб карміць тые дзесяткі і сотні тысяч хлебаробоў, каторых маніліся адарваць ад ральлі, патрэбны нялічэные грошы. Дый мала пракарміць іх: трэба ім вярнуць страты за знішчэнае меньне, трэба даць спосаб да жыцьця пасьля вайны.*

*Гэтымі днямі сэнатар Нэйдгарт, маючы ўсё гэта на ўвазі, звярнуўся да Вярхоўнаго Глаўнакамандуючаго, Вялікаго Князя Мікалая Мікалаевіча, і зрабіў акуратны даклад аб справі высяленьня народу і зніштажэньня пасевоў і хат. Дзякуй Богу, сэн. Нэйдгарту удалося дайсьці свайго: Вялікі Князь загадаў прыказ той, што гэтак усіх устрывожыў, адмяніць.*

*У газэтах апублікована гэткая заява сэнатара Нэйдгарта:*

*"Я лічыў за сваю сьвятую павіннасьць акуратне растлумачыць тую справу Вярхоўнаму Глаўнакамандуючаму, і пасьля гэтаго ў тэй жэ дзень Яго Імператарскае Высочэство быў ласкаў даць, апіраючыся на мой рапорт, падпісаны Яго рукою тэлеграфны прыказ арміі. Істота гэтаго прыказу - гэта загад, каб меньне жыхароў, вёскі, сялібы і пасевы зніштажаліся на гэткіх асновах: ,*

*1. Нішчыць толькі тады, калі гэта канечне патрэбна дзеля ваенных мэт, і тое, што засланяе абстрэл. Нішчучы, запісываць пратаколы, каб насяленьне магло атрымаць належную заплату.*

*2. Гэткіе самые пратаколы павінны быць напісавы, калі нішчыцца збожжэ на полі.*

*3. Нельга адрываць агулам усіх жыхароў ад іх сяліб, і толькі мужчын ад 18 да 45 гадоў, калі яны падпадаюць пад ваенную павіннасьць, можна клікаць на работы, даючы ім патрэбные харчы.*

*4. Усе, хто астаўся на мейсцы, павінны быць забеспечэны харчамі.*

*5. Усе ўласьці, нікога не выключаючы, павінны спаўняць гэты прыказ.*

*6. Гражданскіе ўласьці павінны не атклада-ючы супакоіць населеньне абвесткамі. Тые-ж уласьці павінны зрабіць усё, што можна, і працаваць, не пакладаючы рук, каб завясьці лад у падарожы насяленьня, каторае сваей ахвотай пакідае свае сялібы, і каб высяленцоў акуратна кіраваць у назначэные для іх акругі, не загаражываючы тылу арміі.*

*7. Ураз жэ самымі суровымі і цьвёрдымі спосабамі задзержаць самавольнае зніштажэньне войскам меньня народнаго. Калі ваенные начальнікі ня будуць лічыць гэта сваей сьвятой павіннасьцю, дык нельга будзе забеспечыцца ад упадку ладу ў арміі".*

*Прачытаўшы гэты прыказ, населеньне бліжэйшых да вайны мейсц можэ ўздыхнуць свабадней. Трывога аказалася дарэмнай: прынукай выселяць народу ня будуць; ня будуць нішчыць іх меньня, хат і пасевоў без апошняй патрэбы; тым хто захочэ астацца ў роднай вёсцы, не баючыся ваенных нягод, павінны пакідаць патрэбные да жыцьця харчы.*

*Пакуль з'явяцца ўсюды па вёсках офіціальные абвесткі аб гэтым, мы дзелімся з нашымі чытачамі гэтай весткай, каб развеяць усе страхі і спыніць нарэканьня і сьлёзы.*

Вёскі Лідчыны поўнілася чуткамі аб прыбліжэнні фронту, аб гвалтоўным высяленні. Асабліва баяліся казакоў, якія праславіліся безчалавечай жорсткасцю. Пачаліся ваенныя рэквізіцыі. У сялян забіралі коней з вазамі на ваеннныя патрэбы.

Захаваўся дакумент № 2430 ад 3 жніўня 1915 года падпісаны валасным старшынём Гросам аб тым, што ў селяніна в. Дроздава Івана Ісідаравіча Кудлы, па распараджэнні вайсковага начальства ўзята кабыла з фурманкай. Згодна з гэтым пасведчаннем, ён меў магчымасць вярнуць сваю маёмасць у фальварку Белазерышкі каля Вільні ў Вікенція Ігнацьева … . Але праз хуткі час пачалося наступленне германцаў на фронце, і дзеду Івану, вядома, было не да кабылы. Трэба было ратаваць сваю сям'ю.



Якраз усё ў значнай меры і відазмянілася адразу ж пасля раптоўнага прарыву праціўнікам фронту. І тады 4 жніўня 1915 г . адбылося рашэнне цэнтральных уладаў аб масавым перамяшчэнні бежанцаў ва "ўнут-

раныя губерні" Імперыі, каб разгрузіць прыфрантавую мясцовасць ад залішняга насельніцтва. Але рух бежанцаў быў дрэнна арганізаваны. Імклівасць змены стратэгічнай абстаноўкі ў ходзе адступлення рускай арміі суправаджалася раптоўнасцю высялення жыхароў.

У газеце "Наша Ніва" № 31 ад 7 жніўня.1915 года Міхалка Скарэўскі распавядае пра людскія жальбы, ад пагрозы вайны: што рабіць, куды падацца, як жыць далей?

***"Нашы жальбы.***

*Далёка адбіваюцца адгалоскі вайны па нашых вёсках. Людзі зьбіраюцца прысьвяткамі ў грамадкі, гукаюць пра вайну і выказываюць адзін аднаму свае жальбы. Тут і стары дзед, і сівенькая бабуля, і гаспадары нашы вясковые-астаўшыеся "салдаткі", маладзіцы ды, выправіўшые сыноў сваіх, матулі сіратлівые. Ці мала тут пра што гаворуць, і кожнаму ахвота пачуць навіну.*

*Тут і лісты чытаюць з вайны, і газэткай цікавюцца. Жалюцца на сваё нялёгкая жыцьцё... У каго жонка пры сьмерці, а доктара німа скуль і за што паклікаць; у каго дзеці зрабіліся калекамі, валяючыся з лавак, калі ў гарачы дзень аставаліся без догляду дома; у каго апошні конік паў, а купіць німа за што, дастаць недзе, а час гарачы.*

*Вось і думай, браце! Пакруці галоўкай тут у нашым горы, ды хоць плазмам расцягніся, хоць галасі, хоць біся, нічога не парадзіш... А тут гэта вайна...*

*Ой ты, жальба, як даўно пануіш над нашай зямлёй Беларускай! З даўных вякоў спавіла старонку у свае сьлязлівые пялёнкі, атуліла народ наш доляй нялёгкай. А ці мала адбывалася войнау чужых у нас? Ад удзельных князёў беларускіх ліеца кроў па нашай зямлі. Біліся Маскоуцы са Швэдамі - курганы-помнікі тых бояк асталіся да нашых дзён. Сто год таму прайшлі па ўсёй нашай зямлі, уперад і ўзад, полчышча французскіе, аставаліся руіны, ды сьцежкі усьцілаліся трупамі.*

*Цяпер ізноў над нашай краінай падняты нагострэны меч, зазьвінелі шаблі, раздаецца страшны гарматны гул... земля дрыжыць, ліецца кроў, сьмерць косіць свае ахвяры. Хто бліжэй к гэтаму вогнішчу с сялян, кідаіць свой скарб і з душой уцекаіць, куды вочы глядзяць. Іх цэлые тысячы, абдзёртых, галодных - ні ў чым непавінных... Ім трэба помач.*

*З гэтымі пакутнікамі, мы павінны раздзяліць апошні кусок нашаго чорнаго хлеба, гэта нашы браты і Бог, і мус кажыць памагчы ім чым можна. Пасылайце помач у "Беларускі камітэт па аказаньню помачы пацярпеўшым ад вайны" і ў яго аддзелы, а дзе такіх німа, старайцеся аткрыць іх. Памагаючы адзін аднаму, перанясём і на гэты раз ліха. Загараюцца новые аганькі ў грамадзян Беларусі, якіе асьвецюць вольны шлях да лепшаго жыцьця нашай старонкі; гора і жальбы адлятуць ад нас, і ўперадзі аткрыецца сьветлы прастор.*

*Міхалка Скарэўскі."*

Вось адно з такіх прызнанняў, зробленае сялянкай з вёскі Залукі, што на Беласточчыне, М. Лісоўскай 1901 г. нараджэння: *"З Залук у бежанства падаліся ўсе. Толькі што заехалі мы да Гарадку, а вёска наша ўжо гарэла. Далей мы паехалі ў Менск. Там прадалі каня з фурманкай, селі на цягнік і паехалі ў невядомы свет. Наша сям'я абрала Самарскую губерню. Разам з намі паехала яшчэ пяць сем'яў. " (Запіс беластоцкай журналісткі газеты "Ніва" Г. Кандрацюк, 1994.)*

Са жніўня 1915 г. на ўсход рушылі ўладкаваныя абозы на чале з "праваднікамі" з ліку мясцовага духавенства, сельскай адміністрацыі, якія мелі *"брашуры з указаннем мясцовасці, куды належыць эвакуявацца, і з апісаннем усяго шляху руху, аж да канчатковага пункта"*. Большасць бежанцаў рухалася на ўласных падводах, звычайна крытых брызентам і гружаных найбольш каштоўнай маёмасцю. *"Дзеці і старыя ехалі на фуры, а астатнія члены сям'і большую частку шляху ішлі пешшу побач, гонячы быдла або проста шкадуючы коней, якія ледзве цягнулі перагружаны воз"*.

Людзей, "цалкам абяздоленых" вайной, вывозілі на "абывацельскіх" падводах, якія па нарадах мясцовых уладаў падавалі жыхары прыдарожных паселішчаў. На галоўных дарогах *"былі ўладкованыя для бежанцаў пажыўныя пункты, на якіх яны атрымлівалі гарачую ежу"*, *"дзецям яшчэ малако і белы хлеб"*, запас прадуктаў "сухім пайком" для харчавання ў дарозе і фураж для жывёлы. Там жа тым, хто захварэў, аказвалі медыцынскую дапамогу; сем'ям з маленькімі дзецьмі і старым давалі начлег прама на пункце або ў суседніх хатах сялян. *Гл., напрыклад: Беженство 1915 года. С. 121.*

Адзначым, што 20 жніўня 1915 г. у Вярхоўнае галоўнакамандаванне ўступіў Імператар Мікалай II. Начальнікам штаба стаў генерал М.В. Аляксееў.

У мэтах упарадкавання бежанскай справы 30 жніўня 1915 г. быў выдадзены закон "Аб забеспячэнні патрэб бежанцаў". Закон вызначыў статус бежанца і яго правы. Па гэтым законе бежанцы - *"гэта асобы, якія пакінулі мясцовасці, загрожаныя непрыяцелем або ім ужо ўзятыя, альбо асобы, выселеныя распараджэннем ваенных ці грамадзянскіх уладаў з раёна ваенных дзеянняў, а таксама выхадцы з варожых Расіі дзяржаў"*.

У адпаведнасці з законам кіраўніцтва па справах бежанцаў даручалася Міністэрству ўнутраных спраў і створанай пры ім Адмысловай нарадзе па ўладкаванні бежанцаў. У Адмысловую нараду ўваходзіла сем чалавек, абраных ад Дзяржаўнага Савета, сем чалавек ад Дзяржаўнай Думы, па аднаму прадстаўніку ад міністэрстваў, галоўнаўпаўнаважаныя па ўладкаванні бежанцаў, па прадстаўніку ад Усерасійскага Земскага і Гарадскога саюзаў, нацыянальных і іншых арганізацый, якія абслугоўваюць бежанцаў. Такім чынам, у Нарадзе ўдзельнічалі прадстаўнікі ўлады і грамадства.

Магчымая эвакуацыя, з папярэднім вопісам страчванай сялянамі нерухомай маёмасці, кошт якой на аднаго гаспадара дасягаў да дзесяці і больш тысяч рублёў, адразу ж ператварылася ў самае сапраўднае бежанства, да якога заходнебеларускіх сялян змушалі і адыходзячыя рускія войскі, якія ўжывалі да таго ж



***Расійскі афіцэр на фоне падпаленай вёскі. 1915 г.***

тактыку выпаленай зямлі: прадугледжвалася знішчэнне ўсялякай маёмасці, у тым ліку і сельскіх жылых дамоў, на пакіданай тэрыторыі.

Сяляне - відавочцы ўспаміналі: *"Усе людзі ... выязджалі фурамі, жывога духу ў вёсцы не засталося. Як толькі людзі выехалі, салдаты падпалілі вёску ... ". "А калёсы былі на жалезных колах. На іх пачалі ставіць такія будкі і падрыхтаваліся да выезду, так як казалі, што немец вельмі лютуе. На такіх павозках з будкамі ўсім мястэчкам выязджалі ... Ні адна душа не заста-лася ... Наша сяло гарыць. Падпалілі рускія салдаты, каб немцам нічога не дасталося.". "Зрабілі мы такую будку з палатна на возе. Узялі поўны куфар. Частку гусей прадалі, а астатніх пагналі. Дзе спынімся, там зарэжам гусака ... Дарогамі і войска ехала і ўцекачы. Я з сястрой ... часцей ішлі за возам. Часам ноччу едзем, а спаць хочацца; з калоны ж нельга выехаць. Мы часам ужо не маглі і кладіся каля шашы, каб паспаць. Бацька з братам ... азірнуцца, што нас няма, і брат давай нас шукаць ".*

*"Казакі ездзілі па вёсках і палохалі людзей, што немцы гвалцяць жанчын без усялякага разбору, грудзі абсякаюць ім шаблямі, а мужчын так усіх вешаюць і страляюць ... А тут цэлая паніка пайшла па вёсках". "Памятаю, як па вёсцы ездзілі казакі на конях і крычалі:" Ідзіце ўсе, інакш вас германцы заб'юць "."*

*"У нас хата была добрая, вялікая, новую падлогу ў ёй заслалі. І ўсякія надворныя пабудовы былі - усё казакі спалілі. Свінні засталіся, а кароў гналі з сабою і пасля каля Менска рускія салдаты купілі іх у нас на мяса. Везлі з сабой вопратку і ежу на фурманцы прычыненай палатном. Начавалі на фурманках і елі тое, што забралі з хаты. Збіралі галлё, раскладвалі агонь і варылі ..... Заехалі мы ў Рагачоў і там перагрузілі на цягнік, а коней і вазы прадалі ... ". "Бацька жывёлу і хату для войска здаў, на што далі яму даведку (прыехаўшы ў Расію ён атрымаў у губерні грашовую кампенсацыю) ... На дарозе ... было шмат ваенных і цывільных. Ішлі пешшу... Паветра насычанае смуродам конскага поту, змешана з выкіднымі газамі аўтамабіляў. Затыкаюць нос і горла. Людзі хварэлі, і смерць збірала ўраджай. Трупы валяліся побач з дарогай ... ".* Як пазней адзначаў адзін з мясцовых святароў у царкоўным летапісе, тады *"бежанцы ўвесь свой шлях пакрылі безымяннымі магіламі ..., паміралі старыя і маладыя ... ".* Колькасць загінулых ад хвароб і цяжкасцяў шматдзённага шляху ішла на дзясяткі тысячаў.

*"Люди, прошедшие несколько войн и участвовавшие во многих кровавых сражениях, говорили мне, что никакие кошмары поля боя невозможно сравнить с ужасающей картиной бесконечного исхода мирного населения..."* Так генерал ад кавалерыі У.І. Гурко - даў апісанне ўсёй трагедыі бежанцаў, якія рухаліся на ўсход разам з адступаючай рускай арміяй.

Нагружаныя хатнім скарбам павозкі, на якіх



*Абоз бежанцаў у Слуцку. Фота С. Фёдарава, 1915 г.*



***Бежанцы ад лініі фронту Першай сусветнай вайны. Слуцк. Фота С. Фёдарава, 1915 г.***



***Бежанцы ад лініі фронту Першай сусветнай вайны. Слуцк. Фота С. Фёдарава, 1915 г.***



***Калейка беларускіх бежанцаў па ежу і хлеб, 1915 г***

было ўладкована нешта накшталт будана, дзе нярэдка змяшчалася шматлікая сям'я і тут жа куры і качкі, побач з вазамі каровы - усё гэта цягнулася на ўсход, пакідаючы то тут, то там, уздоўж дорогі невялікія ўзгорачкі з крыжамі, дзе хавалі якоганебудзь малютку, не вытрымаўшага гэтага доўгага шляху ў рознае надвор'е. Тут жа валяліся трупы коней і кароў, якія загінулі ад стомы і знясілення.

Па патрабаванні ваенных уладаў Усерасійскі саюз гарадоў і земстваў разгарнуў на шляхах руху бежанцаў сетку пунктаў па аказанні харчовай і медыцынскай дапамогі.

Не гледзячы на арганізаваную дапамогу, абсталяванне пунктаў кіпячэння вады і харчавання, санітарнае абслугоўванне бежанцаў было недастатковым, а ў некаторых месцах распаўсюджваліся рознага роду эпідэміі. Ваенны лекар успамінаў: *"Вошы даўно паядаюць бежанцаў. Сілком прыкаваныя да войска, уцекачы не парацца, не мыюцца, не купаюцца. Усе спяць покатам, не распранаючыся. Многія табары зрабіліся рассаднікам вашывай заразы .... Без веры ў будучыню, з пакорлівым адчаем плятуцца бабы і мужыкі, плятуцца худыя коні. На доўгіх вяроўках слабымі дзіцячымі ручкамі шасцігадовыя дзеткі цягнуць ўпіраючыхся кароў ... Сярод бежанцаў лютуе дзіцячая халера".*

Але многія ўцекачы, *"будучы ў злосці за неабходнасць высялення і акрамя таго знаходзячыся ў паніцы з нагоды адступлення, усё на шляху разбівалі і руйнавалі і гэтым нанеслі страты мясцоваму насельніцтву".* Яны рабавалі жыллё, здзяйснялі масавыя патравы, самавольную *"высечку дрэў для вогнішчаў, капанне бульбы і да т.п."* Таму мясцовыя жыхары пачалі праяўляць да іх *"нярэдка варожае стаўленне, прычым справа даходзіла да забойстваў".*

Рапарт Слуцкага павятовага спраўніка Савіча аб разрабаванні маёнтка Мохарты.

*"Прыстаў 13-га ўчастка Варшаўскай паліцыі гэтага дня данёс мне, што 14 гэтага верасня ў 11 гадзін раніцы ў маёнт. Мохарты Слуцкай вол., які належыць двараніну Ждановічу, праходзіўшымі бежанцамі, каля 500 чал. мужчын і жанчын Слонімскага п. Гарадзенскай губ., было ўчынена з разбурэннем драўлянай адрыны рабаванне сена ў колькасці каля 2000 пуд. і нямолатага аўсу і жыта каля 1000 пуд. Усё абрабаванае вывезена бежанцамі. На месцы было 6 чал. гарадавых Варшаўскай паліцыі, якім, не гледзячы на іх загады і ўгаворванні не чапаць сена і аўсу да прыезду абшарніка, не ўдалося спыніць бязладзіцы. Бежанцы ў самой грубай форме адмовіліся выканаць патрабаванні гарадавых і, калі апошнія спрабавалі заступіць уцекачам доступ да адрыны, то яны, маючы ў руках сякеры і калы, атачылі гарадавых і пагражалі іх збіць, калі будуць перашкаджаць браць сена і авёс, але паколькі гарадавыя не саступалі дзёрзкім патрабаванням і пагрозам бежанцаў і адстойвалі інтарэсы абшарніка, то ўзлаваныя бежанцы накінуліся на гара-*





***Бежанцы ў дарозе***

*давога Дворака і, атачыўшы яго шчыльным колам, пагражалі яму забойствам і зрабілі пры гэтым удар кулаком у грудзі. Пасля гэтага Дворак выняў з похваў шашку і пачаў ёю адмахвацца ад нападнікаў, але гэта мера не ўздзейнічала і бежанцы шчыльней здушвалі яго колам. Тады апошні, бачачы немінучую небяспеку быць збітым ці забітым, выняў для самаабароны рэвальвер і зрабіў паслядоўна тры стрэлы над галовамі нападнікаў, не з мэтай у іх страляць, а толькі гэтай крайняй мерай спыніць бежанцаў ад рабавання, прычым адным са стрэлаў неспадзявана параніў уцекача па прозвішчы Кандрацій Мяцечка ў плячо, якому фельчарам з каманды гарадавых была тут жа на месцы зроблена перавязка, і ім жа паранены быў адвезены ў слуцкую земскую лякарню. Па заключэнні земскага лекара гэтай лякарні, рану можна аднесці да разраду лёгкіх. Пра выкладзенае даношу в. п.*

*Слуцкі павятовы спраўнік Савіч.*

*З сапраўдным дакладна: за кіраўніка канцылярыі менскага губернатара*

*(подпіс).*

*ЦДГА. ф. ДП. IV д-ва, 1915 г.. спр. 40. ч. 3, л. 38.”*

Авось дваранін маёнтка Хмельнікі В.К. Станкевіч даваедзены да адчаю, як да апошняй інстанцыі звяртаецца да старшыні Ўраду:

*В. В., прабачце вялікадушна за маю адвагу пісаць ліст да вас. Я лічу, што гэта апошняя інстанцыя.*

*Справа ў наступным[1]):*

*Высяленцы прычынілі мне ўжо да 200000 [руб.] страт. Ад самага пачатку перасялення народаў я звяртаўся да ўсіх улад, просячы даць мне ахову, а галоўнае, перавесці пажыўны пункт на іншае месца да ракі, дзе б людзі мелі ваду. На жаль, наступіў холад. Высяленцы разарылі мне цалкам увесь маёнтак, забралі ўсё, разабралі ўсе велічэзныя пабудовы на дровы, а зараз сякуць сад у 3500 дрэваў. Паліцыя не з'яўляецца. Я жаліўся тройчы пану менскаму губернатару, двойчы маліў пана міністра ўнутраных спраў, але выніку ніякага не атрымаў. У маім двары і садах змяшчаецца 20-40 тыс. няшчаснага народу, халоднага і галоднага; халера забірае штодня масу ахвяр, ляжыць падла, якую ніхто не прыбірае, у флігелі туляцца дзясяткі халерных хворых, санітарнай дапамогі ніякай, паветра жудасны, народ з'яжджае, а новапрыбылыя займаюць іх месцы ў суцэльным брудзе і тут жа паміраюць. Нябожчыкаў закопваюць тут жа на $^1/_2$ аршы[на] глыбіні на двары маім, за 3 саж. ад ганка дома жылога. А між тым можна было б і цяпер усё ўхіліць спакойна, бо народ страціў ужо ўсю сваю энергію. Лясоў казённых каля Бабруйска 400 000 дзес. Можна прыбывалых накіраваць цяпер каля стн. Бабруйск поруч лесу, і ўсё было б ціха і спакойна.*

*Маёнтак мой размешчаны ў межах гор. Бабруйска і быў адным з самых культурных у тутэйшым краі.*

*Я малю в. п.. як бога, на вас спадзяюся, вы ўся мая надзея, дзеля Хрыста, загадайце даць мне ахову, каб хоць рэшткі саду не пасеклі. Я жабрак. Загадайце ўцекачам адпусціць дровы, і ўсё супакоіцца.*

*Яшчэ раз прашу пакорліва прабачыць мяне.*

*Глыбокааданы дваранін Вітольд Казіміравіч Станкевіч, жых(ар) г[ор]. Бабруйска, 1-й часткі, маёнт. Хмельнікі.*

*Дакладна: памочнік справавода (подпіс).*

ЦГИА. ф. ДП, IV д-ва. 1815 г.. д. 40. ч. 3. лл 46-47.

[1]) У тэксце "ў тым".

Але мала верагодна што ў тым безнадзейным становішчы гэта можна было прыпыніць.

Тое самае адбывалася і на Лідчыне.

Падпаленыя і разбураныя дамы, рэквізіцыі харчавання і згон жывёлы для ваюючых армій, пастой войскаў і падводная павіннасць, чуткі аб жорсткасці немцаў - усё гэта наганяла страх, паніку на людзей, якія апынуліся ў зоне вайны.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Леанід Лаўрэш*

# Лідчына ў 1924 - 1929 гг. у люстэрку прэсы

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

### 3. Адукацыя, культура, рэлігія

Да Першай сусветнай вайны ў павеце было 27 народных вучылішч і 134 царкоўна-прыходскія школы. Падчас нямецкай акупацыі на Лідчыне працавала 60 народных школ[139]. Пры канцы 1927 г. паведамлялася пра закрыццё ўладамі ўсіх 18-ці летувіскіх школ у Лідскім павеце і пра арышты летувіскіх актывістаў[140].

У 1920-я гг. адукацыя на Лідчыне была амаль што цалкам польскамоўнай. Ішла цяжкая барацьба за беларускія школы.

#### *3.1. Польскамоўная адукацыя на Лідчыне*

Сярэдняя гімназічная адукацыя працягвалася 8 гадоў і дзялілася на дзве ступені. Першая ступень 1-3 класы, другая ступень 4-8 класы гімназіі. Прычым 1-3 класы гімназіі адпавядалі 5-7 класу агульнаадукацыйнай (powszechnej) школы.

У 1925 г. па ініцыятыве інжынера Станкевіча ў Лідзе была арганізавана дзяржаўная Рамесна-прамысловая школа[141]. Гэтая школа ад пачатку месцілася ў наёмным будынку былой тытунёвай фабрыкі Віленчыка па вуліцы Сувальскай, 58. Будынак меў 2 вучэбныя класы, 3 класы з варштатамі, памяшканне для настаўнікаў, канцылярыю, пакой-склад для гатовых вырабаў, пакой-склад для сыравіны і пакой, у якім знаходзіўся матор. Аднак нават пасля рамонту і неабходных пераробак, па-фабрычны будынак не адпавядаў патрабаванням школы.

У Рамесна-прамысловай школе мелі магчымасць вучыцца 80 вучняў, але ў 1927 г. школа мела толькі 53 навучэнцаў. Ад пачатку выкладаўся толькі разлічаны на 3 гады курс навучання сталяроў. Прымаліся хлопцы, якія мелі пасведчанні аб 4-х гадовай, пачатковай, адукацыі. Школа не мела інтэрната, і таму ў ёй маглі вучыцца толькі жыхары Ліды ці прыгарадаў. Заняткі пачыналіся ў 8 гадзін раніцы і працягваліся да 18-00 з вялікім перапынкамі ў 1,5 гадзіны на абед.

Аплата за навучанне складала 90 злотых штогод. Акрамя агульнаадукацыйных прадметаў, вучні вывучалі тэхналогію матэрыялаў, эканоміку, чарчэнне, курсы будаўнічага і мэблевага сталярства і атрымлівалі стандартную адукацыю як у 7-мі гадовай дзяржаўнай школе. Агульныя навукі выкладалі дырэктар школы, настаўнік і ксёндз-піяр. Прафесіянальныя навукі і курсы практычных заняткаў у класах варштатаў вялі тры настаўнікі (два родам з Малапольшчы і адзін з Вільні).

Школа мела рухавік унутранага згарання з адмысловай трансмісіяй, які застаўся ад тытунёвай фабрыкі. Планавалася выкарыстоўваць гэты рухавік для мэтаў вытворчасці. Штогод для закупу сыравіны школа атрымлівала дзяржаўны крэдыт, за які потым на працягу навучальнага года расплачвалася, прадаючы свае вырабы[142].

На паседжанні Гарадской рады 5 ліпеня 1928 г. было вырашаны перадаць дом, які будаваўся для адзінокіх старых па вуліцы Сувальскай (за праваслаўнымі могілкамі, недалёка ад чыгуначнага пераезду) пад гэтую Рамесна-прамысловую школу[143].

У жніўні 1928 г. прэса паведамляла пра сталыя праблемы ў гэтай школе: *"Школа існуе ў Лідзе трэці год і мае сталярнае аддзяленне. ... Ёсць у школе шмат дрэннага ... і вінавайца гэтаму яе дырэктар. Трэба дадаць, што раней, за скандальны характар ужо быў звольнены папярэдні дырэктар. Але лепей не стала. Што бачаць у гэтай школе вучні? Яны бачаць, як іх дырэктар, па адукацыі дарожны інжынер, пагарджае рамяством, але пры тым з'яўляецца дырэктарам рамеснай школы і трымаецца па магчымасці надалей ад майстэрань і выражае ўсяму гэтаму сваю пагарду"*[144].

22 верасня 1929 г. да візіту прэзідэнта Масціцкага ў новапабудаваным будынку Рамесна-прамысловай школы (Сувальская, 130) была адкрыта выстава сталярных і слясарных вырабаў вучняў за 1928-29 навучальныя гады[145].

У лютым 1926 г. прэса паведаміла пра пачатак працы гуртка авіямадэлістаў і планерыстаў у Лідзе, кіраваў гуртком нехта з афіцэраў авіяцыйнага палка[146].

У 1926 г., прэса пісала пра ліквідацую прыватнай яўрэйскай гімназіі Дварэцкага і адкрыццё Гарадской гімназіі, ці гімназіі магістрата[147]. Але гімназія Дварэцкага працавала яшчэ да 1929 г. Гэта яўрэйская каадукацыйная навучальная ўстанова паўстала ў Лідзе пры канцы 1921 г. Гімназія арандавала памяшканне па адрасе: Крывая, 16. У гэтым памяшканні было толькі 4 пакоі пад класы, і таму навучанне ішло ў дзве змены. Ніякага лепшага памяшкання ў горадзе знайсці было немагчыма. Уладальнік гімназіі - Мойша Дварэцкі[148], першы дырэктар - Эдвард Вахмут, у 1923 г. дырэктарам стаў інжынер Фронкель, у 1925 г. - Максіміліян Грынберг. Пры гімназіі дзейнічалі вучнёўскія аб'яднанні - "Братняя дапамога" (дапамагала бедным вучням), літаратурны гурток, школьная гміна (самакіраванне - існавала ў кожным класе). У розныя часы гімназію наведвала ад 300 да 350 вучняў[149].

З 1926 г. па 1934 гг. у горадзе працавала Гарадская ці Магістрацкая гуманітарная гімназія, да 1930 г. яна месцілася ў доме па вуліцы Пілсудскага[150]. Улетку

1928 г. Гарадская гімназія атрымала ад уладаў права адчыніць 8-мы клас, *"што з'яўляецца добрай адзнакай для прыватнай установы, якая існуе два гады"* [151]. У чэрвені 1928 г. прэса змяшчае аб'яву, у якой 8-класная каадукацыйная гуманітарная гімназія магістрата горада Ліды аб'явіла прыём вучняў ва ўсе класы[152]. На пачатку снежня 1929 г. у памяшканні Гарадской гімназіі дырэктар гэтай навучальнай установы Генрык Пякарскі, прачыў лецыю аб тэорыі адноснасці А. Энштэйна[153].

У 1921-х годзе пачала працу дзяржаўная Лідская гарадская гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча. У той час прэса пісала: *"Цяжкая і ахвярная праца ... настаўніцтва сярэдніх школ у Лідзе заслугоўвае павагі. Хто не ведае нашых правінцыяльных стасункаў, не можа сабе ўявіць як шмат трэба цярплівасці, каб у гэтых варунках не страціць энергіі, жадання а наадварот генерыраваць новыя ініцыятывы ... . Настаўнікі Лідскай гімназіі не толькі цалкам прысвячаюць свой час працы з моладдзю, але і па ўласнай ініцыятыве арганізуюць цэлы шэраг чытанняў і навуковых вечароў ... нясуць культуру ў масы"* [154].

Галоўным корпусам гімназіі быў корпус па вуліцы 3-га Мая, а філіял размяшчаўся *"пры адной з кароткіх і вузкіх вулачак, якія адходзілі ад Сувальскай і ўжо праз некалькі дамоў утыкаліся ў бліжняе балота. Быў гэта цесны двухпавярховы дом з цэглы. Класы былі невялікія, парты стаялі адна пры адной. Праходы паміж імі былі вузкія, кафедра напірала на першую з лавак, словам нязручнасцяў было вышэй галавы. Вучыліся тут мужчынскія класы ад першага па пяты. Тры старэйшыя - агульныя - і жаночыя класы размяшчаліся ў т.зв. галоўным корпусе, на вуліцы Трэцяга Мая"* [155]. Такім чынам, месца не хапала, і было неабходна будаваць новую гімназію.




***Лідская гарадская гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча ў 1920-я гады, былая гімназія Навіцкіх***

Першапачаткова на будоўлю новага гмаха гімназіі ўрадам было прызначана 1 400 000 зл., але потым сума зменшана да 800 000 зл. Вядома, што першапачатковы праект гімназіі прадугледжваў значана больш прыгожы і вялікі гімназійны будынак[156].

У красавіку 1928 г. была афіцыйна аб'яўлена пастанова Міністэрства асветы і рэлігійных веравызнаняў аб пачатку будаўніцтва новага гмаха гімназіі ў Лідзе коштам 800 000 злотых. Адразу, на пачатак будаўніцтва, выдзялялася 400 000 злотых. *"Будова гмаха пачнецца на пляцы кс. Фалькоўскага, недалёка да вуліцы Школьнай. Трэба заўважыць, што ў гэтым годзе Ліда ёсць адзіным горадам, які атрымае такія вялікія грошы для будаўніцтва гімназіі"* [157]. На пачатку кастрычніка таго ж года ваяводская ўправа ў Наваградку абвесціла гандлі на будоўлю гімназіі кубатурай каля 16 250 м³ у Лідзе[158]. Прэса адзначала што новы будынак будзе адпавядаць усім патрабанням "сучаснай культуры" [159]. Ужо пры канцы красавіка паведамлялася, што *"на днях у Ліду прыбывае інжынер Сарока з дырэкцыі Публічных работ, каб пачаць будоўлю новай Дзяржаўнай гімназіі"* [160].

Пры канцы траўня 1928 г. на паседжанні бацькоўскага камітэта гімназіі была абрана новая ўправа, якую ўзначаліў сам ксёндз-дэкан Баярунец. Перад новай управай бацькоўскі сход патрабаваў намагацца перанесці пляцоўку новай гімназіі з Выгану, *"які знаходзіцца далёка ад хрысціянскай часткі горада на пляц, які знаходзіцца недалёка ад існай гімназіі - пры вуліцы, якая лучыць вуліцы 3-га Мая і Пілсудскага, каля месца, на якім хутка павінны пачаць будоўлю новага гмаха Гродскага суда"*. Сярод прычын неабходнасці выдзялення новай пляцоўцы бацькі назвалі дрэнны балотны мікраклімат на Выгане, вялікія прамысловыя прадпрыемствы ў гэтым раёне і планаваны перанос сюды гарадскога рынку[161]. Цікава, што супраць будаўніцтва гімназіі па вуліцы Школьнай выступалі лідскія чыноўнікі высокага рангу, якія жылі ў калоніі дзяржаўных дамоў на Выгане, але лічылі гэтае месца дрэнным. 3 чэрвеня Лідская гарадская рада разглядзела пытанне замены гімназічнага пляца з Выгану на вуліцу Дварцовую, каля раёна горада, які меў назву Ферма. Выслухаўшы ўсе выступы зацікаўленых бакоў, Рада стварыла камісію з пяці радных, якія былі павінны вывучыць стан рэчаў і зрабіць неабходныя высновы[162]. Праз некалькі дзён, на чарговым паседжанні, Рада адмовіла бацькоўскаму камітэту. Цікава, што ў якасці аргументаў супраць пераносу гімназіі, адзін з радных даводзіў, што тады на мяркаваны гімназічны двор па вуліцы Дварцовай будуць заходзіць і вытоптваць яго яўрэйскія козы, якія ў вялікай колькасці пасвіліся тут у тыя часы[163].

Пасля выпускных экзаменаў 1928 г. у Лідскай гімназіі газета "Слова" пісала пра строгасць дырэктара гімназіі Мяноўскага: з 57 выпускнікоў гімназію з атэстатам яе закончылі толькі 37 чалавек, астатнія не здалі выпускныя іспыты, што газета тлумачыла лянотай саміх вучняў[164]. Але "Кур'ер Віленскі" прысвяціў Лідскай гімназіі вялікі артыкул, у якім паказваліся сапраўдныя прычыны правальных экзаменаў. Нехта з лідзян у гэтым артыкуле пісаў "пра дрэнны настрой і зло", якія пануюць ў галоўнай навучальнай установе павета:

сярод вучняў стымулюецца шпіёнства і даносніцтва, шэраг настаўнікаў з Малапольшчы не мае неабходнай адукацыі, але лічаць нармальным для сабе *"ўжываць пустапарожнюю фразеалогію і публічна ганарыцца сваім высокім генеалагічным паходжаннем ... . Гэтыя настаўнікі прывезлі з Малапольшчы (не ідзе размова аб усіх настаўніках з Малапольшчы) спецыфічные адносіны да нас, жыхароў Усходніх земляў ..."*. Вучні, якія адмаўляліся шпіёніць за сваімі сябрамі, атрымлівалі ад такіх настаўнікаў мянушку "бандыт" і правальваліся на экзаменах. *"Апякунская рада гімназіі і бацькі вучняў павінны патрабаваць замены часткі настаўнікаў і расказаць, чаму гімназія мае такія вынікі матуральных экзаменаў. Для нас, жыхароў Ліды гэта вельмі важная справа павінна быць вырашана як найхутчэй"* [165]. Бацькі гімназістаў падзяліліся на два лагеры - у адным лагеры падтрымлівалі "строгасць" дырэктара Мяноўскага і экзаменацыйнай камісіі, у другім бацькоўскім лагеры лічылі вінаватымі педагогаў-прыхадняў. У студзені і лютым 1929 г. гімназію праверыла адмысловая камісія і Тэадор Мяноўскі з пасады дырэктара гімназіі быў пераведзены выкладчыкам у Віленскі ўніверсітэт. Пасля гэтага кансерватыўнае "Слова" прысвяціла яму артыкулдыфірамб[166].

Увечары 13 траўня 1929 г. адбылося дзіўнае здарэнне, якое, магчыма, было працягам матуральных экзаменаў 1928 г.: нехта паклаў гранату са знятым засцярагальнікам каля дзвярэй кватэры настаўніка гімназіі Калісевіча (Пілсудскага, 9). *"Паліцыя пачала расследаванне"* [167].

Новая гімназія будавалася хутка, і ў сакавіку 1929 г. ваяводскія ўлады абвесцілі гандлі на заканчэнне будоўлі гмаха Лідскай гімназіі. Але памеры гмаха былі ўжо 15 829 м³. Як бачым, нават ад будаўнічага праекту, па якім пачыналася будоўля, наша гімназія ў выніку паменшылася амаль што на 450 м³ (ці прыкладна на 100 м²)[168]. Цікава, на чым з'эканомілі? Нажаль, я не знайшоў у прэсе інфармацыі пра ганаровае адкрыццё новага будынка, але можна меркаваць, што 1 верасня 1930 г. гімназісты прыйшлі ўжо ў новую, прыгожую гімназію.

Пасля перасялення Дзяржаўнай гімназіі, Гарадская рада перадала два былыя будынкі гімназіі (па вул. 3-га Мая і Камерцыйнай) лідскай філіі Віленскага Акруговага суда[169].




***Лідская гарадская гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча***

24 лістапада 1929 г. адбылося паседжанне Бацькоўскага камітэта Дзяржаўнай гімназіі імя Караля Хадкевіча. Ва ўправу бацькоўскага камітэта гімназіі, сярод іншых, быў абраны і Міхал Шымялевіч, бо, відочна, навучэнкай гэтай установы была сярэдняя дачка гісторыка[170].

У чэрвені 1928 г. Магістрат горада Ліды аб'явіў гандлі на будоўлю гмаха агульнаадукацыйнай школы кубатурай каля 12 610 м³. Да канцы 1928 г. павінны былі выканаць земляныя, цяслярскія работы і пабудаваць муры. *"Камень і цэглу дае магістрат. Да гандляў будуць дапушчаны толькі зарэгістраваныя будаўнічыя фірмы. ... Праект школы і варункі гандляў знаходзяцца ў Магістраце. ... Ліда, 21 ліпеня 1928 г."*[171]. Так пачыналася будаўніцтва гмаха сучаснай школы №1 г. Ліды.

Пры канцы жніўня 1929 г. прэса пісала: *"На будоўлі вялікага падвойнага будынка агульнаадукацыйнай школы імя Прэзідэнта Рэчы Паспалітай ужо цалкам скончаны вонкавыя работы. Так сама заканчваецца будаўніцтва вялікага будынка новай Дзяржаўнай гімназіі"* [172].



***Агульнаадукацыйныя школы № 1 і 2***

Як пісалася вышэй, 25 верасня 1929 г. школу ганарова адкрыў прэзідэнт Польшчы Масціцкі[173]. Прэса паведаміла, што акрамя агульнаадукацыйнай школы, дзякуючы Магістрату, ў новым будынку *"з пачаткам навучальнага года, адкрыецца ... школа падвышэння кваліфікацыі рамеснікаў"* [174].

У новым гмаху размясціліся агульнаадукацыйныя школы № 1 і 2. Да гэтага часу, гарадская агульнаадукацыйная школа №1 месцілася па адрасе: Замкавая, 25. Гэта бачна з аб'явы пра адкрыццё тут вячэрніх курсаў для ахвотных атрымаць 7-мі класную адукацыю. Так сама тут у рэжыме вячэрняй школы асобы, якія ўжо скончылі агульнаадукацыйную школу, маглі атрымаць сярэднюю адукацыю[175].

1 верасня 1929 г. прыняла першых вучняў трохкласная гандлёвая школа Піяраў

па адрасе: Сувальская, 50. У першы год навучанне пачалося толькі ў першым класе. Прымаліся вучні ва ўзросце 14-17 гадоў, якія папярэдне закончылі агульнаадукацыйную школу ці 4 класы гімназіі[176].

На канец 1929 г. горад меў 3 гімназіі, 4 агульнаадукацыйныя і 4 пачатковыя школы[177], рамесную школу. У павеце меліся школы: 1-на класныя - 163; 2-х класныя - 80; 3-х класныя - 16; 4-х класныя - 5; 7-мі класныя (агульнаадукацыйныя) - 11. Разам 275. Вучылася 24450 дзяцей і працавала 443 настаўнікі. Па-за межамі горада працавалі: рамесная школа ў Ішчалне і сельскагаспадарчая школа ў Бердаўцы[178].

### *3.2. Беларуская адукацыя*

13 лістапада 1925 г. па ўсёй Заходняй Беларусі беларуская грамадскасць святкавала 10-ці годдзе беларускай школы. Першая беларуская школа была адкрыта ў Вільні 13 лістапада 1915 г., практычна адразу пасля акупацыі горада нямецкімі войскамі[179].

31 ліпеня 1924 г. польскі Сойм зацвердзіў пакет законаў (Уставы) аб мовах. Гэтыя законы рэгламентавалі ўжыванне розных моваў у школах, дзяржаўных установах, установах самакіравання, судах і г.д. і афіцыйна абмяжоўвалі выкарыстанне беларускай мовы на этнічных беларускіх тэрыторыях. Але пры гэтым дазвалялася беларускамоўная адукацыя на гэтых тэрыторыях і нават фармальна дазвалялася двухмоўе ва ўрадавых установах і судах[180].

Пасля прыняцця гэтых законаў распачалася шырокая кампанія па зборы подпісаў бацькоў на адкрыццё беларускіх школаў. У 1925 г. заходнебеларускія сяляне падалі 16 тысяч заяваў на адкрыццё 400 школаў на роднай мове, але ў выніку ва ўсёй Заходняй Беларусі былі створаныя 27 польскіх і 15 дзвюхмоўных школ. Шматлікія перашкоды чыніліся ўладамі ўжо на самым першым этапе збору подпісаў, і звычайна моўныя законы няўхільна выконваліся толькі пры патрэбе ліквідаваць беларускую школу, створаную раней[181]. Пра ўсё гэта яскрава сведчаць шматлікія факты, данесеныя да нас беларускай прэсай таго часу.

Яшчэ ў 1923 г. была прыпынена дзейнасць першай на Лідчыне афіцыйнай беларускай школы ў Зблянах, якая была пабудавана самімі сялянамі пры канцы 1915 г. *"Усе нашыя людзі былі рады, што дзеці неяк шыбка навучаліся і чытаць, і арытмэтыкі. Але хутка здарылася няшчасьце: нашага вучыцеля інспэктар Лідскага павету, пан Вайтовіч прымусіў паехаць на польскія курсы ў Кракаў, а другога вучыцеля-беларуса на яго месца не прызначыў, і замёрла наша беларуская школа"* [182].

Вясной 1925 г. жыхары вёскі Збляны падпісалі да павятовага школьнага інспектара дэкларацыю за беларускую школу, а потым, не гледзячы на ціск, дружна патрабавалі свайго[183]. Тады ўлады вырашылі перанесці будынак Зблянскай школы ў Беліцу. Сяляне, высілкамі якіх гэта школа будавалася, пісалі пратэсты ў Міністэрства асветы і да мясцовых уладаў, аднак адказу не атрымалі. У лютым 1926 г. *"ад староства прыехалі тэхнікі ўжо разьбіраць гэты будынак. На дамаганьне кіраўнікоў разбору, каб сяляне далі рабочых і падводы, усе жыхары в. Збляны катэгарычна адмовіліся і на сходзе вырашылі зрабіць яшчэ адпаведныя крокі, каб ўратаваць з такім трудом збудаваную іхнімі рукамі для сваіх дзетак школу, для чаго праз дэлегацыю зьвярнуліся да Пасольскага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады аб атрыманьні іх дамаганьняў"* [184].

Па справе школы дэлегацыя зблянскіх сялян адмыслова сустрэлася ў Вільні з беларускім паслом у Сойм Сымонам Рак-Міхайлоўскім, які як раз у гэты час лячыўся ў Вільні. Рак-Міхайлоўскі, не могучы асабіста выехаць у Варшаву, 17.01. 1926 г. даслаў тэлеграмы ў міністэрствы Асветы і Ўнутраных спраў гэткага зместу: *"Назначаны праз Лідзскага Старасту супраць волі гміннай рады войт Беліцкай гміны Вадэйка пад намовамі ксяндза з фальварку Няцеча проці волі ўсяе люднасьці пераносіць з дазволу Старасты школьны будынак, збудаваны мяйсцовай людносьцю з вёскі Збляны да мястэчка Беліца Лідзкага павету. Пратэстуючы проці бясправўя і пагвалчаньня правоў беларускай людносьці, прашу аб безадкладным затрыманні разборкі будынку да часу належнага вырашэння гэтае справы паводле скаргі сялян вёскі Збляны, перасланай Беларускім Клюбам да Міністэрства Асьветы ў красавіку леташняга году.*

*Рак-Міхайлоўскі, дэпутат"* [185].

Абараніць сваю школу беларускія сяляне не змаглі. Хутка мы можам святкаваць 100-гадовы юбілей першай афіцыйнай беларускай школы на Лідчыне.

Селянін з вёскі Агароднікі, што каля ракі Нёман, пісаў, што ў іх *"да 1923 г. была сякая-такая школа. Бывала, дзеці зьбяруцца, дык хоць пагуляюць. Дый большыя хадзілі да вучыцелькі на курсы ўвечары. Але пераехала гэтая школа ў Ганцавічы. Дзеці пахадзілі год ... і перасталі"* [186].

На працягу ўсяго 1924 г. за беларускую школу змагаліся сяляне Дакудаўскай гміны. Жыхары вёсак Альхоўка, Пудзіна і Васілевічы прагаласавалі за адкрыццё беларускіх школ, аб гэтым склалі "прыгаворы", і ўсе падпісаліся пад імі. Але камендант дакудаўскай паліцыі Жарко, загадаў паліцыянту Александровіку адабраць гэтыя "прыгаворы". Александровік *"прышоўшы з нейкімі 2 асобамі (мабыць шпікі, бо апрануты ў цывільнае) у в. Альхоўку, прыказаў солтысу Анацку аддаць прыгавор, што солтыс і зрабіў ... (прычым) пагражалі за адчыненне беларускае школы трохмесячным арыштам. Гэтак жа адабралі прыгаворы ад солтыса Стэфановіча ў в. Васілевічы і ад Пудзенскага солтыса Мацэля, ім таксама пагражалі вастрогам"* [187]. А 16 кастрычніка настаўніца польскай школы ў Дакудава Білус сабрала сход, на якім прасіла ў сялян дапамагчы школе, у якой не хапала нават лаваў. Сяляне згадзіліся дапамагчы, але толькі тады, калі ў Дакудаве будзе свая, беларуская школа. Каментуючы гэтыя факты рэдакцыя газеты "Сялянская Праўда" пісала: *"Дамагацца беларускіх школ можна і трэба.*

*На гэта мы маем права, паводле так-званага "языкавога" ўставу, які прайшоў праз Сейм і Сэнат і абвешчаны Прэзыдэнтам дзеля выпаўнення. На жаль закон гэты застаецца дагэтуль толькі "на языку". Дык трэба болей нам дабівацца свайго, што нам па праву належыць"* [188].

Народны карэспандэнт "Дзядзька Язэп" (з вёскі Табала Беліцкай гміны) у сваёй карэспандэнцыі ў газету "Беларускае Слова" сцвярждаў, што ў Табале настаўніцу польскай школы Буг звольнілі за тое, што яна была праваслаўнай веры і адмовілася выйсці замуж за настаўніка-католіка. Пасля гэтага ксёндз з суседняга касцёла пачаў адмоўна пра яе адклікацца, што ў выніку і давяло да звальнення[189].

У лютым 1926 г. на настаўніцкіх курсах у Вільні, адкрытых "Прасветай", вучацца наступныя настаўнікі з Лідчыны: М. Ахнамовіч з Астрыны, П. Шляхтун з вёскі Багоды, А. Шацюк з Лазянаў[190]. Падчас адноснай лібералізацыі ў нацыянальнай палітыкі ў другой палове 20-х гадоў польскія ўлады, каб падняць прафесійны ўзровень настаўнікаў беларускіх школ, у розных гарадах Заходняй Беларусі адкрывалі трохтыднёвыя курсы беларускай мовы, у 1927 г. такія дзяржаўныя курсы працавалі ў Лідзе[191].

Пры канцы 1926 г. большасць жыхароў Ліпнішак падпісала ліст з патрабаваннем увесці вывучэнне беларускай мовы ў школе гэтага мястэчка[192].

У другой палове 1926 г. быў звольнены беларускі настаўнік з вёскі Карнілікі, прычым дакудаўскі войт *"... апошнія рэчы забірае, як гэта было з бедным вучыцелем Дзям'янам Ройшай з в. Карнілкі: апошнюю сетку, што рыбу лавіць, забраў войт. Зямлі толькі адну дзесяціну мае гэты вучыцель, службы не даюць, - бывала хоць рыбы зловіць для дзяцей, а цяпер што рабіць?"* [193]. Праз нейкі час заступнік Ройшы ў Карнілкаўскай школе, настаўнік Качаноўскі, ладзіў спектаклі ў школе разам з асаднікам Гідзінскім з хутара Пяскі[194].

На пачатку 1927 г. жыхар вёскі Ганчары пісаў, што вось ужо два гады ў Ганчарах настаўнікам працуе былы вахмістар аўстрыйскага войска Пяхура *"і так добра вучыць, што баймся, каб нашыя дзеці не зрабіліся яйкакрадамі. Гэты вучыцель адчыніў пры школе крамку вучнёўскіх прыладаў і прымушае дзяцей купляць усё ў яго і толькі ў яго - купленае ў іншым мейсце бракуецца. За сшыткі і алоўкі прыймае грашыма і натурай - пераважна яйкамі ... увесь час заняткаў цягнецца ў дзень ня больш 20 - 30 мінут ..."* [195].

Цікавы ліст у газету напісалі жыхары мястэчка Астрына ў 1928 г.: *"Даўно ўжо нашыя сяляне адчувалі патрэбу адчыніць ... беларускую школу. Бо зразумелі, якую карысьць дае нам школа польская. Нашых дзетак.прымушаюць хадзіць у польскую школу і за тры гады вучэння ня ўмеюць нават напісаць сваё прозьвішча. Па беларуску так сама, бо хаця-ж ёсць у нас "беларуская" вучыцелька* (беларускай мовы - *Л.Л.*), *але яна сама ня ўмее па беларуску ... . Яе да нас прыслалі з Пазнані ... . І вось гэтая Вера Крупэвісуўна ... так вучыць па беларуску, што за 2 гады не навучыла нават чытаць па беларуску. А дзе-ж нашыя вучыцялі, якія скончылі настаўніцкія курсы і атрымалі матуру ... ? Іх загналі туды, дзе ні аднэй душы беларускай няма. Пачуўшы з газет, што ў другіх мястэчках і вёсках шмат ужо адчынена беларускіх школ, і нашыя сяляне пачалі складаць дэклярацыю на беларускую ўрадавую школу. Падпісалі ... і панеслі да войта А. Якубовіча ... Дык ён пачаў страшыць, гаворачы: вас будуць за гэта вешаць"* [196]. Праз паўгода народны карэспандэнт "М. Бедны" пісаў з таго ж мястэчка, што ў Астрынскай школе фармальна вывучаецца беларуская мова, але настаўніца зусім не ведае беларускую мову, бо прыехала дзесьці з-пад Познані, а калі і скажа некалькі слоў па-беларуску, дык знарок перакручвае іх[197].

Улетку 1928 г. газета "Грамадзянін" надрукавала вялікі ліст нейкага Цецярука пра гісторыю школы ў вёсцы Ленькава Беліцкай гміны. Аўтар пісаў, што ягоная вёска находзіцца *"надалей як ад ваяводзтва, так і ад павету, і ад гміны. Гэта адзін з глухіх куткоў нашай Бацькаўшчыны. Беларуская сьвядомасьць пранікла сюды ў 1921 г. дзякуючы беларускай школе, якая была заложана вучыцелем Мікалаем Абрамчыкам. Вучыцель быўшае школы М. Абрамчык (родам з в. Сычовіч, Радашкоўскай гм.), ня гледзячы на непрыемнасьці з розных бакоў, вёў працу даволі энэргічна і цярпліва. Апроч школьных заняткаў днём ён па зімовых вечарох ладзіў курсы для дарослых ... .*

*Школа была ў сьветлым і даволі прасторным будынку сьв. Я. Камінскага. Дзякуючы стараньням вучыцеля, у школе перш за ўсё погляд спатыкаў вялікага разьмеру Беларускую Пагоню, аздобленую нацыянальнымі сьцягамі, поўкулі па беларуску, карту Беларусі, партрэты бел. паэтаў і інш. Апрача гэтага ў школе была бібліятэка, якой карысталіся апрача вучняў і дарослыя.*

*У канцы 1922 года Мік. Абрамчык, здаўшы школу вуч. Мікалаю Чыжэўскаму, выехаў па далейшыя навукі"* [198]. З новым настаўнікам школьныя заняткі праводзіліся нерэгулярна, бо Чыжэўскі быў пад наглядам паліцыі і кожны дзень хадзіў "мэльдавацца". Пад канец вучэбнага года настаўнік наогул уцёк з-пад нагляду паліцыі, бо яму, як беларускаму актывісту, пагражаў суд. У 1924 г. школьны інспектар прыслаў польскага настаўніка, *"нейкага пана Гавэнду, да якога дзеці не маглі ніяк прывыкнуць, а ні ён да дзяцей. У 1925 годзе школа перайшла пад кіраўніцтва вучыцелькі Пшэзьдзецкай, якая перанесла школу ў вёску Клочкава"* [199].

Улічваючы ўсё вышэй сказанае, гранічным цынізмам з'яўляліся словы ваяводскай газеты "Наваградскае жыццё" аб тым, што беларусы не маюць цягі да адукацыі ды і проста не хочуць вучыцца[200].

### *3.3. Рэлігійнае жыццё*

Большасць праваслаўнага духавенства была выхавана ў царскай Расіі ў вялікадзяржаўным рускім духу. Таму дзейнасць значанай часткі гэтых святароў выклікала небеспадстаўныя падазрэнні ў польскіх улад. Напрыклад, настаяцель прыходу ў вёсцы Збляны Лідскага павета Ваўкоўскі, восенню 1924 г. з-за "нела-

яльных адносін да польскай дзяржаўнасці" быў пазбаўлены пасады і аддадзены пад суд па артыкуле 108 Крымінальнага Кодэксу Рэчы Паспалітай[201].

Аб жыцці лідскай царквы ў сярэдзіне 1920-х гг. я пісаў у папярэднім нумары "Летапісца".

Пра перадачу Маламажэйкаўскай царквы ў рыма-каталіцтва трэба расказаць больш падрабязна. З 1863 г. па 1926 гг. гісторыя Маламажэйкаўскай царквы была звязана з яе настаяцелем а. Львом Савіцкім. Савіцкі быў прызначаны Ковенскім епіскапам Аляксандрам настаяцелем Маламажэйкаўскай царквы адразу пасля заканчэння поўнага курса Літоўскай духоўнай семінарыі. На жаль, пра гэтага чалавека вядома няшмат. Ён нарадзіўся ў 1841 годзе ў вёсцы Спорава Слонімскага павета[202] і ўсе жыццё прысвяціў сваёй царкве і прыходу, перабудаваў царкву, хоць і тэндэнцыйна, але першым напісаў яе гісторыю і сумленнай святарскай працай заслужыў пашану сярод прыхаджан.

Вельмі пацярпела Маламажэйкаўская царква падчас Першай сусветнай вайны. У 1915 годзе, калі фронт пачаў набліжацца да Лідчыны, у царкве зрабілі шпіталь для раненых салдат расійскай арміі. Перад прыходам немцаў каштоўнасці храма (абразы, кнігі) былі эвакуяваны ў Маскоўскую епархіяльную кантору і, зразумела, назад ужо не вярнуліся. Падчас нямецкай акупацыі тут быў лагер для ваеннапалонных. Алтарную частку ператварылі ў месца захоўвання правіянту і таму гэта было "салодкае" месца для пацукоў, якія пагрызлі падлогу і сапсавалі сцены. Ваеннапалонныя разбурылі агароджу, браму, спалілі пабудовы пры храме і, як кажуць, *"нават святататствавалі"* [203].

Разам з расійскімі войскамі айцец Леў Савіцкі пакінуў родныя мясціны, а вярнуўся ў 1920 г. Пасля вяртання застаў царкву ў страшным становішчы. Адразу пачаў клапаціцца пра яе аднаўленне.

Польскія ўлады ў той час распачалі працэс рэвіндыкацыі - вяртання раней забраных каталіцкіх храмаў. Але разам з былымі касцёламі час ад часу рабіліся спробы адабрання цэркваў, якія былі раней уніяцкімі і ніколі не былі рыма-каталіцкімі. На жаль, патрапіла ў гэты лік і Маламажэйкаўская царква, хоць вакол яе ў той час пераважала праваслаўнае насельніцтва.

Вярнуўшыся на радзіму, айцец Леў Савіцкі на той час быў адным са старэйшых святароў Віленскай епархіі. Анкетны ліст прычта царквы, складзены ў той час, дазваляе ўявіць стан прыходу на пачатку 1920-х: прычт меў 63 дзесяціны зямлі, прыход складаўся з паўтарох тысяч вернікаў, у яго склад, акрамя сваіх, уваходзілі і вёскі зачыненага Васілішскага прыходу. Святар жыў у доме каля храма, дом знаходзіўся ў вельмі дрэнным стане[204].

Часопіс "Праваслаўны беларус" пісаў, што Маламажэйкаўская царква вельмі спадабалася чыгуначным службоўцам: католікам з суседняй станцыі Скрыбаўцы, якія і падалі хадайніцтва каталіцкаму біскупу пра перадачу ім царквы[205]. Пэўна, яшчэ адной нагодай стала "нядобранадзейнасць" протаіерэя айца Льва Савіцкага - старога, яшчэ з XIX стагоддзя, байца змагання з рыма-каталіцтвам. Лідскі стараста адмовіў яму ў выдачы польскага грамадзянства з-за "палітычнай нядобранадзейнасці", а без грамадзянства святар не мог выконваць свае абавязкі і павінен быў праз нейкі тэрмін пакінуць межы Польскай дзяржавы[206].

Верагодна, усё гэта і перадвырашыла далейшы лёс прыходу: у 1924-м у прычта была адабрана і аддадзена ў арэнду зямля, а 10 кастрычніка таго ж года па распараджэнні Міністэрства асветы і рэлігійных вызнанняў і пры паразуменні з вышэйшымі ўладамі Польскай праваслаўнай царквы, праваслаўны прыход у Малым Мажэйкаве быў скасаваны. Пісаліся розныя заявы ў адміністрацыйныя інстанцыі, звярталіся да варшаўскага мітрапаліта, ураду і дэпутатаў польскага Сойму з просьбай пра абарону. 4 красавіка 1925 года ў доме святара паліцыяй быў зроблены ператрус, а праз некалькі месяцаў намеснік наваградскага ваяводы даслаў віленскаму епіскапу Фядосію ліст, у якім патрабаваў перавесці Савіцкага ў іншае месца, бо ён *"не хоча выконваць распараджэнне польскіх улад і праводзіць агітацыю, шкодную для дзяржавы"*. Фядосій у сваім адказе, спрабуючы абараніць святара, пісаў, што Савіцкі ўжо глыбокі стары і за сваё амаль шасцідзесяцігадовае знаходжанне на адным месцы зрадніўся з насельніцтвам прыходу, таму перавод яго ў іншае месца можа стаць фатальным. Неўзабаве 85-гадовы стары злёг у ложак і 3 лютага 1926 года памёр[207].

Аўтар газеты "Беларускае слова", які хаваўся пад псеўданімам "Праваслаўны беларус", пісаў у карэспандэнцыі "Смерць пастыра": *"Ужо некалькі месяцаў хварэў наш дарагі духоўны пастыр - айцец Леў Савіцкі. У сераду, 3-га лютага, яго не стала. Весткі аб яго смерці хутка разыйшліся па ваколіцы і ўсюды выклікалі вылікі смутак і жаль. Леў Савіцкі прабыў у нас у Мураванцы 63 года. ...Але апошнім часам нашаму дарагому пастыру прышлося перанясці адну бяду за другой. Яго прыход пастанавілі скасаваць. Айцец Савіцкі, не гледзячы на свае 90 гадоў, пачаў энэргічна працаваць, каб як-небудзь уратаваць царкву. Ён пісаў заявы да вышэйшых уладаў, потым езьдзілі нават і прадстаўнікі нашага прыходу. Але ўсе гэта дарэмна. Праз нейкі час ад нашага прыходу адабралі ўсю царкоўную зямлю. Гэта было цяжкім ударам для ўсіх нас, а таксама і для нашага пастыра. Клопаты зусім падарвалі яго і без таго ўжо слабыя сілы, і ён хворы паклаўся ў ложак, каб больш не ўстаць.*

*Здавалася, што памёршы айцец ўжо нікому не перашкаджае. Аднак-жа выйшла інакш. Быў атрыманы ад мясцовага старасты загад, якім забаранялася хаваць нябожчыка каля царквы, прычына... што царква стаіць у населеным месцы. А два месяцы назад, у м. Беніцы Ашманякага пав., пахавалі свяшчэнніка каля царквы, хаця апошняя і стаіць пасярод мястэчка. ... Дык прыйшлося нясці нашага пастыра за 2 вярсты на могілкі, дзе ў старой капліцы ён і знайшоў свой апошні прытулак"* [208].

Павятовы стараста загадаў царкву зачыніць і ключы ад яе перадаць мясцоваму дабрачыннаму. Аднак 25 лютага 1926 года ў Малое Мажэйкава да псаломшчыка прыехаў камендант паліцыі і адабраў клю-

чы ад царквы. Не атрымаўшы ключы, дабрачынны, у прысутнасці двух святароў і панятых, апячатаў царкву[209].

Тым не менш вернікі працягвалі барацьбу і маліліся ў невялікай капліцы на могілках, якая не магла змясціць усіх прыхаджан. Вось што пісаў у часопісе "Праваслаўная Беларусь" аўтар пад псеўданімам "Мураванскі прыхаджанін" у артыкуле пад назвай "Маламажэйкаўская "мураванская" царква": *"Вось ужо два гады, як нашая Маламажэйкаўская царква ... зачынена. У лютым прошлага года памёр наш свяшчэннік а. Леў Савіцкі. ... З зачыненнем царквы палажэнне ў нашым прыходзе, маючым больш за 2000 душ, стала надта цяжкім. ... шмат прыхаджан не маюць магчымасці бываць у царквах суседніх прыходаў, якія знаходзяцца ад нас на досыць значных адлегласцях. Аб адчыненні царквы парафіяне хлапаталі, дзе толькі можна. Ездзілі ў гэтай справе не толькі да п. старасты і п. ваяводы, але і ў Вільню да Архіепіскапа і ў Варшаву да Мітрапаліта і нават у Міністэрства. Усюды абяцалі разгледзець справу, але ... нажаль ніякіх рэзультатаў не атрымалі. У астатні час нашым дэлегатам у старостве абвешчана, што ўся справа скіравана ў міністэрства; у міністэрстве ж кажуць: "Будзьце спакойны, справа адаслана да мітрапаліта, ад каторага ўсе залежыць", а мітраполія адпраўляе ізноў у міністэрства, кажучы, што ўся справа залежыць ад гэтага апошняга. З'явілася нейкае зачараванае кола. ..."*. Гэты ж аўтар пісаў, што летам 1927 года ў вёску з прапановай пераходу ў унію прыязджаў уніяцкі святар Васіль Гапановіч, ён меўся ўзяць на сябе справу аднаўлення царквы перад уладамі. Цікава, што "Мураванскі прыхаджанін" у якасці доказу старажытнасці сваёй праваслаўнай царквы спасылаецца на васьміканцовыя крыжы на вежах, якія, як вядома, былі зроблены на надбудаваных вежах толькі падчас рэканструкцыі ў 1872 г.[210].

У 1927 г. царкоўныя ўлады прызначылі ў Малое Мажэйкава новага святара - выпускніка Віленскай духоўнай семінарыі Яна Жарскага. Звесткі наконт службы гэтага пастыра ў Маламажэйкаўскай царкве прыводзіць іерэй Фама Шаплыка ў сваёй кнізе "Радашковічы праваслаўныя": *"На царкве былі ўсталяваны каталіцкія і праваслаўныя крыжы. А. Ян хацеў прыбраць каталіцкія крыжы, але каталікі данеслі на яго ўладам, і ён ледзь не трапіў у турму. Пазбегнуўшы арышту ён быў накіраваны ў м. Рудамін, што за 15 км ад г. Вільня"* [211]. Гарадзенскі гісторык Аляксандр Горны дапускае, што ўжо ў 1926-1927 гг. рабіліся захады па змяненні знешняга выгляду храма з разлікам, што ён раней ці пазней будзе належаць католікам. Каталіцкія крыжы, якія збіраўся прыбраць святар Жарскі, верагодна, былі ўсталяваны на прытворы царквы[212].

9 лістапада 1928 г. было праведзена асвячэнне храма[213]. У гэты дзень Лідскі стараста прывёз мясцовага дабрачыннага протаіерэя Ўладзіміра Жданава і загадаў зрабіць улік царкоўнай маёмасці, пасля чаго абразы былі вывезены з царквы, іканастас дэмантаваны, а царква перададзена рыма-каталіцкай грамадзе[214]. Як ужо пісалася вышэй, за ўдзел у перадачы царквы лідскі дабрачынны Жданаў епархальнымі ўладамі быў пазбаўлены сваёй пасады[215]. Лідскі стараста Багаткоўскі праз газету "Беларуская зарніца" адказаў на абвінавачванні ў захопе царквы *(гл. дадаткі)*.

Віленская газета "Слова" пісала: *"Вяртанне старажытнай святыні. ... курыя атрымала інфармацыю ад кс. каноніка Гіпаліта Баярунца, Лідскага дэкана, што каталіцкаму касцёлу вярнулі святыню ў Скрыбаўцах, ці па іншаму ў Мураванцы. Святыня гэта з'яўляецца адным з цікавейшых помнікаў касцельнай архітэктуры, пабудавана ў XVI ст. Юндзіламі ... і ў XVIII ст. адрэстаўраваная Кастравіцкімі, пасля падзелаў перароблена ў праваслаўную царкву. Гэты касцёл стаіць у каталіцкай ваколіцы, а праваслаўныя маюць царкву блізка, ў Лебядзе, і таму перадача католікам у маральным сэнсе бездакорная"* [216]. У гэтым артыкуле ўсё няпраўда, царква ніколі не была рыма-каталіцкім касцёлам і стаяла сярод праваслаўнага насельніцтва.

Храм стаў касцёлам пад вызнаннем Валадара Езуса Хрыстуса. Новая каталіцкая парафія, замест Маламажэйкаўскай, пачала называцца Скрыбаўскай, бо менавіта там пражывала асноўная маса католікаў. Захаваліся імёны каталіцкіх ксяндзоў, якія да вайны служылі ў Мураванцы: Павел Чаплоўскі, Мікалай Вагнер, Уладзіслаў Мончка[217].

Сярод папер прафесара архітэктуры Ю. Клоса ў Дзяржаўным архіве Летувы захоўваецца перапіска прафесара с ксяндзом Чаплоўскім і лідскай лекаркай Меер 1929-30-х гг. аб перабудове Маламажэйкаўскай царквы пад касцёл[218].

Пра п'янства як галоўную бяду вёскі шмат пісалі народныя карэспандэнты ў беларускія газеты, у вёсцы Голдава *"быў такі выпадак: на Пятра і Паўла было вялікае набажэнства ў вясковай царкве, прыйшоў адзін крэсны ход з в. Дзікушкі з абразамі, другі з в. Бабры так сама з абразамі. Адным словам сабралася шмат народу каб памаліцца. А на другім канцу вёскі работнікі, напіўшыся гарэлкі, пачалі рабіць гранду і пад вечар дайшло да таго, што прышлося запатрэбаваць паліцыю"* [219].

У 1920-я гады спрабавала адрадзіцца скасаваная царскім урадам унія. Напрыклад у 1926 г. газета "Беларускае Слова" паведамляла з Ліды: *"Нядаўна ў нашым горадзе адбыліся лекцыі вуніята Леснабродзкага на тэму: "Чаму я стаў каталіком" і "Памылкі праваслаўя і яго плады". На лекцыі было каля 40 чалавек ... "* [220].

У сярэдзіне 1920-х гг. на вайсковых могілках Ліды была пабудавана капліца-помнік. У лютым 1925 г. старшы капелан, ксёндз Юзаф Бяляўскі праз газету "Слова" падзякаваў усім, хто 31 студзеня спрычыніўся да папаўнення касы будаўніцтва гэтай капліцы, а перад усім *"грона непрацуючых паней-гаспадынь ... Шукевіч, Здановіч (старасціна), Сестранцэвіч (інжынярова), Рашкоўскую, Фэглер (прафесарова), Юрагу, Зямкову (капітанова), Мярвінскую (інжынярова), панну Ядвігу*

*Шкоп, Гарлінскую (капітанова), Рашкевіч (інжынярова), Скавінскую, Грэб, Чаславу Мейлун, Баркоўскую, дзякуючы якім была арганізавана імрэза, якая прынесла ў скарбонку будаўніцтва капліцы 634 зл. і 6 гр."*[221].

У кастрычніку 1926 г. у вёсцы Некрашунцы адбылося ўрачыстае адкрыццё мячэці[222].

У траўні 1928 г. усе каталіцкія парафіі Лідчыны інспектаваў Арцыбіскуп, Мітрапаліт Віленскі ксёндз Ялбжыкоўскі[223].

У чэрвені таго ж года ў Вільню з Ліды прыбыла рэлігійная парафіяльная пілігрымка, у якой удзельнічала каля 600 чалавек. Пасля аднадзённага адпачынку плігрымка пайшла да Кальварыі[224].

29 ліпеня 1929 г. ксёндз-дэкан Гіпаліт Баярунец высвяціў капліцу ў Мінойтах. Капліцу пачала будаваць фундатарка Гудачэўская з Мінойтаў яшчэ ў 1919 г. у гонар незалежнасці, але ў 1920 г. бальшавікі разрабавалі яе маёнтак, і таму будаўніцтва было скончана толькі ў 1929 г.[225].

### *3.4. Беларуская прэса*

У верасні 1926 г. беларусы святкавалі 20-ці годдзе беларускай прэсы.

У 1920-я гады беларуская прэса рознай накіраванасці дастакова вольна распаўсюджвалася ў горадзе і павеце. Напрыклад, паведамлялася, што ў верасні 1928 г. у Лідзе адкрыта і пачала працаваць кнігарня Беларускага Гаспадарчага Звязу па *"Замкавай вуліцы № 8. Гэта найлепшая й найбайчэйшая вул. у Лідзе"*[226]. У кнігарні прадаваліся ўсе беларускія кнігі і газеты, якія выдаваліся ў Заходняй Беларусі, з польскіх кніг тут прадаваліся толькі падручнікі для школ. Апрача таго тут можна была набыць *"усе пісьменныя і канцылярскія тавары і прылады. Цэны не даражэйшыя, а часта навет танейшыя, як у Вільні"* [227].

У прэсе таго часу стала сустракаецца інфармацыя розных палітычных груповак аб распаўсюдзе беларускай прэсы і супрацьдзеянні гэтаму ўладаў. Напрыклад, пры канцы 1925 г. газеты паведамілі, што паліцыя ў Лідзе канфіскавала большую частку нелегальных беларускіх друкаў *"антыдзяржаўнай накіраванасці"*[228]. Увесну 1926 г. жыхары мястэчка Сабакінцы (зараз Першамайск Шчучынскага раёна) жаліліся ў газету, што новы загадчык пошты, былы арганіст касцёла, не выдае падпісчыкам беларускія газеты: *"атрымалі толькі першыя №№ "Беларускай Нівы", апошніх дык ніхто. Газеты нашы шмат хто бачыў у каапэратыве "Еднасць" з паадрыванымі адрасамі"*[229]. І наадварот, у паліцыю звярнуўся жыхар вёскі Ян Лашкевіч са скаргай на рэдакцыі газет "Сялянская Ніва" і "Беларуская Ніва", якія дасылаюць яму нумары гэтых газет, *"якія ён, як паляк, ніколі не выпісваў"* [230].

Хутка грамадоўская газета пісала пра лідскага святара: *"Выслугоўваюцца. Дзівіліся мы, скуль раптам сталі атрымоўваць некаторыя жыхары дэфэнзыўную газэціну "Беларускае Слова". Думалі мы, што самы пачалі выпісваць, каб паправіць сабе "марку" ў паліцыі. Аж - не! Аказваецца, гэта поп наш з дзяком працуюць у гэтым напрамку. Поп у царкве намаўляе, а дзяк ходзіць па хатах і нахалам выманьвае грошы на Паўлюкевічаўскія газэты. Ці грошы пасылае ў рэдакцыю, - не ведама, але адрасы, відаць падае. І чаму гэта? Аказваецца - у папы рыхтуецца, дык хоча перад тым здабыць сабе марку! Бо-ж цяпер ваявода больш значыць, чым мітрапаліт у царкоўных справах!"* [231].

### *3.5. Культурнае жыццё Ліды*

На пачатку 1927 г. Кола аматараў навукі ў Лідзе (Kola Akademikow Lidzian) у зале Дзяржаўнай гімназіі ладзіла лекцыю па гісторыі горада Ліды. Лекцыю прачытаў Станіслаў Петрашкевіч, магістр права, былы старшыня Звязу аматараў навукі Наваградскага ваяводства, *"слухачоў было так шмат, што за дзве гадзіны да пачатку лекцыі ў зале ўжо не было вольнага месца"* [232].

У сакавіку 1927 г. у Лідскім старостве адбыўся арганізацыйны сход павятовага Камітэта фізічнага выхавання, сход вітаў Лідскі стараста Здановіч[233].

Пры канцы 1927 г. пачала працаваць радыёстанцыя ў Вільні. Гэтая радыёстанцыя рабіла перадачы, прысвечаныя жыццю Лідчыны, а таксама культурніцкія і забаўляльным перадачы і таму была папулярнай сярод слухачоў нашага горада[234]. Дарэчы на пачатку 1927 г. у газеце "Кур'ер Віленскі" з'яўляецца рэклама крамы ў Лідзе, якая пачала гандляваць радыёпрыёмнікамі. Крама належала віленскаму радыётэхнічнаму таварыству "Элекрыт" і месцілася па адрасе: вуліца Сувальская, 65[235].

У сярэдзіне 1927 г. В. Янушайціс заснаваў у Лідзе штотыднёк "Лідскае жыццё" ("Zycie Lidzkie"). У красавіку 1928 г. гэта газета стала штодзённай газетай, якая выходзіла як частка штодзённай газеты "Наваградскае жыццё" [236]. 9 жніўня 1928 года "Лідскае жыццё" змясціла зацемку наступнага зместу:

***"Ушанаванне палеглых у 1863 годзе.***

*Дня 5 жніўня ў Шчытніках Тарноўскай гміны адбылося ўрачыстае асвячэнне магілы палеглых герояў, удзельнікаў баёў 1863 года.*

*Крыж і надмагільны камень зафундаваў вайсковы асаднік п. Кілінскі. Яго стараннем пры дапамозе асаднікаў п. Бердаўскага і палкоўніка Ардылоўскага была арганізавана ўрачыстасць.*

*Прыгожую і ўзнёслую прамову сказаў ксёндз Гародка, звяртаючыся да баёў 1863-64 гадоў.*

*Ва ўрачыстасці брала чынны ўдзе люднасць, мясцовая Белагрудская школа са сваёй харцэрскай дружынай і дзятва з Горнага Шлёнска, якая прыбыла ў Белагруду ў летні лагер."* [237]

Той крыж прастаяў да канца 90-х гадоў, на ім была пазначана дата: 1925 год, і старыя людзі апавядалі пра камяні з надпісамі, якія пры саветах патапілі ў балоце, і месца паказалі. Такім чынам можна лічыць, што першы крыж на магілах паўстанцаў паміж Малым Ольжавам і Мохавічамі, каля якога былі пастаўленыя новыя крыжы ў 1995 годзе, быў пастаўлены ў 1925 годзе, а надмагільны камень, якога няма - у 1928 годзе. Аўтэнтычны камень 1863 года захаваўся на адной з магіл праз усе часы і ўлады.



***Брама Лідскага замка ў стылі "Jagdschlosschen"***

6 лістапада 1927 г. рэдактар А. Забенскі выпускае штотыднёвік "Лідскі голас" ("Glos Lidzki"). Рэдакцыя знаходзіцца ў Варшаве, і там друкуецца газета. У Лідзе ў друкарні Ш. Зяльдовіча друкуецца дадатак да "Лідскага голаса", які мае назву "Лідскія ведамасці" ("Wiadomosci Lidzkie") - газета ваяводскай управы Партыі Працы. У 1928 г. гэтая газета знікае.

У 1929 г. Якуб Пупко засноўвае газету "Lider Wokenhlat" на яўрэйскай мове[238].

У Лідзе стала гастралявалі розныя тэатральныя трупы, часта прыязджаў знакаміты тэатр "Рэдута", напрыклад 20 лістапада 1928 г. гэты тэатр паказваў у Лідзе спектакль "Цар Павел I" [239] па п'есе Меражкоўскага, а ў верасні 1929 г. у кінатэатры "Нірвана" - камедыю "Прыяцелі", *"прадстаўленне прайшло ў перапоўненай зале, чаго Ліда ўжо даўно не бачыла"*[240].

Пры канцы 1928 г. гімназічная моладзь Ліды саматужна высунула праект пабудовы помніка Незалежнасці. Планавалася на адмысловай табліцы змясціць прозвішчы загінуўшых у баях з бальшавікамі лідзян. З выкладчыкаў і навучэнцаў гімназіі была ўтворана адмысловая камісія, якая звярнулася ў Магістрат па дазвол на усталяванне помніка ў скверыку на плошчы Славы[241]. Пасля атрымання дазволу для ўсталявання помніка аб'яўлены збор грошай і распачаты продаж жэтонаў на 3, 10 і 25 злотых[242].

У лютым 1929 г. у зале староства прайшоў канцэрт і дансынг, зборы ад іх пайшлі на будаўніцтва санаторыя ў Наваельні і рамонт пераасвечанай у касцёл царквы ў Мураванцы. Перад лідзянамі выступіла вядомая па выступах па радыё спявачка з Варшавы Ірэна Жараўская і мясцовы спявак Зыгмунт Пратасевіч[243].

У 1929 г. была праведзена кансервацыя замка Гедзіміна: *"муры пакрытыя цэментам, заложаны дзюры, і замак будзе існаваць яшчэ доўгія гады. На адным з кутоў замка нават часткова рэканструяваны парэшткі вежы ... забыліся аднак пра браму ... мінула ужо 10 гадоў, як сышлі немцы, але да гэтага часу не знаходзілася грошай, каб замяніць браму нямецкай работы ў стылі "Jagdschlasschen"* [244]. *Падчас свайго прыезду замак агледзеў прэзідэнт ... брама ўжо была знятая і стаяла ў баку"* [245].

***3.6. Культурнае жыццё вёскі***

Пры канцы 1924 г. у вёсцы Ашуркі Лідскага павета артысты-аматары паказалі сялянам некалькі п'есаў, сярод іншых і аднаактавую п'есу-жарт Радзевіча "Збянтэжаны Саўка" [246].

Пры канцы 1925 г. на Міжнароднай выставе дэкаратыўнага мастацтва ў Парыжы народныя тканіны, вытканыя ў Лідскім павеце атрымалі срэбны медаль[247]. А ў 1929 г. агульнапольскі прыз і грашовую ўзнагароду атрымала сялянка з вёскі Дакудава Ганна Лопка за выробленыя ёй кілімы[248].

У 1927 г. беларускі драматычны гурток стварыў настаўнік пачатковай школы ў вёсцы Бабры Антон Ахрэмчык: *"... акуратна зьбіраліся тры разы на тыдзень па вечарох у школу, дзе амаль цэлую ноч рабілі рэпітыцыю... . За тыдзень да сёмухі самі артысты збудавалі сцэну ў школе ... Апошняя рэпітыцыя адбылася з вялікім пад'ёмам ў суботу перад сёмухай, 11 чэрвеня ўвечары. Усе артысты разыйшліся пасьля поўначы, хоць вельмі зморaныя, але моцныя духам, цешачыся, што рэпэтыцыя выйшла як ня трэба лепей і шчыра прасілі ў Бога на заўтрашні дзень нагоды. Патрэбная дэкарацыя была з густам выканана мастаком Сьцяпанам Пуцькай, які з вялікім спагаданьнем аднёсся да пастаноўкі спэктаклю. На заўтра, 12 чэрвеня, хоць пагода была кепская, ліў дождж, але артысты не ўпалі духам і з самай раніцы зносілі крэслы, услоны, лаўкі, дзе хто што дастаў, у школу ... . Артыстамі былі хлопцы і дзяўчаты ... з вёскі Бабры. ... увесь чысты даход ад спэктаклю паступіў на павялічэньне школьнай бібліятэкі"* [249].

Але, на жаль, такой інфармацыі пра самаарганізацыю беларусаў не шмат. Значна часцей у прэсе сустракаецца скруха пра нецікавае жыццё і заклікі, каб нехта чужы прыехаў і зрабіў нешта добрае для сялян, расштурхаў іх ды наладзіў культурнае жыццё. Падобна на тое, што культурныя ініцыятывы былі рэдкасцю і зыходзілі толькі ад настаўнікаў ці святароў а газеты і кнігі да сялян часцей за ўсё не даходзілі: "... (сяляне) *кажуць шта-дзе нам думаць аб газетах, калі патрэбна думаць аб кавалку хлеба, аб тым, каб заплаціць падаткі і г.д., а моладзь зусім ня цікавіцца культурай і ня хоча аб нічым гутарыць, а сабяруцца дзе на музыку, пагуляюць скокамі ды і разайдуцца па хатах, якбы так і добра"* [250].

Іншы народны карэспандэнт пісаў пра культурнае жыццё нашай вёскі, параўноўваючы Лідскі і Маладзечанскі паветы: *"... павет Маладзечанскі. Там трудна знайсьці такую вёску, у каторай-бы ня было якой-небудзь культурнай установы, ці то аадзелу "Прасьветы", ці Т-ва беларускай Школы ці Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. ... У Лідзкім павеце народ ужо зусім інакш жыве ... ня хоча ўнікаць у культурную працу. Узяць тыя вёскі, якія я добра ведаю ... Голдава, Вялікае Сяло, Малышы, Цьвербуты, Ігнаткаўцы, Губейкі, Вольгаўцы, Пяскі і др. Хоць-бы ў адну з гэтых вёсак пранікла беларуская газета альбо хоць-бы адна з гэтых вёсак мела якую-небудзь асьветную альбо гаспадарчую ўстанову, апрача в. Голдава, у якой знаходзіцца нібы-то каапэратыва і в. Ігнаткаўцы, дзе знаходзіцца Каса Стэфчыка"* [251].

### 4. Эканоміка Лідчыны

Па Рыжскай дамове паміж Польшчай і Савецкай Расіяй Лідчына ўвайшла ў склад зноў створанага ў межах Польскай дзяржавы Наваградскага ваяводства. Наваградчына пасля 120 год знаходжання ў Расійскай імперыі і пасля 1-й Сусветнай вайны была ў стане небывалага гаспадарчага заняпаду. Гэта быў адзін з найбольш занядбаных рэгіёнаў алноўленай Польшчы. На Наваградчыне не было вялікіх гарадоў і значных прамысловых устаноў, а малыя гарады мелі ў асноўным гістарычную каштоўнасць. Да 1927 г. найбольш развітым горадам Наваградскага ваяводства быў Слонім. Ліда стаяла на 3-м месцы пасля Баранавіч, і ў тыя часы на Лідчыне ў прамысловасці працавала ўсяго 338 чалавек. З другой паловы 1927 г. пачалося ажыўленне гаспадарчага жыцця, якое працягвалася да канца 1929 г. У гэтыя часы ў Лідзе знайшліся ініцыятыўныя людзі, здольныя прыцягнуць неабходны капітал. Гэта былі пераважна прамыслоўцы і гандляры-яўрэі, прыватныя капіталы якіх дазвалялі пашыраць справу. Вырашальную ролю мелі прыватная ініцыятыва і прыватны капітал. У 1927-1929 гадах у Лідзе пачалі працу новыя прадпрыемствы: млыны, тартакі, кафлярні (вытворчасці кафлі), хімічная фабрыка "Карона" і фабрыка гумовых ботаў "Ардаль". Таннай, некфаліфікаванай працоўнай сілы было дастаткова. Дзякуючы свайму становішчу на шляху чыгуначных камунікацый, Ліда ў адрозненне ад большасці гарадоў Наваградскага ваяводства, мела больш спрыяльныя ўмовы для развіцця. У гэтыя гады па развіцці прамысловасці Ліда выйшла на першае месца ў Наваградскім ваяводстве[252].

У 1920-х гг. хутка развівалася паштовая сетка. У сакавіку 1924 г. тэлефон і тэлеграф з'явіліся ў паштовым аддзяленні мястэчка Радунь[253], у жніўні ў Скрыбаўцах[254], у кастрычніку ў Бастунах[255], у снежні ў Забалаці[256]. У студзені 1926 г. паштовае аддзялене пачало працаваць у Тракелях[257], у сакавіку тэлефон і тэлеграф з'явіліся на станцыі Гаўя[258]. Летам 1925 г. пачала працаваць тэлефонная лінія паміж Варшавай і Вільняй, якая праходзіла праз Ліду[259]. 2 красавіка 1926 г. Віленская Дырэкцыя пошты і тэлеграфу адкрыла паштовае аддзяленне Ліда-2 на чыгуначным вакзале горада[260]. У ліпені 1926 г. тэлефон і тэлеграф з'явіліся ў Забалаці[261], на пачатку 1927 г. паштовае аддзяленне адчынілася ў Дакудаве[262], у снежні паштовае аддзяленне пачало працаваць ў Нёмане (Сяльцы)[263], у верасні 1928 г. у Ганчарах[264] і Крупаве[265]. На пачатку снежня 1928 г. у Паўночным вайсковым гарадку з'явілася паштовае аддзяленне Ліда-3[266]. У 1928 г. пачала працаваць тэлефонная сувязь паміж Лідай і Наваградкам з Баранавічамі. Праз Ліду з гэтымі гарадамі тэлефонная сувязь мела і Вільня[267]. У красавіку 1929 г. тэлефонная сувязь з'явілася ў паштовым аддзяленні Бердаўка[268].

Увосень 1925 г. газета "Слова" гэтак ацэньвала развіццё горада: *"Ліда хутка развіваецца, з'яўляецца сапраўдным цэнтрам для сваіх 24 гмін. Інтэнсіўна адбудоўваецца пасля вайны, жыццё тут віруе, гандаль квітнее, прамысловаць таксама патроху ўздымаецца. ... Але галоўнае, горад перастае быць ваенным біваком і лагерам - тым чым ён быў шмат год"* [269]. Праз год у прэсе пісала, што горад расце, *"насельніцтва за чатыры гады вырасла болей чым на тры тысячы чалавек, у горадзе з'явіліся толькі што набытыя і адрамантаваныя дамы за шыльдай "Дом магістрату"* [270].

15 ліпеня 1924 г. у Лідзе адкрылася прадстаўніцтва Польскага банка, агентам яго стаў Лідскі аддзел Прамысловага і Гандлёвага банка[271]. У красавіку 1927 г. Лідскае аддзяленне Супольнага банка (Banku Spoldzielczego) надрукавала справаздачу аб пяцігадовай дзейнасці на Лідчыне. Уласны капітал вырас да 70 000 злотых, чысты прыбытак за 1926 г. склаў 1451 злот, колькасць кліентаў узнялася да 1200 чалавек[272].

Пра добры стан эканомікі сведчыла тое, што ў канцы 1927 г. у Лідзе было зарэгістравана ўсяго 44 беспрацоўныя (у Баранавіцкім павеце - 228)[273]. На пачатку траўня 1928 г. паведамляецца пра 10 беспрацоўных у горадзе, і ўсе яны атрымлівалі дзяржаўную дапамогу[274], а ў чэрвені засталося толькі 6 беспрацоўных[275].

Людзі, якія мелі сталую працу, пачалі нядрэнна зарабляць. Напрыклад, пра добрыя заробкі працоўных лясной фірмы Айзеншдадта і Шарашэўскага, якая месцілася ў Голдаве, пісаў вясковы карэспандэнт газеты "Грамадзянін", да таго ж у фірме працавала каля 500 чалавек[276].

Улетку 1928 г. управа Наваградскага ваяводства зацвердзіла 8 праектаў будовы новых фабрык, сярод іх і фабрыку кафлі ў Лідзе. *"Апрача таго ў Лідзе будзе арганізаваны вялікая фабрыка галёшаў і апонаў для самаходаў. У ліпені маюць павялічыць прадукцыю шкляныя гуты ў Нёмане і Іўі"* [277]. А Кааператыўнае таварыства Лідчыны вырашыла пабудаваць механічную пякарню[278].

У красавіку 1928 г. Павятоваму аддзелу Лідскага сойміка, які прасіў пазыку ў 70 000 злотых для арганізацыі 7 бетанярань для вырабу вогнеўстойлівых будаўнічых матэрыялаў, Фондам сацыяльнага забеспячэння ў Варшаве выдзелена 50 000 злотых[279]. Тады ж Павятовае самакіраванне планавала пачаць у горадзе меліярацыю былога парку ў ваколіцах вуліцы 3-га Мая і ставаў на Вісмантах[280].

У сувязі з ростам прамысловасці з'явіліся экалагічныя праблемы. Жыхар горада пісаў у газету: *"У нас ў Лідзе на Сувальскай вуліцы пад №112 месьціца паравы млын "Аўтамат", які ўпіраецца машынным аддзелам да Пастаўскай вуліцы, на якую вылівае з машыны перагарэўшую смалу з вадой. Гэты бруд ліецца па рынштоку каля вокан праз вуліцу, трапляе да гародаў, хлявоў і паскудзіць раку Лідзею, вадой з якой людзі карыстаюцца. Гэты бруд дае вельмі паскудны пах ... Жыхарам ..., якім вельмі надаецца смурод, прышлося сабрацца, паразумецца ды падаць заяву да магістрату. ... Аднак магістрат на ўсё гэта не зьвярнуў увагі. Была пададзена просьба да старостава, каб яно ўмяшалася ў гэтую справу ... вынікаў няма. Цікава, што ў Лідзе існуе камісія пры магістраце, абавязкам якой зьяўляецца глядзець за парадкам і чысьціней на ву-*

*ліцах"* [281].

20 траўня 1928 г. адбыўся агульны сход кааператываў Лідчыны *"на якім вядомы беларускі каопэратар гр. Буцька злажыў справаздачу аб коопэратыўным руху ў Лідчыне. Усяго ... ёсць 26 каапэратываў з 28 548 сябрамі. Абарот усіх каапэратываў у 1927 годзе быў роўны 1 614 836 зл. Уласных капіталаў маюць 122 796 зл."* [282].

З 1921 г. па 1.05.1928 г. у Лідзе было пабудавана 358 новых жылых, 5 фабрычных і 186 будынкаў іншага прызначэння. Таксама перабудавана 57 жылых і 5 фабрычных будынкаў. З 358 новых жылых гмахаў - 10 двухпавярховых мураваных, 26 аднапавярховых мураваных і 322 драўляных[283].

У верасні 1928 г. у Лідзе паўстаў грамадскі камітэт па пабудове новага шпіталя[284]. Пры канцы таго ж года Лідская гарадская рада стварыла камітэт пабудовы танных кватэр ў Лідзе. Камітэт зарэгістраваў адмысловы каапператыў, у які маглі запісвацца гараджане, якія жадалі пабудаваць сабе кватэру[285]. Той жа камітэт вырашыў выдаваць пазыкі лідзянам якія страцілі жытло пад час вайны. На гэтыя мэты выдзялялася сума ў 11 200 злотых[286]. Але ініцыятывы па пабудове шпіталя і жытла былі прыпынены сусветным эканамічным крызісам канца 1929 г.

20 лютага 1929 г. паведамлялася, што частка акцыянераў фірмы па вырабе гумовага абутку "Ардаль" [287] Гірш і Гдалія Чарткі, Шымон Савіцкі і Мойша Пупко прадалі свае часткі фабрыкі Мардуху Віленчыку і выйшлі з суполкі акцыянераў. Меер і Зэлман Штэйнбергі, Беньямін і Хайя-Райна Ландэ і Леў Кушалевіч прадалі частку сваіх акцый таму ж Мардуху Віленчыку. У сваю чаргу Мардух Віленчык прадаў частку сваіх акцый Саламону Мейлупу[288].

У красавіку 1929 г. Лідскі соймік прыняў пастанову, якая дазваляла павятовым уладам узяць крэдыт на пабудову моста цераз Нёман каля Агароднікаў. Агульны кошт будаўніцтва моста - 235 000 злотых, з якіх з дзяржаўнага бюджэту выдзялялася 30 000 злотых, а фірма Столе давала 90 000 злотых. Рэшту планавалася пакрыць банкаўскім крэдытам[289].

10 кастрычніка 1929 г., да прыезду прэзідэнта Масціцкага, у толькі што пабудаваным будынку агульнаадукацыйнай школы пачала працаваць перасоўная агульнапольская прамысловая выстава - больш за 200 фірм паказвалі свае вырабы, у тым ліку выстаўляліся прадпрыемствы нашага горада[290]. Свае вырабы паказвала гута шкла "Нёман" - белы і каляровы крышталь, розны шкляны посуд, высакавольтныя ізалятары і г.д., фабрыка "Ардаль" - гумовы абутак, вырабы фірмы "Філіпс" паказвала лідская фірма "Браты Палячак" - гэтая фірма была прадстаўніком "Філіпса" ў нашым горадзе. *"Лідскую металаапрацоўку прадстаўлялі фірмы "Дротіндустрыя", ліцейная і фабрыка сельскагаспадарчых машын братоў Шапіраў, "Бэнланд". Гэтыя фірмы выставілі сячкарні, малатарні і іншыя машыны. Будаўнічую прамысловасць прадстаўлялі лідскія фірмы "Танур", цагельня з Раклішкаў, бетанярня Лідскага сойміка і інжынерна-будаўнічае бюро інжынераў Філаноўскага і Сухоўскага "Беласток-Ліда". Фабрыка "Браты Жыжэмскія і Левін" паказвала ўзоры сукна, якое вырабляе іх фабрыка. Таксама свае вырабы прадэманстравалі "Паравы бровар М. Пупко", "Вытворчасць вяндлін і тлушчу Аляксандра Вярсоцкага", "Механічны выраб вяндлін Андрэя Радзевіча", "Механічная пякарня "Прагрэс", цукерня "Амерыканка". Асобнае месца на выставе займала прадукцыя мясцовай каапераццы ..."* [291].

На апошні перад сусветным эканамічным крызісам 1929 г., планаваўся цалкам збалансаваны па даходах і расходах бюджэт горада Ліды ў памеры 1714000 злотых[292].

На канец таго ж года горад меў 1 685 розных дамоў. Працавалі наступныя банкі: Віленскі прыватны банк і прадстаўніцтва Польскага банка, Гандлёвы Варшаўскі банк, Народы каапeратыўны банк, Купецкі банк, Яўрэйскі банк, Ашчадная каса. Былі забрукаваны вуліцы: Пастаўская, Школьная, Пілсудскага, Фабрычная, Гарнянская, Фалькоўскага, часткова Слабада і Пескі. Падсыпаны вуліцы Шаптыцкага, Сядлецкая і Легіяновая. Перабрукаваны: Рынак, часткова Крупаўская і Школьная. Зроблены дзве плошчы: Славы і на рагу вуліц Сувальскай і 3-га Мая. Не гледзячы на наяўнасць спартовай пляцоўкі ў замку Гедзіміна, было вырашана пачаць будаўніцтва новага стадыёна на 1000 чалавек з тэнісным кортам і бегавой дарожкай (стадыён быў пабудаваны толькі пры канцы 1930-х гг.). Была





***Будынак Магістрата ў 1930-х гг. і зараз***

адкрыта Сойміковая аптэка (уласнасць павятовага сойміка) і 2 аптэчныя склады[293]. У Лідскім павеце меліся 10 сацыяльных прытулкаў - 6 дзіцячых, 3 для старых і 1 для вайсковых інвалідаў. Працавалі два дзяржаўныя шпіталі: у Лідзе на 80 ложкаў і Суботніках на 30 ложкаў, шпіталь у Эйшышках утрымлівала павятовае самакіраванне, яўрэйскі шпіталь на 18 ложкаў у Лідзе ўтрымлівала яўрэйская грамада. Таксама мелася 6 прыёмных медыцынскіх пунктаў.

Тады ж, у першай палове 1920-х гг. за 85 000[294] злотых быў набыты будынак Магістрата[295]. Параўноўваючы фотаздымкі пры працы над 3D мадэллю горада 1930-х гг.[296], было дакладна ўстаноўлена, што будынак магістрата захаваўся і існуе зараз. Гэта двухпавярховік, пабудаваны каля 1900 г., і зараз стаіць за домам, дзе знаходзіцца магазін "Юбілейны" - сучасны адрас былога Магістрата: Замкавая, 2. На аэрафотаздымку 1944 г. гэта адзіны дом, які захаваўся на гэтай пляцоўцы, але бачна, што Магістрат гарэў і не мае страхі. Хутка адрамантаваны адразу пасля вайны, ён страціў усе ўпрыгожванні, але быў атынкаваны. У 1920-30-х гг. гэта быў дом па адрасе: Мацкевіча, 6 - Сувальская, 1. Фасадам ён выходзіў на вуліцу Мацкевіча (ранейшую Крывую, пасля таго як зніклі некалькі драўляных дамоў на пачатку Крывой, першым на вуліцы стаў дом № 6) з галоўным уваходам праз прыгожы двор-сад на вуліцу Сувальскую.

### *4.1. Будаўніцтва калоніі дамоў для дзяржаўных чыноўнікаў*

У верасні 1924 г. быў ганарова асвечаны вуглавы камень першага дома ў калоніі дамоў чыноўнікаў. На мерапрыемстве выступілі лідскі староста Здановіч і бургамістар горада Рашкоўскі. Староста сказаў, што пасля Расійскай імперыі засталіся толькі турмы і гарэлачныя манапалькі, і таму трэба будзе будаваць шмат новага, будоўля калоніі недарагіх дамоў дасць узор стылю і ўзніме агульную культуру. Бургамістар дадаў, што з гэтай калоніі пачынаецца новы, прыгожы раён горада. Староста і бургамістар падпісалі акт пачатку будоўлі, ксёндз-дэкан Баярунец асвяціў закладны вуглавы камень, пасля чаго староста замураваў у гэты камень капсулу з актам[297].

### *4.2. Будаўніцтва шашэйных дарог*

Пасля Расійскай імперыі ў нашым краі амаль што не было шашэйных дарог. А тыя дарогі, якія меліся, знаходзіліся ў жудасным стане. Падчас Першай сусветнай вайны, як анекдот, пераказваліся словы нямецкага афіцэра, які патрапіў у палон дзесьці каля Баранавіч. Ён сказаў дапытваўшым яго рускім афіцэрам: *"Толькі тут* (на тэрыторыі Беларусі - *Л.Л.*) *я зразумеў, як доўга і руплва вы, рускія, рыхтаваліся да вайны. Бо колькі ж спатрэбілася часу, каб так сапсаваць дарожную сетку! З-за гэтага мы не можам тут наступаць!"*.

Каб неяк ратаваць сітуацыю, польскі ўрад увёў адмысловы падатак, так званыя "шарваркі" - кожны селянін павінен быў адпрацаваць і вырабіць неабходную норму на працягу года на будаўніцтве дарог. З-за дрэннага стану ці поўнай адсутнасці дарог, у верасні 1928 г. некалькі гмінных рад Лідскага павета ўхвалілі нават дадатковыя шарваркі: Жалудоцкая - 500 $м^2$ на дарозе Жалудок - Лапічна (павятовая дарога), Сабакінская - 2 000 $м^2$ на дарозе Псінцы - Васілішкі, Шчучынская - 5 000 $м^2$ і 16 700 $м^3$ грунту і жвіру на дарозе Шчучын - Ражанка, Забалацкая - 2 000 $м^2$ на дарозе Забалаць - Васілішкі, Арлянская - 1000 $м^2$ на дарозе Орля - станцыя Ражанка, Астрынская - 1000 $м^2$ на дарозе Астрына - Шчучын (павятовая дарога), Ражанка - 2 000 $м^2$ на дарозе станцыя Ражанка - Шчучын[298].

Па ўспамінах, каб выканаць норму, даводзілася адрабляць не меней 6 дзён штогод, часта за 10-15 км ад сваёй хаты. Зразумела, што такі прымусовы, натуральны - амаль што феадальны - падатак быў вельмі не да спадобы беларускім сялянам. З іншага боку, ажно да канца 1960-х гг., Заходняя Беларусь выгодна адрознівалася ад Усходняй, у тым ліку, і разгалінаванай сеткай брукаваных дарог.

Дарогі будаваліся і за дзяржаўны кошт. У 1924 г. пачалася будоўля шашэйнай дарогі Вільня-Ліда. Камень для бруку і жвір назапашваліся з 1923 г. У 1924 г. на трасе пабудавалі тры масты[299], да лістапада паспелі зрабіць 5 кіламетраў новай дарогі. Кошт аднаго кіламетра трасы ацэньваўся ў 35 000 злотых[300]. Улетку 1928 г. дарогу будавала 200 чалавек[301]. У кастрычніку 1929 г. міністр Пошт і Тэлеграфаў Ігнацы Баернер на аўтамабілі правёў інспекцыю дарогі Вільня - Ліда - Гародня і паштовых аддзяленняў па яе шляху[302].

У ліпені 1925 г. пачалося будаўніцтва дарогі Ліда-Ашмяны[303]. У жніўні 1928 г. прэса паведаміла пра пазыку ў 33 000 злотых ад Міністэрства Грамадскіх работ Лідскаму павятоваму сойміку на пабудову даезду да парому ў Гудэлях на шляху Ліда - Радунь і на рамонт павятовай дарогі Ганчары - Агароднікі - Наваградак[304].

З 1922 па 1928 г. у павеце было пабудавана: 20 вялікіх мастоў агульнай даўжынёй 752 м; некалькі дзесяткаў малых мастоў агульнай даўжынёй 810 м; праз шарваркі выбрукавана 257 км і падсыпана жвірам 53 км дарог[305].

У 1929 г. павятовыя ўлады прынялі 10-ці гадовы план давядзення дарог да добрага стану[306], аднак план не быў выкананы з-за эканамічнага крызісу.

### *4.3. Чыгунка*

Пасля вайны ў Польшчы патроху аднаўлялася эканоміка, і таму пачалі з'яўляцца планы пабудовы новых чыгуначных ліній. Яшчэ ў 1926 г. Віленскаму ваяводзе быў перададзены праект будоўлі чыгуначнай лініі Вільня - Эйшышкі - Радунь. Газеты пісалі, што лінія мела б вялікае значэнне, бо злучыла б Вільню з паўднёвымі ваколіцамі горада[307].

Пры канцы 1925 г. нехта з лідзянаў пісаў пра "таямніцу чыгуначнага пераезду" каля вакзала: *"У Лідзе ад чыгуначнага вакзала ў горад дарога вядзе праз пераезд, цераз рэйкі. Пасажырскія цягнікі прыходзяць у Ліду два разы на дзень, і неяк так дзіўна складваецца,*

*што ў хвіліны, калі будучы пасажыр спяшаецца прайсці да вакзала, шлагбаўм на пераездзе заўжды закрыты, а на рэйках туды-сюды курсіруе манеўровы паравоз ... і немагчыма патрапіць на цягнік, які прыбывае"* [308].

У верасні 1926 г. пачаў дзейнічаць чыгуначны прыпынак у Белагрудзе[309].

Па ўспамінах відавочцаў, на пачатку 1920-х гадоў, пакуль не быў адноўлены будынак вакзала, замест яго выкарыстоўвалася таварная кантора чыгункі - зараз адзін з будынкаў паліклінікі па вуліцы Труханава. У верасні 1928 г. віленская прэса паведаміла, што рамонт будынка Лідскага чыгуначнага вакзала закончаны[310], і ўжо праз некалькі дзён у новаадрамантаваным вакзале, пасля спрэчкі ў буфеце, нейкі лідзянін Памінскі стрэлам з рэвальвера забіў віленскага гандляра Янкеля Сантоцкага[311].

Улетку 1928 г. увагу жыхароў горада прыцягнулі наступныя падзеі: каб зняць з пасады дыспетчара чыгуначнага руху Дамброўскага, чыноўнікі лідскага філіялу Віленскай дыстанцыі чыгункі Янушэўскі, Ганчарык і Цемух пачалі распускаць плёткі, што падчас бальшавіцкай акупацыі Ліды Дамброўскі заставаўся працаваць на чыгунцы. Дамброўскі падаў на сваіх крыўдзіцеляў у суд, і ў выніку Янушэўскі і Ганчарык за паклёп былі прысуджаны на 6 месяцаў, а Цемух на 3 месяцы турмы[312].

У кастрычніку 1929 г. прэса паведаміла пра адкрыццё насупраць вуліцы Пілсудскага пераходу цераз чыгунку. Да гэтага чыгунку можна было перайсці толькі па пераездзе па вуліцы 3-га Мая. Цікава, што гэты пераход (насупраць сучаснага аўтавакзала) дзейнічаў да 2010 г., калі замест яго быў пабудаваны пешаходны мост цераз чыгунку[313].

#### *4.4. Здарэнні на чыгунцы*

24 жніўня 1923 г. пад Лідай адбылося вялікае чыгуначнае крушэнне, пра якое пісалася ў папярэднім раздзеле. Толькі ў 1926 г. пад час суду сталі вядомы сапраўдныя акалічнасці чыгуначнай катастрофы. Катастрофа адбылася пры наступных умовах. Чыгуначная дарога мела тут дзве калеі, прычым у нармальных умовах у бок Скрыбаўцаў цягнік рухаўся па левай калеі. На 267-м кіламетры чыгунка перасякала раку Дзітву, на якой як раз у той час аднаўляўся мост. Таму начальнік адзела паддырэкцыі ў Ваўкавыску выдаў загад, каб рух цягнікоў часова ішоў па правай калеі. Кантралёр руху А. Дамброўскі, начальнік дыстанцыі А. Гардзялкоўскі і начальнік станцыі Ліда У. Чапкоўскі таксама выдалі свае загады. Былі ўстаноўлены папераджальныя сігналы, пастаўлены неабходныя бар'еры і г.д.

22 жніўня 1923 г. дзяжурны кіраўнік руху станцыі Ліда Жэнчык і дзяжурны паста стрэлкі № 2 стрэлачнік Пінкевіч з-за памылкі пакінулі запасную калею адчыненай. Пасажырскі поезд № 816 на Варшаву, які вёў машыніст Шуфер, на выхадзе са станцыі Ліда быў накіраваны па левай калеі.

Машыніст не ведаў, што гэтая каляя знаходзіцца ў рамонце і ехаў па ёй з хуткасцю 50 км у гадзіну. Не даязджаючы 700 метраў да моста, цягнік з'біў засцерагальны бар'ер і ўехаў на рамантаваны мост. Вынікі былі катастрафічнымі. Лакаматыў і чатыры вагоны былі разбіты, пасажыр Ева Кубякова разам з сваім 6-ці месячнае дзіцём загінула[314].

Суд прыгаварыў стрэлачніка Антона Пінкевіча да чатырох месяцаў турмы на нядбайства. Дзяжурны станцыі Ліда Ўладзіслаў Жэнчык і машыніст паравоза Мікалай Шыфер былі апраўданыя. З усіх абвінавачаных толькі Шыфер застаўся на сваім працоўным месцы[315].

Але крушэнні працягваліся. У выніку чыгуначнага здарэння ў Скрыбаўцах 17 лютага 1926 г. былі паранены два чалавекі. На гэты раз манеўровы паравоз з шасцю вагонамі з-за недакладна пераведзенай стрэлкі выехаў на каляю, па якой ішоў пасажырскі цягнік № 811. Машыніст пасажырскага цягніка паспеў пачаць тармазіць, і таму ахвяр не было[316].

31 траўня 1927 г. каля станцыі Беняконі перад праходам цягніка каляёвы абходчык знайшоў на рэйках у *"5 мясцох шпалы. Гэтак удалося не дапусьціць да разбіцьця поезду. Паліцыя занялася шуканьнем вінавайцаў"* [317].

17 жніўня 1928 г. загарэліся чыгуначаныя склады каля воданапорнай вежы. У выніку пажару, склады згарэлі разам з вежай, станцыя Ліда засталася без вады. Страты склалі каля 200 000 злотых[318]. А 16 лістапада на станцыі Нёман згарэў склад драўніны[319].

На пачатку студзеня 1929 г. праводзіліся аварыйныя работы на каналізацыі чыгуначнай станцыі і з-за абвалу траншэі былі засыпаны зямлёй два рабочыя. Адзін з іх - Антон Борка загінуў, а другі - Юзаф Бахенак, атрымаў цяжкія пашкоджанні[320]. А ў верасні 1929 г. *"трэці раз на адным і тым жа месцы"* зноў лопнула вадаправодная труба, па якой з чыгуначнай станцыі падавалася вада ў жылыя дамы чыгуначнікаў[321].

#### *4.5. Гарадская электроўня*

У 1916 г. па распараджэнні нямецкіх акупацыйных уладаў да прыватнай электроўні пастаяннага току магутнасцю 50 к.с., якая працавала ў вінакурні Крыгера, былі падключаны будынкі, дзе месцілася гарадская ўлада і часткова дамы жылога сектара ў цэнтры горада. Адначасова пачалося будаўніцтва гарадской электроўні, і дзесьці ў 1916 г. горад атрымаў станцыю з двума лакамабілямі, якія прыводзілі ў дзеянне дынама-машыны пастаяннага току.

Не гледзячы на тое, што ў 1920-я гг. у горадзе працавалі дзве адносна вялікія электоўні - чыгуначная і гарадская, жыхары Ліды мелі праблемы з асвятленнем. Адна частка горада - "Ферма" асвятлалася ад чыгуначнай электроўні. Чыгуначная электроўня працавала стабільна і прадавала электрычнасць па 60 гр. за кілават-гадзіну.

Увесь астатні горад забяспечваўся гарадской прыватнай электроўняй, арандатарам якой быў нейкі Цыдзяровіч. Электрычнасць у гэтай, большай, частцы

горада часта знікала, лямпы гарэлі няроўна, і пры гэтым абаненты гарадской электроўні плацілі 1 зл. 16 гр. за кілават-гадзіну. *"Не далей, як учора, г. зн. 15 студзеня цэнтар горада да 10-й гадзіны вечара быў пагружаны ў цемру, разам з жыхарамі святла не мелі паліцыя, турма і г.д."* - пісаў карэспандэнт "Слова" ў артыкуле "Нашы балячкі" на пачатку 1926 г.

Далей журналіст паведамляў: *"Якім чынам электроўня патрапіла ў рукі прыватных уласнікаў? Вядома, што ў будынку, які належаў гораду, немцы ў часы вайны адкрылі электроўню, пасля ж нямецкай акупацыі горад планаваў пакінуць электроўню ў сваёй уласнасці. ... Але ў 1922 г. электроўню прыватызавалі за 100 000 марак, якія павінна была штогод плаціць нейкая суполка дэмабілізаваных. Але суполка збанкрутавала і перадала маёмасць нейкаму Раманоўскаму, а той перадаў яе яўрэю Цыдзяровічу. Выплаты пералічваюцца і зараз* (пасля інфляцыі і скасавання польскай маркі - *Л.Л.*) *электроўня плаціць у скарб усяго 65 гр., яшчэ раз - 65 грошаў! Уладальнік мае даход але не дбае пра кліента, скарб не атрымлівае выплаты, магістрат бяздарны, а гараджане плацяць вялікія грошы за асвятленне. Што аб гэтым думае пракуратура? Гэта адзін з прыкладаў нашага гаспадарання"*[322].

Праз некалькі тыдняў Цыдзяровіч даказаў карэспандэнту "Слова", што гарадская станцыя прадавала электрычнасць па 1 зл. 5 гр., а чыгуначаная па 90 гр. за кілават-гадзіну, 60 гр. плацілі толькі работнікі чыгункі, якія жылі ў тым раёне горада. Адсутнасць электрычнасці 15 студзеня 1925 г. Цыдзяровіч патлумачыў моцнай снежнай навальніцай. Таксама уласнік электроўні паведаміў, што апрача тых 65 гр., ён яшчэ штогод плаціць у скарб 500 злотых[323].

Праз паўгода газета "Слова" зноў звярнулася да гэтай тэмы: *"Не гледзячы на тое, што каштуе* (электраэнэргія - *Л.Л.*) *значна болей, чым у Вільні, электрычнасць часта псуецца, і гараджане сядзяць пры свечках ці газавых лямпах. Адзіная надзея, што здейсняцца энергічныя захады бургамістра горада Рудольфа Бергмана, і гарадская электроўня пяройдзе з рук нейкага Цыдзяровіча ў маёмасць горада"* [324].

У красавіку 1928 г. "Наваградскае жыццё" папярэдзіла аб тым, што Лідзе пагражае "егіпэцкая цемра", бо *"лакамабілі лідскай электроўні знаходзяцца ў такім стане, што прадстаўнік надзору за катламі інж. Лябецкі забараніў іх далейшую эксплуатацыю. Але каб не пазбавіць лідзян электрычнасці на велікодныя святы, ён дазволіў электроўні працаваць яшчэ нейкі час. Прычына хуткага псавання катлоў - неадпаведная вада, якую патрэбна было апрацоўваць адмысловымі хімікатамі"* [325]. Пры канцы 1928 г. Гарадская рада дазволіла прадаць гэты лакамабіль у 80 к.с.[326], але толькі пасля рэканструкцыі станцыі, справа дайшла да распродажу ўсяго яе абсталявання. Менавіта дзякуючы аб'яве аб распродажы машын першай электроўні нашага горада, якая з'явілася на пачатку 1930 г. у прэсе[327], мы ведаем, што за абсталяванне тут працавала, гэта:

- Лакамабіль фірмы "Assman et Stocker", 150 к.с., 165 аб/хв.
- Лакамабіль фірмы "Lanc", 80 к.с., 200 аб/хв, працоўны ціск ў катле 10 атм.
- Дынама-машына "Siemens-Schuckert", 71 кВт, 310 А, 230 В, 850 аб/хв.
- Дынама-машына "Lahmer et C°, Frankfurt", 52 кВт, 240 А, 220 В, 750 аб/хв.
- Камплекты скураных пасаў (лакамабілі злучаліся з дынама-машынамі пасавымі перадачамі).
- Размеркавальная мармуровая дошка.

Гарадскія ўлады дабіліся свайго, у красавіку 1928 г. прэса паведамляла, што *"Ваяводская ўправа даслала ў Міністэрства прамысловасці і гандлю праект умовы продажу электроўні ў Лідзе"* [328], а ў ліпені: *"Дзякуючы шматгадовым намаганням Магістрата, лідская электроўня, якая з'яўлялася дзяржаўнай маёмасцю, але была перададзена ў арэнду прыватнікам, 13 ліпеня за невялікія грошы стала гарадской маёмасцю"* [329]. На пачатку 1929 г. стала вядома аб ліквідацыі суполкі з абмежаванай адказнасцю "Лідская электроўня", юрыстам-ліквідатарам быў прызначаны Насаль Калмановіч (вул. Шкляная, 16)[330].

Аднак, пераход электроўні на баланс Магістрату спрыяў не паніжэнню, а павышэнню коштаў на электрычнасць. На пачатку кастрычніка 1929 г. павышэнне коштаў тлумачылася тым, што Магістрат пачаў траціць вялікія грошы на будаўніцтва гарадскіх размеркавальных сетак і на будаўніцтва новага будынка станцыі[331]. Праз тры тыдні тарыфы на электрычнасць зноў павялічыліся[332].

У 1928 г. на чыгуначнай электроўні прайшла рэканструкцыя, і 27 лістапада тут было апрабавана новае абсталяванне. Гэта электроўня абслугоўвала чыгуначную станцыю, частку горада (раён Ферма) і да 1930 г., да рэканструкцыі гарадской электроўні, і вайсковыя казармы Паўночнага гарадка[333].

Яшчэ ў ліпені 1928 г. на паседжанні Гарадской рады было вырашана ўзяць у Гаспадарчым Краёвым банку пазыку для будаўніцтва новай электроўні ў горадзе. Новую станцыю першапачаткова планавалі будаваць на плошчы імя ксендза Фалькоўскага[334]. Але ў сакавіку 1929 г. газета "Наваградскае жыццё" паведаміла: *"З пачатку траўня 1929 г. пачнецца будаўніцтва новай электроўні па вуліцы Сувальскай, недалёка ад праваслаўных могілак. Кошт будоўлі склаў 800 000 зл. Станцыя павінна будзе атрымаць два рухавікі ў 260 і 150 к.с., пры канцы зімы першы з рухавікоў ужо быў закуплены ў Варшаве"*[335]. І насамрэч, у траўні 1929 г. пачалося будаўніцтва новай электроўні коштам 800000 злотых на старым месцы па вуліцы Сувальскай. Планавалася, што новая электроўня павінна была мець два дызель-генератары ў 150 і 260 кВт[336]. Пра генератары такой магутнасці на Лідскай электроўні ў 1932 г. пісаў часопіс "Асвета" [337]. Але ў 1936 г. прэса паведамляла пра наяўнасць двух генератараў агульнай магутнасцю 220 кВт[338]. Пра такую ж магутнасць лідскай станцыі таксама паведамлялася ў публікацыях і ў наступныя гады[339].

Пры канцы жніўня прэса пісала: *"Гмах гарадской электроўні надбудоўваецца другім паверхам, работы будуць закончаны да канца восені"*[340]. 28 жніўня на гэтай будоўлі павалілася рыштаванне і прыціснула аднаго з будаўнікоў - Пятра Цярпілоўскага (у Лідзе жыў па адрасе: Маставая, 56). У шпіталі канстатавалі пералом рэбраў[341].

Разам з рэканструкцыяй электроўні, горад пераходзіў з пастаяннага на пераменны ток, і таму трэба было будаваць новыя размеркавальныя электрычныя сеткі з трансфарматарнымі пунктамі. З прэсы даведваемся пра некаторыя цікавыя моманты: *"Пробашч Лідскай парафіі кс. дэкан Баярунец напісаў пану ваяводзе пратэст супраць планаў будоўлі трансфарматарнага пункта на пляцы, дзе раней месціўся касцёл кармелітаў і магілкі каля касцёла - каля сучаснага будынка Лідскага старостваʺ* [342]. Як бачна з фотаздымкаў канца 1930-х гг., улады прыслухаліся да меркаванняў ксендза, бо той самы трансфарматарны пункт 6/0,4 кВ быў пабудаваны на вуліцы Сувальскай насупраць староства. Тады ж былі пабудаваныя тыпавыя трансфарматарныя пункты на Рынку і па вуліцы Варшаўскай, размеркавальны пункт насупраць вайсковага шпіталя. Гэты размеркавальны пункт з абсталяваннем фірмы "Ганц" існаваў да канца 1960-х гг. А тыпавы трансфарматарны пункт (падстанцыя 6/0,4 кВ) па вуліцы Варшаўскай захаваўся да нашага часу. Гэты тэхнічны будынак пабудаваны па тыпавым праекце таго часу - на фотаздымках 1930-х гг. такія ж транфарматарныя пункты, крытыя дахоўкай, бачны каля рынкавай плошчы і каля староства. Падстанцыя па Варшаўскай была злучана з размеркавальным пунктам (які знаходзіўся каля вайсковага шпіталя) кабелем 6 кВ. Кабель з меднымі токаправоднымі жыламі быў выраблены на заводзе кабельных вырабаў у г. Быдгашчы ў 1929 г. Пры сучаснай рэканструкцыі транфарматарнага пункта па вуліцы Варшаўская, на старым кабелі была знойдзена злучальная муфта, зробленая таксама ў 1929 г. (у муфце мелася закладная шыльда з прозвішчам манцёра, які рабіў муфту, і годам вырабу)[343].

У красавіку 1930 г. венгерскай фірмай "Ганц" была закончана рэканструкцыя электроўні. На фотаздымку машыннай залы Лідскай электроўні таго часу, добра бачна шыльда фірмы "Ганц". Прэса паведамляла: *"Ліда мае электрычнасць. Нарэшце прыйшоў дзень, калі Магістрат горада ў прысутнасці ваяводскіх уладаў афіцыйна адкрыў новапабудаваную гарадскую электроўню. На ёй усталяваны два дызелі агульнай магутнасцю 410 к.с. Выкладзена кабельная размеркавальная сетка класа 6 кВ, якая аб'яднала шэсць трансфарматарных пунктаў. Гэта павінна забяспечыць нармальнае электразабеспячэнне і ўзровень напружання. Вонкавыя размеркавальныя сеткі 0,4 кВ таксама рацыянальна перабудаваны. Галоўная і бакавыя вуліцы, на якіх у апошні час павялічыўся дарожны рух, атрымаюць добрае асвятленне. Замест былых 75 ліхтароў на вуліцах горада зараз усталявана 185, і Магістрат плануе ўсталяваць яшчэ 35 ліхтароў дадаткова.*

*Мантаж абсталявання, размеркавальных сетак і трансфарматарных пунктаў выкананы фірмай "Ганц", якая згадзілася зрабіць для нашага горада працу ў крэдыт на 4 гады, і, верагодна, гэты крэдыт будзе пралангаваны яшчэ на паўгода.*

*Адначасова бюро электроўні прыступіла да замены ўводаў ад магістральных ліній да абанентаў. Усё гэта паменшыць страты электраэнергіі да мінімуму. Таксама персанал электроўні ва ўсіх абанентаў упарадкаваў прыёмныя стаякі, дзе раней часта здараліся замыканні, што дрэнна ўплывала на работу генератараў.*

*Трэба заўважыць, што у Лідзе ёсць значная колькасць электрыкаў-аматараў, якія лічацца дасведчанымі людзьмі і самі выконваюць розныя рамонты і часта памыляюцца, што прыводзіць да розных пашкоджанняў у сетках. Таму вырак Электрычнай камісіі Магістрата ўпарадкаваць прыёмныя стаякі будынкаў зрабіў немагчымым далейшыя эксперыменты аматараў.*

*Новая электроўня на працягу 6 гадоў будзе цалкам амартызаваная. Але на гэты тэрмін Магістрат атрымаў магчымасць заняцца каналізацыяй і водазабеспячэннем горада.*

*Пры канцы, за выкананую працу, трэба выказаць падзяку перадусім кіраўніку Электрычнай камісіі Магістрата, віца-бургамістру інжынеру М. Пупко, сябрам камісіі доктару Рамуальду Сапоцьку і Цукерніку, лідскаму раднаму Г. Чартоку, якія шмат зрабілі для таго, каб горад меў новую электроўню і сеткі"*[344].

На пачатак 1931 г. паведамлялася пра 6 714 м кабельных ліній 6 кВ у горадзе[345].

У ліпені 1930 г. газета "Наваградскае жыццё", як прыклад дрэннай польскай мовы чыноўнікаў лідскага Магістрату, надрукавала аб'яву пра замену лічыльнікаў у абанентаў горада пасля пераходу на пераменны ток, з гэтай аб'явы мы даведваемся пра ўмовы гэтай замены:

*"Паведамленне для абанентаў. Падлік выплат за ўстаноўленыя лічыльнікі.*

*Адразу, гатоўкай: за лічыльнік - 40 злотых, за падключэнне - 2 злотыя, за канцылярскія расходы - 1 злоты. Разам - 43 злотыя.*

*Па частках, з падвышкай у 10% :*

*1) для абанентаў, якія маюць 1-2 кропкі асвятлення, можна выплачваюць па 1/24 часткі, 23 часткі па 2 зл. = 46 і 1 частка па 1.85. Разам 47,85 зл.*

*2) для абанентаў, якія маюць больш за дзве кропкі, выплаты могуць быць разложаны на 13 частак: 1 частка - 4,15 зл., 6 частак па 4 зл. = 24 зл. і 6 частак па 2,95 = 17,7 зл. Разам 45,85 зл. Увага: за здадзеныя старыя лічыльнікі пастаяннага току, будзе налічвацца 25 зл. як частка выплаты за новы лічыльнік пераменнага току"* [346].

Пераход на пераменны ток выклікаў і праблемы ў пажарнай ахове горада: *"Ужо два гады як лідзяне прызвычаіліся да таго, што аб пажары ў горадзе яны даведваюцца, пачуўшы гукі адмысловай сірэны, якая ўсталявана ў самым цэнтры горада, у доме 12 па вуліцы Сувальскай. Пажарная варта мела магчымасць*

*хутка прыехаць да месца пажару. Сірэна прыводзілася ў дзеянне пастаянным токам ад гарадской электроўні. Але пасля пераводу электроўні на пераменны ток сірэна змоўкла"* [347].

Трэба адзначыць, што будаўніцтвам электроўні пераменнага току Ліда ў тэхналагічным сэнсе апярэдзіла суседнія гарады. Напрыклад, прэса паведамляла, што толькі ў 1932 г. Гародня пачынала пераход на пераменны ток, адным з першых праектаваўся трансфарматарны пункт па вуліцы Дамініканскай гэтага горада[348], а ў Вільні, толькі ў жніўні 1933 г. паведамлялася пра пераход з пастаяннага на пераменны ток спажыўцоў па вуліцы Міцкевіча (ад 3-га Мая да моста)[349].

Цікава, што ў верасні 1928 г. лідскі староста разглядзеў праект пабудовы гідраэлетрычнай станцыі на рацэ Гаўя і дазволіў далейшыя работы па яе праектаванні[350].

Пры канцы жніўня 1929 г. чыноўнік Лідскай электроўні Фішар у кепскім настроі вярнуўся ў поўдзень дадому і патрабаваў у жонкі, каб тая яго накарміла. Калі жонка трохі прамарудзіла, ён, пакрыўдзіўшыся, выпіў бензін з бутэлькі, якая стаяла каля стала. Урач канстатаваў апёкі горла і кішак[351].

Нервовая была праца ў энэргетыкаў у тыя часы...

### 4.6. Сельская гаспадарка

Галоўнай галіной нашай эканомікі ў той час з'яўлялася сельская гаспадарка, бо 90% насельніцтва павета былі сяляне[352].

28 снежня 1925 г. Сойм завяршыў працу над законам пра аграрную рэформу. Пасля бурных спрэчак, дзякуючы галасам правацэнтрысцкай кааліцыі і пры падтрымцы сацыялістаў была прынята пастанова, паводле якога парцаляцыі, гэта значыць падзелу, падлягала зямельная ўласнасць, якая перавышала 180 га, а на ўсходзе краіны, дзе велізарныя плошчы былі заняты збожжавымі культурамі ці ляснымі ўгоддзямі - звыш 300 га. Для землеўладанняў, якія мелі прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны, устанаўліваўся ліміт, роўны 700 га. Уладальнік маёнтка асабіста ці праз адпаведныя ўстановы павінен быў на працягу двух гадоў правесці падзел сваёй зямельнай уласнасці. Толькі пры выкананні гэтага тэрміну ён мог атрымаць поўнае пакрыццё ад дзяржавы за згубленую ўласнасць. Зямельная рэформа, якую ў тыя гады праводзілі польскія ўлады, прадугледжвала так званую "камасацыю" (землеўпарадкаванне). "Камасацыя" была разлічана на захаванне абшарніцкага землеўладання. На аснове Закона аб аграрнай рэформе 1925 г., найперш улічваліся інтарэсы памешчыкаў. Зямлю ў іх не адбіралі, а скарб купляў частку зямлі, каб потым прадаваць яе невялікімі кавалкамі сялянам і перадаць бясплатна асаднікам. Сялянам дзяржава на пакупку зямлі абяцала доўгатэрміновыя крэдыты.

Пастановай Рады Міністраў на Лідчыне ў 1926 г. прымусова былі прададзены наступныя кавалкі зямлі: 100 га з маёнтка Шчучын (фальварак Даўлюдаўшчына) княгіні Мырыі Яны Друцкай-Любецкай, 460 га з маёнтка Спуша (фальваркі Дэмбраў і Лясішча) князя Яўстаха Сапегі, 300 га з маёнтка Жалудок (фальваркі Хацееўшчына і Варацішча) князя Л. Чацвярцінскага[352]. У 1927 г.: 100 га каля мястэчка Жалудок княгіні Марыі Чацвярцінскай, 200 га каля мястэчка Іўе Тамаша Замойскага, 350 га каля мястэчка Шчучын Марыі Друцкай-Любецкай, 225 га, якія належалі Нясвіжскай ардынацыі Альбрэхта Радзівіла і знаходзіліся ў Лідскім павеце[354] - усе гэтыя абшарнікі належалі да самых слынных радоў. Дзяржава за бюджэтныя сродкі выкупіла надзелы зямлі, і частка іх была перададзена ў гмінны фонд, адкуль зямля дзялілася на невялікія роўныя надзелы (каля 0,24 га) і за 200 злотых перадавалася ў карыстанне сялянам, грошы за гэтыя надзелы сяляне плацілі па частках шмат гадоў.

Але зямлі не хапала, і таму праз "камасацыю" ўсе, хто меў патрэбу, купіць зямлю не маглі. Малазямелле было галоўнай хваробай сялян Заходняй Беларусі, большасць сялянскіх сем'яў, цяжка працуючы, дзесяцігоддзямі складалі злоты да злотага, каб дакупіць кавалак зямлі. Напрыклад, дзед па маці маёй жонкі (з-пад Радуні) змог рэалізаваць мару ўсяго свайго сялянскага жыцця толькі летам 1939 г., калі ён купіў 7 га зямлі, аддаўшы ўсе раней заробленыя грошы. Потым жартавалі: купіў калгасу ...

Пры канцы 1924 г. прэса паведамляла пра дрэнны ўраджай, напрыклад, *"у Лідскім павеце, раўнуючы да нармальных ураджаяў, сёлетні ўраджай даў: жыта 68%, ячменю 80%, аўсу 10% (у некаторых ваколіцах нават ад 5 да 10%), бульбы 50%"* [355].

На пачатку 1920-х гг. аднавіла сваю працу Віленская сельскагаспадарчая доследная станцыя ў Беняконях. Станцыя разам з хімічнай лабараторыяй была заснавана у 1910 г. Віленскім сельскагаспадарчым таварыствам на 15 га палеткаў, якія падараваў граф Ваўжынец Путкамер. Падчас вайны станцыя страціла жывы інвентар, пабудовы і абсталяванне, а таксама частку селекцыйнага матэрыялу. Часткова захавалася толькі бібліятэка. Аднавіў працу станцыі яе дырэктар В. Ластоўскі. Перад вайной, акрамя дырэктара, на станцыі працавалі 2 асістэнты і 3 практыканты. З 1923 г. дырэктар меў толькі аднаго практыканта. Справа ў тым, што калі 1915 г. на працу станцыі была асігнавана 15 008 рублёў, дык у 1922 г., у пераклiку на царскія грошы, на працу станцыі была выдаткоўвалася толькі 1 200 руб. Тым не менш з сярэ-



***Доследная станцыя ў Беняконях***

дзіны 1920-х гг. станцыя вяла неабходныя для сельскай гаспадаркі навуковыя даследванні. Дырэктар станцыі В. Ластоўскі яшчэ да Першай сусвенай вайны напісаў шэраг кніг па сельскай гаспадарцы: "Опыты с картофелем", "Опыт с рожью", "Опыты с азотистыми удобрениями", у 1920-х гг. ён выдаў "Dobor odmian zboz dla Wilenszczyzny", "Wynniki doswiadczen z odmianami ziemniakow" і інш. Працы станцыі атрымалі належнае прызнанне ў навуковым свеце[356].

Улады падтрымлівалі развіццё кааперацыі на вёсцы і ў горадзе. У тыя гады ў Лідскім павеце працавала 12 сельскагаспадарчых таварыстваў, іх дзейнасць была скіравана на дапамогу людзям, якія працавалі на зямлі[357]. Важнай формай вясковай кааперацыі была супольная перапрацоўка і збыт малака і малочных прадуктаў. Першая такая суполка на Лідчыне паўстала ў 1925 г. у Ракавічах, у 1926 г. кааперытывы па перапрацоўцы малака ўзніклі ў Тракелях і Дворышчы, у 1927 г. - у Гурнофелі, Бердаўцы, Крупаве[358].

30 жніўня 1924 г. у Лідзе адкрылася сельскагаспадарчая выстава. Выдаткі на выставу склалі 6 000 злотых. Урад даў субсідыю ў 500 зл., такую ж суму ўнеслі лідскія ўлады. Астатнія грошы паміж сабой сабралі абшарнікі Лідчыны.

У першы дзень працы выставы, з раніцы, на паседжанні ў зале Народнага банка, прафесар Познанскага ўніверсітэта, уладальнік маёнтка Больценікі Адам Жаўтоўскі (жанаты з праўнучкай Марылі Верашчакі) прачытаў даклад аб сельскай гаспадарцы[359].

Каля 13-00 у замку Гедзіміна адкрылася выстава. Дзеля яе адкрыцця з Наваградка прыехаў ваявода Уладзіслаў Рачкевіч. Ваявода ганарова распачаў працу выставы і потым сам агледзеў экспанаты і размаўляў з старшынём аргкамітэту выставы Юльянам Прыбыткам (бацька выбітнага краязнаўца 1930-х гг. Антона Прыбыткі) і сябрамі аргкамітэту. На выставе экспанавалася насенне, розныя пароды быдла, сельскагаспадарчыя машыны лідскай вытворчасці. У павільёне, які арганізавалі княжна Марыя Чацвярцінская, Уладзіслава Лясковіч, Гелена Брахоцкая, выстаўляліся розныя вырабы народнай творчасці[360].

У сакавіку 1927 г. Міністэрства сельскай гаспадаркі арганізавала ў маёнтку Абрамоўшчына Лідскага павета радыёкурсы для дробных сельскіх гаспадароў. Сяляне слухалі па пяцілямпавым радыё лекцыі па сельскай гаспадарцы[361]. У тым жа месяцы селянін з-пад Воранава пісаў: *"... зямелька ніштаватая, меўшы яе трохі можна есьці хлеб без бяды. Шкода, што ў нашага селянства яе вельмі мала, або саўсім няма. Двароў у ваколіцы ёсьць вельмі шмат. Некаторыя з іх, асабліва тыя, што калісь належалі да даўнейшых расейскіх абшарнікаў, распарцэляваны дзяля асаднікаў з Галіцыі. ... Бяднейшае сялянства вядзець жыцьцё проста жудаснае ... . Разглядаючы паасобна грамадзянства тутэйшай ваколіцы ... найбольшы лік прыпадае на жыдоў, ёсьць двух сялян палякаў, беларусаў частка малая, але ўсе сьведамыя нацыянальна і сацыяльна, па рэлігіі большасьць каталікі"* [362].

У красавіку 1928 г. пачалася меліярацыя маёнтка Бердаўка і бліжніх вёсак. Павятовае самакіраванне планавала пачаць меліярацыю Дакудаўскіх балот і рэгуляцыю рэк Дзітва і Пеляса[363]. Пры канцы 1928 г. павятовыя ўлады вырашылі залажыць дзве суполкі, якія павінны былі пачаць меліярацыю 18 000 га зямлі. Першая суполка, "Дакудаўскія багны", павінна была пачаць рэгуляцыю рэк Нарва, Няцеча і меліярацыю Дакудаўскіх балот. Другая, "Надпушчанскія багны", павінна была займацца рэгуляцыяй ракі Дзітва і меліярацыяй прылеглых да яе балот. Агульны кошт работ двух суполак ацэньваўся ў 5 250 000 злотых, з якіх да 40% даваў дзяржаўны скарб, павятовы скарб планаваў пакрыць 30% гэтай сумы і 30% павінны былі заплаціць уласнікі забалочаных зямель. Работы разлічваліся на 12 гадоў, прычым, уласнікі забалочаных зямель павінны былі выплачваць грошы за праведзеныя работы на працягу 15 гадоў - па 4 злотыя за 1 га[364].

**5. Лідскі авіяцыйны полк**

У 1925 г. на Лідскім аэрадроме быў сфармаваны 11-ты лётны полк знішчальнікаў польскага войска. 11-м палком камандаваў палкоўнік Ежы Касоўскі. Полк быў узброены знішчальнікамі "Спад", якія мелі рухавік ў 450 к.с.

У 1926 г. у Парыжы афіцэр 11-га палка капітан Стахонь пабіў сусветны рэкорд на хуткасць набору вышыні: ён узняўся на вышыню 5 000 м за 14 хвілін[365]. У тым жа 1926 г. капітан-пілот лідскага палка Баляслаў Арлінскі зрабіў пералёт з Варшавы ў Токіа і зноў у Варшаву за 121 гадзіну, на той час гэта было рэкордам. 10 чэрвеня 1927 г. амаль усе насельніцтва горада прыйшло на аэрадром, каб вітаць пілота-чэмпіёна[366].

13 жніўня 1926 г. *"пілот І. Сянкоўскі з 11 палка авіяцыі ... зваліўся разам з аэраплянам далоў. ... Сянкоўскага падабралі мёртвым"* [367].

У чэрвені 1927 г. ад'ютант камандзіра 11-га лётнага палка паручнік Кузян узяў шлюб з дачкой лідскага абшарніка Лясковіча. Біскуп Бандурскі выканаў урачысты чын ў асабістай капліцы ў Вільні. Сярод гасцей былі ваявода Рачкевіч і лідскі стараста Здановіч[368].

Улетку 1927 г. два лідскія самалёты, выконваючы палёт каля Стоўбцаў, заблудзіліся, пераляцелі дзяржаўную мяжу і хутка аказаліся ў паветры над Мен-




***Капітан Арлінскі на Лідскім аэрадроме***

скам. Пакружыўшы над сталіцай Беларусі, лётчыкі прызямліліся на менскім аэрадроме. Адным самалётам кіраваў паручнік Янушэўскі, другім - харунжы Шурлей. Лётчыкі далі паказанні ГПУ аб тым, што яны вылецелі ў Варшаву, каб удзельнічаць у мерапрыемствах па сустрэчы прэм'ер-міністра Велікабрытаніі Чабмерлена, але з-за дажджу і буры заблудзіліся[369]. Праз некалькі дзён лётчыкі на сваіх самалётах вярнуліся на Лідскі аэрадром[370].

У траўні 1927 г. знакаміты пілот лідскага палка капітан Арлінскі разбіўся пад Лідай на сваім матацыкле. Лячылі капітана ў Варшаўскім шпіталі[371]. Але капітану не шанцавала на сушы. У верасні 1927 г., камандзір 11-га палка знішчальнікаў палкоўнік Касоўскі прыняў удзел ў авіяцыйным конкурсе ў Швейцарыі, а пасля чаго адпачываў у Францыі. З адпачынку палкоўніка на сваім аўтамабілі ў Ліду вёз пілот Лідскага палка капітан Арлінскі (пасля рэкорднага пералёту Варшава - Токіа - Варшава, лётчык атрымаў аўтамабіль у падарунак ад фірмы "Лорэн-Дзітрых", "Lerraine-Dietrich"). З-за памылкі Арлінскага аўтамабіль патрапіў у аварыю і быў разбіты: палкоўнік зламаў абедзве нагі, капітан атрымаў лёгкія пашкоджанні[372].

14 чэрвеня 1928 г. на месца 11-га палка знішчальнікаў з Кракава быў пераведзены 5-ы авіяцыйны полк[373].

У 1928-29 гг. адбылася цэлая серыя авіяцыйных аварый. Старыя самалёты са зношанымі рухавікамі пачалі рэгулярна падаць.

1 траўня 1928 г. каля 19-00 недалёка ад Дакудава разбіўся самалёт 11-га палка знішчальнікаў "Spad-61". На вышыні 2 000 метраў самалёт увайшоў у "штопар", і лётчык, ратуючы сваё жыццё, скокнуў з парашутам. Але купал парашута раскрыўся толькі каля самай зямлі, і пілот-паручнік Ціхоцкі загінуў. Ціхоцкі лічыўся адным з лепшых лётчыкаў у польскай авіяцыі - незадоўга да гібелі ён заняў другое месца на міжнародных авіяцыйных спаборніцтвах у Швейцарыі[374]. Карэспандэнт газеты "Слова", які прымаў удзел у пахаванні Ціхоцкага, паэтычна апісаў старыя Лідскія могілкі: *"Лідскія могілкі - гэта тыповы прыгожы лясок каля горада. Вялікія сосны, пахне вясной ... Дзе-ндзе бачны пачцівыя каменныя помнікі працы мясцовага майстра. Нашто чытаць надпісы? Гэты помнік ёсць сам люстэркам шляхетнага мясцовага жыцця яго ўласніка. З пэўнай павагай яго атачаюць большыя ці меншыя драўляныя крыжы, якія тонуць у зараслях буйнага спірэю (язвіну) ... . Пры самым канцы могілак знаходзяцца магілы ваенных і невядомых: "Магіла 40 невядомых закладнікаў ...", цяжка прачытаць працяг, бо гэты помнік засланілі новыя крыжы"* [375].

Пры канцы чэрвеня таго ж года, пілот-паручнік 11 палка Страеўскі на самалёце "Poter-23", ляцеў з Ліды ў Варшаву. Каля Ваўкавыска перастаў працаваць матор, і паручнік аварыйна прызямліўся. Пры пасадцы самалёт разбіўся, але пілот застаўся не паранены[376].

У сярэдзіне ліпеня, з-за няспраўнасці рухавіка, разбіўся знішчальнік "Spad" лідскага палка. Пілот-паручнік Радымінскі застаўся жывы[377].

Пры канцы ліпеня таго ж года зноў разбіўся лідскі знішчальнік, у выніку пілот Орлік і назіральнік Навіцкі былі цяжка паранены[378].

7 верасня на аэрадроме ў Маладзечна упаў самалёт маркі "Spad" Лідскага 5-га авіяцыйнага палка (гэта першае упамінанне 5-га палка ў Лідзе у віленскай прэсе). У выніку пілот Уніўскі і назіральнік Навацкі атрымалі цяжкія раненні[379].

На пачатку ліпеня 1929 г. з-за няспраўнасці рухавіка самалёт 5-га палка ўпаў у Баранавіцкім павеце[380].

6 жніўня чарговы лідскі самалёт разбіўся каля Маладзечна. Пілот-сяржант Хадзей атрымаў цяжкія пашкоджанні[381].

Пры канцы жніўня таго ж года "Кур'ер Віленскі" надрукаваў загадкавую аб'яву: *"16 жніўня ... з самалёта, які ляцеў з Вільні ў Ліду, выпала нейкая жалезная частка. Гэта частка знаходзіцца ў солтыса вёскі Вялікія Лепы, Станіслава Харужага, ... каля станцыі Беняконі"* [382]. Ці не кулямёт згубілі лідскія лётчыкі?

5 верасня 1929 г. з-за паломкі рухавіка лідскі самалёт зноў упаў, на гэты раз каля Гальшан. Пілот-паручнік Раткоўскі выйшаў з катастрофы без пашкоджанняў[383].

11 снежня 1929 г. у 9 гадзін раніцы на вышыні 2 000 м. над горадам загарэўся рухавік самалёта "Potez" 5-га авіяцыйнага палка. Праз некалькі хвілін раздаўся выбух самалёт разваліўся на часткі. Пілот-сяржант Цвіклінскі загінуў, назіральнік Дворнічак атрымаў цяжкія раны, і, як пісала прэса, *"стан яго безнадзейны"* [384].

Сустракаў Лідскі аэрадром і самалёты суседніх дзяржаў. У жніўні 1927 г. на Лідскі аэрадром, як сябры, на сваіх самалётах прылятаці лётчыкі з Фінляндыі[385]. 13 верасня 1929 г. ў Ліду з сяброўскім візітам прыляцела 3 самалёты латышскіх паветраных сілаў. Кіраваў латышскімі самалётамі камундуючы авіяцыі Латвіі палкоўнік Бушко[386].

Так сама газеты паведамлялі пра розныя цікавыя здарэнні, напрыклад пры канцы 1925 г. жаўнеры 11 лётнага палка ў Лідзе знайшлі на аэрадроме бярлогу




***Провады латышскіх лётчыкаў у Лідзе***
1 - *палкоўнік Пётр Абакановіч;*
x - *палкоўнік Бушко.*

ваўчыцы з 6 ваўчанятамі. Жаўнеры пакінулі сябе ваўчанят і вырашылі выгадаваць іх[387]. Падчас падзей у Варшаве, "Народная Справа" паведамляла: *"Надоечы ў Лідзе адбываліся муштры 11 палка лятуноў. Калі колькінадцаць аэраплянаў знаходзіліся ў паветры, з аднаго з іх пасыпаўся град лістовак. У лістоўках была надрукавана гарачая адозва проці таго, што на чале міністэрства вайсковых спраў стаяць людзі, якія прымалі ўчасьце ў маёвым замаху. Устанавіць, з якога аэрапляну яны былі кінуты, ня ўдалося"* [388].

**6. Злачынствы**

Пра злычынныя паводзіны паліцыянтаў Тарноўскага пастарунка пісала газета "Слова" ў ліпені 1924 г. Пасля таго, як невядомыя адабралі ровар у арандатара фальварка Шамятоўшчына Эліка Куплінаскага, старшы пастарункавы паліцыянт Каравайчык загадаў сваім падначаленым - паліцыянтам Цэймлеру і Лукашэвічу знайсці злачынца. Тыя прыехалі ў вёску Палуты і схапілі першага, па іх меркаванні, падазронага хлопца Сянкевіча, завезлі яго ў лес каля маёнтка Тарнова і пачалі лупіць кіямі. Пад час збіцця Сянкевіч памёр, а паліцыянты ўцяклі з месца злачынства. Газета паведаміла, што гэтую справу пачаў разглядаць віленскі пракурор[389].

У студзені 1925 г. ваенна-палявы суд у Лідзе прыгаварыў да расстрэлу Эдварда Гервяланца, які дапамог Уладзіславу і Паўлу Маркевічам прадаць воз сена на Лідскім рынку, а потым, калі яны разам ад'ехалі ад горада, засек бацьку з сынам сякерай і забраў грошы[390].

Напачатку 1921 г. сяляне вёскі Клябанцы Міхневіч і Вільчэвіч забілі польскага жаўнера, які спрабаваў рэквізаваць у іх коней. У 1925 г., пасля судовага разгляду справы, сяляне атрымалі па 6 гадоў зняволення[391].

У жніўні таго ж года на сваім полі, стрэлам з лесу з карабіна, быў забіты ўласнік маёнтка Малінаўшчына Фелікс Вільк[392].

Тым не менш пры канцы 1925 г. лідскі стараста Здановіч канстатаваў значнае змяншэнне злычыннасці на Лідчыне, асабліва ўзброеных бандыцкіх нападаў і выпадкаў канакрадства[393].

Як і ўсюды, на Лідчыне квітнела махлярства. Але пэўна такіх махляроў, як Баляслаў Правальскі, яшчэ не было. Да 1922 г. ён служыў індэндантам у Гародні і быў звольнены з войска. Перабраўшыся ў наш горад, Правальскі сам сябе прызначыў шэфам Крымінальна-следчага аддзела вайсковай экспазітуры ў Лідзе. Пры гэтым махляр прадставіў усім зацікаўленым бакам неабходныя, але падробленыя дакументы. Афера цягнулася з жніўня 1922 г. па травень 1924 г. На пачатку ён атрымліваў заробак чыноўніка VIII-га класа, але хутка сам сябе падвысіў да VII-га класа, як пісала газета: *"стаў чыноўнікам VII-га класа, што ў Лідзе рабіла з яго сапраўднага дыгнітарыя (саноўніка) і сваімі прэрагатывамі ён карыстаўся ўсюды, дзе толькі мог"* [394]. Акрамя высокага заробку, Правальскі стала атрымліваў камандзіровачныя грошы. А сваім сябрам Гэнзалю і Нядведчуку ён выдаў даведкі аб тым, што яны з'яўляюцца яго інфарматарамі - гэта моцна дапамагала ім ў жыцці. Купцам Штайману і Цукерману выдаў даведкі сталых пастаўшчыкоў ягонай установы, гэта вызваляла купцоў ад непатрэбных турбот з уладамі. *"Цяжка нават пераказаць усё, што нарабіў Правальскі пад час свайго знаходжання "на пасадзе", але ў красавіку 1924 г. жандармерыя пачала падазраваць яго і 5 траўня паручнік жандармерыі Голас арыштаваў махляра",* - пісала газета "Слова". У выніку, суд прысудзіў авантурніка да 2,5 гадоў пазбаўлення волі[395].

У студзені 1926 г. Антон Карпук заявіў у паліцыю на махляроў, якія прадалі яму два падробленыя залатыя крыжыкі[396]. Толькі ў верасні 1928 г. у Лідзе была арыштавана вядомая віленская махлярка Ганна Шарэйка. У нашым горадзе яна ўдавала з сябе за багатую бежанку з Саветаў і распрадавала сваю калекцыю дыяментаў і залатых упрыгожванняў. Усе рэчы "ахвяры" былі фальшывыя[397]. У кастрычніку таго ж года паліцыя ў Вільні арыштавала нейкага Вацлава Даўнаровіча з сябрамі. Гэты аферыст зафальшывіў дакумент-даверанасць і як быццам па даручэнні ўладальніка маёнтка Малое Мажэйкава Брахоцкага атрымаў у банку 4 000 злотых чэкамі, але абмяняць чэкі на грошы не паспеў[398].

У "Кур'ер Віленскі" нехта з лідзян напісаў пра "арыгінальны" крадзёж на вуліцах нашага горада амаль што дакументальны нарыс:

***"Кемлівы злодзей.***

*Стаіць сабе пан Т., наглядчык Лідскай турмы, на рагу вуліцы Садовай і назірае Сусвет Божы. 9-я гадзіна вечара, але рух яшчэ значны - людзі збіраюцца ў тэатр, трупа Качароўскага прыехала з гастролямі. Раптам летуценні Т. спыняе нейкі гучны голас:*

*- Выбачайце, калі ласка, не маглі б вы сказаць якая зараз гадзіна?*

*- Гадзіна? Вядома, дзевятая.*

*- Не можа быць! - кажа незнаёмец.*

*Тады, каб даказаць, што ён кажа праўду, Т. вынімае стары, памятны з часоў, калі Т. служыў яшчэ ў рускай артылерыі гадзіннік, і падае яго незнаёмцу. Той толькі гэтага і чакае. Хваць за гадзіннік і "ў ногі".*

*- Ай-ёй, мой гадзіннік, хапайце злодзея, хапайце яго, мой дарагі гадзіннік - крычыць Т. і бяжыць за злодзеем. Але той ужо скіраваў у бакавую вулічку і знік.*

*Бядуе зараз Т. і ходзіць да ночы па лідскіх вулічках, марыць злапаць злодзея. Але дарма ..."* [399].

Кралі нават у касцёлах.

13 лістапада 1928 г. у Фарным касцёле нейкі Эдвард Цаба скраў скарбонку з ахвяраваннямі і воты ў адным з алтароў. Паліцыя арыштавала раней судзімага злодзея і вярнула касцёлу скрадзеныя воты і грошы[400]. 6 жніўня 1929 г. скраў скарбонку ў касцёле Піяраў, але быў схоплены вартаўніком і перададзены ў паліцыю жыхар Ліды Канстанцін Сянкевіч[401].

На пачатку 1926 г. быў зняты з пасады і адда-

дзены пад суд камендант (начальнік) паліцыі Лідскага павета Ян Кулага, *"кім быў і што рабіў - пакажа судовае разбіральніцтва. Не быў гэта надта разумны чалавек, але меў "арганізацыйны" талент, гэта бачна хоць бы з таго, што ён прыказваў паліцыянтам купляць за свае грошы кнігі кшталту "365 абедаў" Л. Цверцякевіч ці "Сяброўскія звычаі" Сарнецкага"* [402]. Суд над былым камендантам паліцыі адбыўся толькі ў студзені 1927 г.: *"... з 1924 г. надкамісар Кулага быў камендантам паліцыі павета. Амаль ад пачатку яго камісарства падначаленыя пачалі шаптацца пра злоўжыванні Кулагі. Нарэшце ім зацікавіўся лідскі судовы следчы Скіндар і пачаў праводзіць энергічнае следства. ... Пад час суду стараста Здановіч і інспектар вучэбнай акругі Альшанскі далі найлепшыя характарыстыкі былому камісару. ... У выніку, "жыхар горада Брэста Ян Кулага, узрост 41 год", прысуджаны да 6 месяцаў турмы"* [403].

Аднак хутка паўторны суд прызнаў Кулагу не вінаватым. Газета "Кур'ер Віленскі" пісала, што калі надкамісар Кулага добраахвотна прыехаў "на Крэсы" ў Ліду *"паліцэйскія справы тут былі вартыя жалю. П'янства, ухіленне ад службы, бандытызм і г.д. меліся тут паўсюдна. Надкамісар Кулага, праводзячы санацыю падначаленых, у першыя ж 6 месяцаў звольніў каля 100 паліцыянтаў. Аднак сярод звольненых знайшоўся чалавек з нячыстымі рукамі, раней выяўлены Кулагам як хабарнік і шантажыст ... Рэва ... . Рэва пачаў ужываць супраць надкамісара старыя расійскія метады - правакацыі і фальшывыя абвінавачванні. Ён знаходзіць для судовага следчага Скіндара 30! фальшывых сведкаў супраць свайго былога начальніка"* [404]. Як бачым, усё ж мясцовая лідская "мафія" абламала свае зубы аб прыезджага надкамісара паліцыі.

Рэгулярна арыштоўваліся ў Лідзе і шпегі.

У студзені 1926 г. паліцыя затрымала ў Лідзе чалавека, які меў пасведчанне Звязу стралкоў Літвы (шавуліцаў)[405] - літоўскай ваенізаванай арганізацыі, закліканай навучаць цывільнае насельніцтва самаабароне і весці партызанскую вайну.

Улетку 1926 г. у Лідзе былі арыштаваныя ўдзельнік выведніцкай сеткі, якія працавалі на *"Саветаў і Немцаў, дастаючы важныя дакументы аб польскай авіяцыі. Галоўнай ў бандзе шпегаў была жыхарка Ліды, нейкая Чярнякова, якая з'яўлялася каханкай сяржанта 11-га лётнага палка Казіміра Казакінскага. Ад Казакінкага яна атрымлівала тайныя паперы. Сярод шпегаў таксама чарцёжнік гэтага ж палка, нейкі Павел Забелаў. Банду выкрылі пасля таго, як памежнай вартай быў арыштаваны нейкі Ян Вазняк ... калі той нелегальна пераходзіў мяжу з Саветамі. У Вазняка знойдзены матэрыялы з Лідскага аэрадрома. У дзень, калі арыштоўваліся сябры гэтай шпегаўскай арганізацыі, некалькі яе удзельнікаў збеглі з горада"*[406].

У лістападзе 1928 г. паведамлена пра арышт у цягніку Маладзечна-Варшава выведніка Міхала Апяцёнка, які дзейнічаў на тэрыторыі Лідскага павета. У яго знайшлі рэвальвер, 80 долараў і розныя занатоўкі, сярод якіх быў запісаны пароль будучай сустрэчы: "Прадайце мядзведзя" і адказ: "Маю толькі ліса". Апяцёнак уцёк ад прызыву ў польскае войска ў СССР, там прайшоў шпегаўскую падрыхтоўку і быў вернуты ў Заходнюю Беларусь пад агентурнай мянушкай "Жук". Пасля арышту Апяцёнка, былі арыштаваны ўсе шпегі ягонай агентурнай сеткі[407].

Адбываліся забойствы, апішу толькі некаторыя з іх.

У лістападзе 1927 г. патруль, у якім знаходзіліся чацвёра ўзброеных жаўнераў, аб нечым паспрачаўся з жыхаром Ліды, нейкім Кобусем. У выніку - адзін з жаўнераў багнетам забіў лідзяніна[408].

У красавіку 1928 г. браканьеры стрэлам з карабіна забілі лесніка Здановіча[409]. У траўні таго ж года на Лідчыне былі арыштаваны 13 сяброў хеўры канакрадаў, якая працяглы час гастралявала у Лідскім, Гарадзенскім і Слонімскім паветах. Пад час арышту, канакрады доўга адстрэльваліся з рэвальвераў і карабінаў ад паліцыі[410].

Адбываліся і ўсялякія злачынствы, якія мелі яўны збачэнскі прысмак.

У ліпені 1929 г. за кіламетр ад горада, каля чыгункі на Маладзечна, людзі знайшлі тулава жанчыны, хутка, недалёка ад жудаснай знаходкі, паліцыя адкапала рукі, ногі і галаву ахвяры. Следства выявіла, што забітая - Марыя Літкоўская, была каханкай вартаўніка Лідскай рэзні Ўрублеўскага, які забіў і распілаваў яе на часткі. Нагодай забойства сталася тое, што жанчына зацяжарыла[411].

Сенсацыю ў горадзе выклікаў арышт нейкага П., які з 1923 г. *"меў пэўныя стасункі з сваёй 23-х гадовай дачкой Сабінай. Рознымі пагрозамі ён змушаў сваю дачку выконваць ягоныя прымхі і забараняў ёй каму-небудзь расказваць пра іх адносіны. Таямніца выйшла на паверхню, калі ахвяра бацькі-збачэнца нарадзіла дзіцё. ... П. быў арыштаваны, а справа перададзена ў суд"* [412].

Праз месяц увагу грамадскасці прыцягнула падобная, але яшчэ больш нялюдская гісторыя. Ота Ян Вільчынскі, жыхар вёскі Перапечыца ў 1929 г. меў 65 гадоў. Пачынаючы з 1909 г. ягоная каханка, Эмілія Пятроўская (у 1929 г. ужо не жыла), нарадзіла ад яго 4 дачкі, якія жылі разам з бацькам. У 1921 г. ён пабоямі і пагрозамі прымусіў старэйшую дачку Багумілу, якой было тады 13 гадоў, да сужыцця. У выніку гэтай звыродлівай сувязі нарадзіўся хлопчык. Праз некалькі гадоў збачэнец пайшоў на штурм наступнай дачкі Феліцыі, якой было тады 15 гадоў і дабіўся свайго. Нарэшце, 17 жніўня 1929 г. ён, падараваўшы наступнай дачцы, 15-ці гадовай Сабіне, новую бялізну, паспрабаваў яе згвалціць. Сабіна здолела вырвацца ад звыродлівага бацькі і ўцячы ў горад. У Лідзе Сабіна знайшла сабе працу і кватэру, але калі прыйшла ў "родную" хату, каб забраць асабістыя рэчы, дык была зноў збіта бацькам і ледзь уцякла. Пасля гэтага дзяўчына ўсё расказала дзяжурнаму Лідскага камісарыята паліцыі. Акруговы суд прыгаварыў Вільчынскага да 12 гадоў турмы[413].

### 7. Прыгоды Сяргея Пясецкага на Лідчыне

Пасля заканчэння Савецка-польскай вайны Сяргей Пясецкі, жаўнер Літоўска-беларускай дывізіі, абаронца Варшавы 1920 года, застаўся без пэўнага занятку. Пра гэты час ён расказвае ў аповесці "Жыццё раззброенага чалавека", беларускі пераклад якой нядаўна з'явіўся ў часопісе "Архе" № 5-2014. Частка дзеянняў гэтай аповесці адбываецца на пачатку 1920-х у Лідзе. Тут галоўны герой, пераапрануўшыся ў беднага беларускага селяніна, размаўляе па-беларуску і прадае лідскім яўрэям фальшывы вексель.

Каб неяк выжыць, Сяргей Пясецкі пачаў супрацоўніцтва з 2-м аддзелам Генера-ьнага штаба польскага войска - выведкай. Добрае веданне моў, фізічная падрыхтоўка і набыты сярод менскіх зладзеяў спрыт зрабілі з яго выдатнага выведніка.

Аднак выведка плаціла не шмат, таму Пясецкі заняўся кантрабандай. Ён неаднаразова пераходзіў савецка-польскую мяжу, бывала што і па 30 разоў на месяц. Потым расказваў, што толькі за лета 1925-га прайшоў пешшу больш за 8 000 кіламетраў. За ўцёкі з засады, якую арганізавала ГПУ, і ўратаванне калегі атрымаў чын падпаручніка.

Пясецкі падтрымліваў кантакты і з савецкімі камандзірамі, прывучаючы іх да какаіну. Потым пачаў займацца кантрабандай наркотыкаў. Сам стаў наркаманам, учыніў шэраг скандалаў з кіраўніцтвам і ў лютым 1926-га з выведкі быў звольнены. Але ёсць версія, што нібыта ён, Сяргей Пясецкі, выявіў сувязі паміж Саветамі і некаторымі ўплывовымі польскімі асобамі.

Такім чынам, Пясецкі зноў стаў чалавекам без працы. У пошуках уратавання спрабаваў нават уступіць у Замежны легіён. Пра гэты час расказваюць ягоныя творы "Пяты этап" і "Каханак Вялікай Мядзведзіцы", якія існуюць у перакладзе на беларускую. Цяжка забыць той эпізод у "Пятым этапе", дзе добра п'яны, узброены галоўны герой робіць напад на адзін з лідскіх рэстаранаў, а потым са стрэламі ідзе па раёне Слабодка да каханкі.

Шукаючы працу, Пясецкі з рэвальверам і рэштай какаіну наведаў Берасце, Львоў і Варшаву, а з сярэдзіны траўня пасяліўся ў Лідзе ў свайго сябра Яна Шэўчыка па адрасе: Слабодка, 62 і жыў тут да 6 ліпеня. Будучы пісьменнік заўважыў, што сябру цяжка яго ўтрымоўваць, падзякаваў за гасціннасць і пайшоў пешкі ў Гародню да стрыечнага брата Антона Пясецкага. Пабыў у Гародні (брат жыў па вуліцы Славянскай, 11) толькі адзін дзень, бо і Антону Пясецкаму не было з чаго жыць. Былы выведнік і кантрабандыст зноў пайшоў у Ліду і падчас гэтай хады дзесьці каля ракі Дзітва зразумеў, што няма іншага выйсця, як пачаць рабаваць[414].

Першы рабунак Пясецкага адбыўся 27 ліпеня 1926 года. Кур'ер Віленскі пры канцы ліпеня пісаў: *"Бандыт Пясецкі блукаў на працягу некалькіх дзён у навакольных лясах* (каля Ліды. -*Л.Л.*). *У дзень рабунку ў 8 гадзін раніцы ён заўважыў фурманку і напаў на двух яўрэяў, якія ехалі ў ёй: Юдаля Барышанскага і Мардуха Дражніна. Пагражаючы пісталетам, цалкам абрабаваў абодвух... забраў у іх 1054 злотыя, залаты гадзіннік і іншыя рэчы"* [415].



***Станіслаў Ігнацы Віткевіч. Партрэт Сяргея Пясецкага, (1939)***

Сам рабаўнік падчас допыту ў лідскай паліцыі гэтак расказваў пра свае дзеянні: *"У вызначаны дзень на шашы ў кірунку Мажэйкава каля ракі Дзітвы ў 7-8 гадзін раніцы спаткаў фурманку, якая ехала ў бок Ліды і перавозіла 4 пустыя скрыні ад гарэлкі. На фурманцы ехалі купец і фурман. Бачачы, што сітуацыя добрая для мяне, што яны вязуць грошы за гарэлку, і няма нікога навакол, я наблізіўся да фурманкі і крыкнуў па-беларуску: "Рукі ўгору!". На мой заклік фурман спыніў коней і падняў рукі, тое самае зрабіў і купец. Я сказаў, каб аддалі грошы, якія яны ўзялі за гарэлку, пасля чаго фурман адразу добраахвотна аддаў мне 1054 злотыя, з якіх я па яго просьбе даў яму некалькі злотых на авёс для каня і на жыццё. У другога яўрэя я забраў чорны адкрыты гадзіннік у цэлулоіднай похве - больш грошай не патрабаваў, бо купцы сказалі, што больш грошаў не маюць. На момант рабунку трымаў у руцэ рэвальвер (наган), якія меў з часоў працы ў дэфензіве, але не страляў. Атрымаўшы грошы, загадаў ім ехаць у Ліду і нікому нічога не казаць пра рабунак, а сам пайшоў у кірунку станцыі Нёман, каб ехаць чыгункай у Вільню, але спазніўся на цягнік і пешшу пайшоў у вёску Руда, што за Нёманам. Тут пагаліўся і пастрыгся, купіў харчоў і шкарпэткі, адрамантаваў камашы і пешшу пайшоў да Наваградка. У Наваградку купіў сабе гумовы плашч, чорную кашулю, бялізну, партфель, партабак, сцізорык і іншыя дробныя рэчы, на ўсё гэта, разам з фурманкамі і выдаткамі ў Лідзе - каля 400 злотых. У турме Наваградка пакінуў для вязняў 40 злотых. Увечары вузкакалейкай выехаў да Наваельні, а адтуль чыгункай да Вільні"* [416].

Потым было ўстаноўлена, што рабаўнік быў пад уздзеяннем какаіну і меў патрэбу ў грашах для пакрыцця закладу за свайго сябра Антона Невяровіча. Аднак, калі ён атрымаў грошы, Невяровіч ужо быў на волі.

У Вільні Пясецкі спачатку пасяліўся ў гатэлі "Папа" на вуліцы Завальнай. Але пасля сустрэчы з сябрам - кур'ерам "двуйкі" (польскай выведкі) Антонам Невяровічам, каб зэканоміць грошы, перасяліўся на кватэру ў Новай Вілейцы, якую той здымаў у "ракавой жанчыны" Веры Булгакоўскай. Дарэчы, для знаёмых Вера выдавала сябе за жонку спевака Фёдара Шаля-

піна.

Праз некалькі дзён Пясецкі з Невяровічам планавалі пайсці ў Савецкую Расію, каб прынесці адтуль алмазы, якія, хаваючы ад бальшавікоў, закапаў у Маскве іх знаёмым Генрык Краўзэ. Гэтыя алмазы каштавалі каля 6 000 долараў - вельмі вялікія грошы па тым часе, і Пясецкі з Невяровічам павінны былі пасля вяртання з Расіі атрымаць палову гэтай сумы. Для экспедыцыі патрэбны грошы, але Пясецкі не толькі не захаваў нарабаваныя, але дзякуючы "ракавой жанчыне" - палюбоўніцы Невяровіча, патраціў амаль усё, што меў. Сябры вырашылі пайсці на другі рабунак, і Булгакоўская ведала іх планы.

Прэса пісала: *"Як паведамляюць, 22 жніўня адбыўся дзёрзкі напад на вузкакалейны цягнік, які курсуе паміж Васілішкамі і Скрыбаўцамі. Бандыты пасля затрымання поезда са зброяй у руках пагражалі жыццю ўсіх пасажыраў і адабралі ў іх упрыгожванні, вялікую колькасць долараў і некалькі дзясяткаў тысяч злотых. Потым, неапазнаныя, збеглі ў невядомым кірунку"* [417]. У тым жа нумары паведамлялася пра затрыманне "савецкіх бандытаў" Пясецкага і Невяровіча, якія *"бралі ўдзел у нападзе на вузкакалейны цягнік. У арыштаваных знойдзена шмат упрыгожванняў з цягніка... Гэтых людзей паслала менскае ГПУ з мэтай выведкі. Бандыты мелі зброю"* [418].

Праз нумар тая ж газета "Слова" паведаміла, што *"арыштаваны бандыты Пясецкі і Невяровіч, якія некалькі дзён таму зрабілі напад на вузкакалейны поезд пад Лідай. Яны прызналі сваю віну і выдалі супольнікаў. Між іншым, сазналіся, што ў злачынных акцыях ім дапамагаў шараговец паліцыі Віленска-Троцкага павета Левандоўскі, праз пасрэдніцтва якога хаваліся зброя і скрадзеныя рэчы, атрымлівалася неабходная амуніцыя. Расследаванне праводзіць адмыслова дэлегаваны следчы Міхалевіч"* [419]. І потым: *"у сувязі з нападам на цягнік... арыштавана жыхарка Нова-Вілейкі нейкая Булгакоўская, падазраваная ў супрацоўніцтве з бандытамі... Сёння мы даведаліся, што Булгакоўская вызвалена ад арышту з-за недахопу ўлік"* [420].

Беларуская газета "Народная справа" таксама паведамляла: *"22 жніўня на вузкакалейцы паміж Васілішкамі і Гжыбаўцамі пад Лідай банда разбойнікаў напала на поезд і абрабавала ўсіх ехаўшых у ім. Паліцыя заарыштавала ў Нова-Вялейцы двух учаснікаў нападу - Пясецкага і Невяровіча, якія прызналіся да віны і выкрылі сваіх хаўруснікаў. Аказваецца, што і тут не абышлося без учасця паліцыі: бандытам дапамагаў у іх "працы" паліцыянт Левандоўскі, пастарункавы паліцыі Віленска-Троцкага павета, які хаваў рабаваныя рэчы і аружжа, якое сам жа дастаўляў"* [421].

Газета назвала Скрыбаўцы на польскі манер Гжыбаўцамі. Насамрэч, у тыя часы да Васілішак вяла вузкакалейка Мураванка - Скрыбаўцы - Вялікае Мажэйкава - Васілішкі. А самі Скрыбаўцы з'яўляюцца чыгуначнай станцыяй на лініі Ліда - Масты.

Звернемся да аповеду пра рабунак Антона Невяровіча, які быў занатаваны ў пратаколах Лідскай паліцыі:

*"З Вільні выехалі ў Ліду* (разам з Пясецкім. - *Л.Л.*) *вечаровым цягнікам 7 жніўня. З Ліды выйшлі па гасцінцы ў кірунку Белагруды. Пераначавалі ў лесе і на другі дзень пайшлі па Гарадзенскай шашы ў бок ракі Дзітва. У тых ваколіцах жылі тыдзень ці болей, вывучаючы мясцовасць. У лесе жывіліся харчамі, купленымі ў Вільні, а калі яны скончыліся, варылі бульбу з грыбамі ў посудзе - рондалі і кубку, якія ў падарожжа дала нам Булгакоўская. Калі ж мы стаміліся сядзець на адным месцы і пачалі галадаць, дык перайшлі на раку Лебяду каля мястэчка Васілішкі, дзе мы і спыняліся на некалькі дзён, сілкуючыся грыбамі і бульбай, час ад часу лавілі рыбу ў рацэ Лебяда, тут нас бачылі мясцовыя людзі. Падчас нашага знаходжання ў ваколіцах Васілішак, у адзін з дзён мы выйшлі да лоркі* [422]*, якая ехала ў бок станцыі Скрыбаўцы, але тады ў нас яшчэ не хапіла смеласці зрабіць напад, да таго ж у лорцы ехала шмат хрысціян, а мы вырашылі рабаваць толькі яўрэяў і таму вярнуліся ў лес. Праз два дні, 22 жніўня 1926 г. мы вырашылі зрабіць напад на тую ж лорку, таму прыйшлі да дарогі, па якой ехала лорка з пасажырамі ў Скрыбаўцы, і селі пад елкай. Калі мы ўбачылі лорку, дык пайшлі ўздоўж трасы, каб яна нас нагнала. Калі мы заўважылі, што едзе шмат яўрэяў, дык падбеглі да яе, і тады Пясецкі жэстам паказаў мне, што будзем рабаваць. Пясецкі першы скочыў у лорку, загадаў затрымаць каня і па-руску сказаў пасажырам падняць рукі ўгору, я спачатку стаяў каля лоркі з рэвальверам у руках, таксама як і Пясецкі... Падчас рабунку да Пясецкага з крыўдай звярнулася яўрэйка: чаму ён аддаў раней адабраныя грошы чыноўніку і каталічцы, за гэта Пясецкі забраў у яе завушніцы... Пасля рабунку... сказалі, каб абрабаваныя гадзіну не рухаліся з месца... а самі пабеглі да лесу... выйшлі на шашу* (Ліда-Гародня. - *Л. Л.*) *паміж 33-м і 34-м кіламетрам і пайшлі ў бок Ліды. На раніцу падышлі да Ліды на паўтара км, паснедалі адабранымі прадуктамі, падлічылі нарабаваныя грошы і агледзелі рэчы - у нас было 15 долараў, 140 зл., 4 пярсцёнкі, пара завушніц і лёгкае паліто, якое Пясецкі забраў, бо думаў, што нам будзе холадна. Потым я ў шапцы чыгуначніка пайшоў у Ліду, дзе купіў брытву, бутэльку гарэлкі, харчы... і ў дамоўленым месцы сустрэўся з Пясецкім, мы разам пад'елі, пасля чаго Пясецкі пагаліўся... Вечарам мы пайшлі ў Ліду. У чыгуначнай касе я купіў білеты да Вільні, мы селі ў цягнік і без ніякіх перашкод даехалі да Вільні"* [423].

**Сяргей Пясецкі:** *"Закончыўшы, загадаў Невяровічу рэзаць пастронкі ад вупражы каня... Пасля рабавання адышоў ад лоркі на 20 крокаў і падумаў, што падае дождж, холадна, і яшчэ некалькі дзён мы будзем у дарозе, таму я вярнуўся і ў аднаго маладога яўрэя адабраў карычневае паліто, якое і зараз на мне. Калі я адбіраў паліто, дык рэвальвер нават не даставаў, паліто аддалі мне добраахвотна"* [424].

Чаму Пясецкі з Вільні адмыслова едзе пад Ліду, каб здзейсніць рабунак? Мяркую, справа ў тым, што ён як жаўнер Літоўска-Беларускай дывізіі ў 1919 і 1920 гадах ваяваў у гэтых лясах пад Лідай і добра ведаў мясцовасць.

Пасля рабунку Пясецкі і Невяровіч са здабычай

вярнуліся ў Новую Вілейку да Булгакоўскай, але гаспадыні дома не было. Ключ ад кватэры знаходзіўся ва ўмоўленым месцы, а ў кватэры на стале сябры знайшлі запіску, з якой даведаліся, што гаспадыня паехала ў маёнтак пад Яшунамі да маці. Невяровіч адразу паехаў да каханкі, а Пясецкі, агледзеўшыся, не знайшоў сваю валізку і, галоўнае, сваю гітару. Застаўшыся ў кватэры адзін, пакрыўджаны Сяргей Пясецкі зрабіўператрус і знайшоў дзённік Булгакоўскай, з якога шмат даведаўся пра "ракавую жанчыну": у нейкага афіцэра яна скрала 200 злотых, потым разам з сяброўкай Янінай Ізмаіловіч скралі дарагі гарнітур. У 1925 годзе з нейкім таксістам абрабавала афіцэра на 800 злотых і г. д.

Невяровіч не знайшоў сваю каханку і, вярнуўшыся ў Вільню, адразу выпадкова сустрэў яе на вуліцы Кальварыйскай. Вера растлумачыла сваю адсутнасць тым, што бавіла час з афіцэрамі-лётчыкамі ў Лідзе. Пасля сур'ёзнай размовы з жанчынай гітара Пясецкага знайшлася ў некага з сяброў Булгакоўскай. Вяртанне гітары святкавалі дзвюма бутэлькамі гарэлкі.

Сябры ўжо зусім сабраліся ў Расію па алмазы і таму арганізавалі развітальны вечар. Прыехала сяброўка Веры Яніна Ізмаіловіч. Вечар пачаўся дрэнна. Трохі выпіўшы, дзяўчаты пасварыліся з-за нейкага, раней скрадзенага залатога гадзінніка. Да таго ж Невяровіч сказаў сваёй каханцы, што пасля Масквы ён да яе не вернецца. Па пакоі пачалі лётаць шклянкі, кніжкі, бутэлькі... [425]. Гулянка закончылася даносам на сяброў у паліцыю.

Віленскі даследчык Славамір Андрушкевіч знайшоў у Цэнтральным Архіве Літоўскай Рэспублікі справу супраць Сяргея Пясецкага і Антона Невяровіча. З яе бачна, што: *"У ноч з 28 на 29 жніўня 1926 г. жыхарка горада Вільня Яна Ізмаіловіч заявіла ў Камісарыят паліцыі ў Новай Вілейцы, што ў яе сяброўкі Веры Булгакоўскай знаходзяцца дзве падазроныя асобы, якія маюць агнястрэльную зброю"* [426].

Справа трапіла ў Віленскі ваенна-палявы суд, пасяджэнне якога адбылося 3 верасня ў Лідзе. Газета "Віленскі Дзённік" пісала ў рэпартажы з паседжання гэтага суда: *"Пад уплывам непрыемнай інфармацыі аб нападзе, чакаў убачыць на лаве падсудных асобаў з выдатнымі характарыстыкамі па тэорыі Ламброза, але гэтыя знясіленыя маладыя людзі маюць слабавольныя твары людзей, здольных як да злых, так і да добрых учынкаў. Пясецкі вучыўся дзесьці ў гімназіі, нібыта скончыў больш за 7 класаў, у арміі атрымаў чын падхарунжага. Невяровіч скончыў 4 класы. Маладзейшы за Пясецкага, бачна, што ён цалкам пад уплывам Пясецкага. Вядуць сябе вельмі павольна, адносіны Пясецкага да Невяровіча рыцарскія: цвердзіў, што менавіта ён быў душой ўсіх дзеянняў. ... Абвінавачаныя карыстаюцца... спагадай прысутных у зале суда, сярод якіх шмат неўрастэнічных, кароткастрыжаных жанчын.*

*Усё прызнаюць і сцвярджаюць, што да нападу іх штурхнула адсутнасць працы пасля звальнення з войска. Пасля здабычы грошай праз рабунак меліся з'ехаць за мяжу, каб пачаць там новае жыццё. У абвінаваўчым акце Пясецкі і Невяровіч абвінавачваліся ў тым, што ўзброеныя рэвальверамі напалі на пасажырскі вагон лініі Скрыбаўцы-Васілішкі, і стэрарызаваўшы пасажыраў, адабралі грошы і каштоўнасці, пасля чаго схаваліся ў лесе. На судовых паседжаннях стала вядома, што ў беднага чыноўніка, беднай жанчыны і фурмана, якія ехалі ў вагоне, з літасці грошай не адабралі. Акрамя таго, абвінаваўчы акт сцвярджае пра напад і рабаванне Пясецкім яўрэяў з Астрыны. Паколькі абвінавачаныя прызналі сваю віну, таму сведкі на слуханнях не прынеслі нічога новага. Пасля выступу пракурора, які запатрабаваў смяротнага пакарання для абодвух падсудных, выступалі абаронцы: Хагемаер і Місан. З-за ўжывання абвінавачанымі какаіну і іх псіха-нервовага стану абарона прасіла перанесці справу ў звычайны суд. Суд пайшоў на нараду, пасля чаго прыгаварыў Пясецкага і Невяровіча да смяротнага пакарання. Абодва вердыкт суда прынялі спакойна"* [427].

У іншых рэгіёнах Польшчы рабаўнікі атрымалі б 4 ці 5 год турмы. Але Заходняя Беларусь знаходзілася ў ваенным стане, і таму ўзброеныя рабаўнікі аўтаматычна атрымалі вышэйшую меру пакарання. Абарона падала хадайніцтва пра памілаванне. Абодвух злачынцаў уратавалі былыя заслугі Пясецкага. Ужо на наступны дзень прыйшоў станоўчы адказ, польская выведка знайшла магчымасць падтрымаць свайго былога службоўца, і прэзідэнт Польшчы змяніў смяротнае пакаранне на 15 год турмы. Антон Невяровіч памёр праз год пасля арышту ва ўзросце 28 гадоў. Яму прысвечана аповесць Пясецкага "Пяты этап" [428].

Уся гісторыя рабавання Пясецкага і Невяровіча ад самага пачатку абрасла "чорнай легендай". Усе жыццё суправаджала Пясецкага чутка пра забойства пад Лідай. Напрыклад, знакаміты польскі пісьменнік Юзаф Мацкевіч у сваім знакамітым рамане "Не трэба голасна гаварыць" (Nie trzeba glosno mowic) пісаў: *"З ім* (Пясецкім) *было так: сышоў з рэек пад час вайны, служачы ў выведцы ... У пачатку дваццатых з Васілішак у Ліду ехаў гандляр лесам, яўрэй, з напханым партфелем. Рабавалі бандай. Забілі купца і забралі грошы. Смяротнае пакаранне, памілаванне, турма"*[429].

Цікава, што праз месяц пасля нападу Пясецкага на вагон вузкакалейкі невядомыя бандыты, узброеныя карабінамі, рэвальверамі і гранатамі каля станцыі Скрыбаўцы напалі на хуткі цягнік Варшава - Ліда. Але цягнік спыніўся якраз на тым месцы, дзе на рэйках знаходзіўся ўзмоцнены нарад паліцыі, і бандыты ўцяклі ў лес[430]. Як бачым, Пясецкі ў той час не быў самым вялікім злодзеем у Заходняй Беларусі.

Спачатку Пясецкі адбываў кару ў Лідскай турме, якая ў канцы 1925 года была адрамантавана, і пра якую прэса пісала, што яна *"можа задаволіць нават суровую інспекцыю"*[431]. Але інспекцыю Пясецкага турма не прайшла. Асуджаны выведнік і перамытнік, убачыўшы дрэннае стаўленне да вязняў, крадзёж і махлярства кіраўніцтва турмы, узняў бунт, пасля задушэння якога, як лідар і падбухторшчык, тры месяцы насіў кайданкі. За далейшыя падбухторванні да бунту ён быў пераведзены з Лідскай турмы ў турму горада Равіч,

што ў заходняй Польшчы. Але і тут ён пачаў рыхтаваць бунт вязняў і таму быў пераведзены ў турму горада Караноў. Далей як лідар паўстання ў Каранове трапіў у турму з самым строгім у Польшчы на той час рэжымам - у Свенты Крыж. З усяго свайго турэмнага тэрміну Пясецкі два гады адбыў у ізалятары. На яго асабістай справе было напісана: "Небяспечны". Тым не менш, у турме Пясецкі пачаў чытаць Біблію і "Літаратурныя Ведамасці" (“Wiadomosci Literackie”), толькі тут ён вывучыў літаратурную польскую мову, пачаў пісаць свае кнігі і праз гэта атрымаў агульную вядомасць[432].

Дарэчы, хутка кіраўніцтва Лідскай турмы адказала за свае цёмныя справы. Пры канцы сакавіка 1928 года былі арыштаваны намеснік начальніка турмы Мар'ян Бартноўскі і чыноўнік турэмнай адміністрацыі Альфонс Зямніцкі. Начальнік турмы Баляслаў Марэк застрэліўся ў хаце[433]. Газеты пісалі, што *"следства сабрала вялікі матэрыял пра злоўжыванні Бартноўскага. Дапытваліся ўсе супрацоўнікі вязніцы... Арыштаваныя Бартноўскі і Зямніцкі пераведзены ў віленскія Лукішкі"* [434].

Публікацыя першага ж рамана выклікала пасіяховую кампанію за датэрміновае вызваленне хворага на сухоты пісьменніка. У 1937 годзе перад ім адчынілася турэмная брама - указам Прэзідэнта Польшчы пасля 11 год турмы знакаміты пісьменнік быў памілаваны. Пасля прэзідэнцкай амністыі газета "Слова" пісала: *"У верасні 1926 г. Пясецкі быў асуджаны на шматгадовае пакаранне за два ўзброеныя рабункі. Суд прыгаварыў яго да смяротнага пакарання за два ўзброеныя напады. Адзін з рабункаў адбыўся дзесьці на дарозе паміж Васілішкамі і Лідай. Ахвярай нападу стала група яўрэяў і сялян, якія ехалі коннай лоркай да Ліды* (тут памылка, яны маглі ехаць лоркай да Скрыбаўцаў, а ўжо адтуль сапраўднай чыгункай да Ліды. - *Л.Л.*). *Суд прыгаварыў рабаўніка да смерці, але кара смерці Прэзідэнтам была заменена на 15 год турмы... На следстве Пясецкі ва ўсім добраахвотна сазнаўся і сам распавёў пра яшчэ адзін папярэдні напад. І ў першым, і ў другім выпадку здабычай была дробная біжутэрыя і невялікія грошы. Матывы рабункаў? Пясецкі доўга заставаўся без працы, трэба было з чагосьці жыць, неяк утрымліваць сябе... А пачалося ўсё з заявы ў паліцыю ў Новай Вілейцы нейкай кабеты пра тое, што яе сяброўка хавае Пясецкага. Меў ён тады 27 гадоў"* [435]. Насамрэч, газета "забыла" сваю ж ранейшую інфармацыю пра нарабаваныя дзясяткі тысяч злотых, што зразумела, бо трэба было растлумачыць грамадству Прэзідэнцкую амністыю вядомага пісьменніка.

У 1938 годзе Сяргей Пясецкі быў намінаваны на літаратурную прэмію Нобеля.

Наш горад тым часам яшчэ стане месцам дзеяння добрай трэці ягонай неверагодна трапнай сатырычнай кнігі "Запіскі афіцэра Чырвонай арміі".

* * *

Сяргей Пясецкі атрымаў сусветную вядомасць. Шмат якія творы пісьменніка ўжо перакладзены на беларускую ці расейскую мову, і зараз у Беларусі яго папулярнасць значна вырасла. *(У лідскай кнігарні сёння ляжаць тры раманы С. Пясецкага па-расейску.)* Увогуле, тэма Сяргея Пясецкага - добры рэсурс для развіцця турызму: горад Ліда стала фігуруе ў ягоных кнігах бо тут прайшла частка яго крымінальных прыгодаў. Захавалася і Лідская турма, дзе ён пачынаў адбываць пакаранне. Цяпер у гэтым будынку месціцца друкарня. А за некалькіх дзясятках метраў на поўдзень ад могілак пры вуліцы Гражыны (цяпер праспект Пераможцаў) у 1920-я знаходзілася неасвечанае месца, дзе хавалі самазабойцаў і асуджаных Лідскім ваеннапалявым судом да расстрэлу. Смертнікаў вялі пад канвоем праз увесь горад і расстрэльвалі ў пясчаным кар'еры каля могілак, потым хавалі на неасвечанай пляцоўцы. Трохі пазней асуджаных пачалі караць смерцю на тэрыторыі турмы. І калі б Пясецкага не памілаваў польскі прэзідэнт, нікому не вядомы выведнік і кантрабандыст, які б так і не паспеў стаць пісьменнікам, знайшоў бы свой апошні спачын менавіта тут - каля старых Лідскіх могілак.

**8. Пажары**

У 2 гадзіны ночы з 15 на 16 ліпеня 1926 г. з невядомай прычыны выбухнуў пажар у мястэчку Ліпнішкі. Згарэлі 54 жылыя пабудовы і 7 гумнаў[436].

У нядзелю, 29 верасня 1926 г. пачаўся пажар у мястэчку Воранава. Мясцовая пажарная дружына не здолела ліквідаваць пажар, страты ад пажару дасягнулі 100 000 злотых[437].

10 лістапада 1926 г. жыхар вёскі Бенявічы Браніслаў Петэрсон падпаліў дамы жыхароў вёскі Стокі. У выніку згарэла два дамы, загінуў адзін дарослы і двое дзяцей. Ваенна-палявы суд у Лідзе прыгаварыў злычынцу да расстрэлу[438].

У траўні 1927 г. у мястэчку Ражанка згарэлі 22 жылыя дамы, 20 гаспадарчых пабудоў, 2 бажніцы, пажар тушылі 4 гадзіны[439].

25 сакавіка 1928 г. зноў здарыўся вялікі пажар у мястэчку Воранава, згарэла 16 жылых дамоў і 6 крамаў, 27 сямей страцілі жытло. Агульныя страты дасягалі 300 000 злотых[440]. Потым, улетку 1928 г. на Лідчыне была выяўлена банда падпальшчыкаў. На працягу кароткага часу на Лідчыне былі падпалена каля 20 вёсак і мястэчкі Воранава, Эйшышкі і Радунь. Падчас, калі жыхары вёсак ці мястэчак тушылі пажар і ратаваліся, здараліся крадзяжы іх маёмасці. Гэта наводзіла на думку, што пажары з'яўляліся чынам нейкай добра арганізаванай банды, якая наўмысна падпальвала вёскі ці мястэчкі, каб падчас сумяціцы рабаваць пагарэльцаў. *"Пасля доўгіх разыскаў удалося раскрыць гэтую банду, на чале якой стаяў нейкі Ляўковіч, таварышы якога ўжо па выраку даразнага суду расстрэляны, а ён свабодна гуляў на волі. Але ён таксама быў арыштаваны разам з бліжэйшымі супрацоўнікамі Ёсалям Крупскім і Лейбай Дваржынскім. Пасля арышту гэтай кумпаніі воранаўскі рабін атрымаў ад невядомай арганізацыі "Жалезная рука" некалькі лістоў з*

*пагрозамі, што, калі ён не адмовіцца ад пададзеных паказаньняў ..., дык м. Воранава будзе спалена, а яго жыхары вымардаваны. Усе жыхары м. Воранава былі ў паніцы. Але яны заспакоіліся, калі паліцыя ўяўніла, што гэтыя лісты пісалі кроўныя арыштаваных. ... Да гэтай пары арыштаваны і пасаджаны ў Лідскай турме бандыты-падпалячы: Зыгмунт Бацэвіч і Адольф Тыцынаў з Эйшышак, Міхал Бальбо з Пушман, Жылінскі з Цемель, Людвік Шыманоўскі з Бялундзяў і ўласнік 2 фальваркаў ў Беняконскай гміне Адольф Сухоцкі"* [441].

Кансерватыўная газета "Слова" правакацыйна шукала сувязь *"паміж падпаламі на Лідчыне, якая ставіць рэкорд ва ўсёй Польшчы ... і ўзмацненнем Грамады. ... Змучаныя жыхары адпачылі толькі пасля ліквідацыі Грамады ..."* [442]. На што газета Беларускай сялянскай партыі заўважала: *"над ... зьявай трэба задумацца, яна ня ўзнікла прыпадкова і ня з прычыны галечы..., бо А. Сухоцкі навет пан. Прычына яе характару псыхолёгічнага, яна ляжыць у вагульным грэблівым адношанні да ўсяго беларускага народу. Калі можна цэламу народу не даваць школы, калі можна калечыць у чужой школе душу гэтага народу, можна дабівацца нацыянальнай сьмерці гэтага народу, дык - просты вывад - можна й іншыя нягодныя рэчы рабіць з гэтым ... народам"* [443].

Тым не менш, ужо пасля арышту падпальшчыкаў, 12 верасня 1928 г. у маёнтку Ўпехаўшчына ў абшарніка Марачэўскага згарэлі стайня, гумно са збожжам і абора, у якой знаходзілася 28 галоў заводнага быдла. Страты - 100 000 злотых. А 13 верасня ў маёнтку Раманаўцы Лябёдскай гміны (уладальнік сенатар Ваньковіч) загарэла гумно са збожжам і паравая малатарня. Страты - 150 000 злотых. Паліцыя лічыла, што ў абодвух выпадках адбыўся падпал маёмасці, прычым Раманаўцы сенатара Ваньковіча раней ужо падпальваліся ў 1927 г.[444].

У красавіку 1928 г. з-за ўцечкі газу на гуце "Нёман" выбухнуў пажар, але яго хутка патушылі рабочыя гуты[445]. Улетку таго ж года ў вёсцы Старая Спуша Дэмбраўскай гміны згарэла 121 пабудова, страты склалі палову мільёна злотых[446].

На пачатку чэрвеня таго ж года вялікі пажар у вёсцы Панямонцы знішчыў 33 жылыя дамы з гаспадарчымі пабудовамі. Страты склалі 200 000 злотых[447]. Праз два тыдні вёска зноў загарэлася. На гэты раз згарэла 26 дамоў і 42 гаспадарчыя пабудовы - ад вёскі практычна нічога не засталося, паўторныя страты склалі 500 000 злотых[448]. Для дапамогі панямонскім сялянам быў створаны адмысловы гмінны камітэт[449].

У Лідзе, 18 ліпеня 1928 г. каля 3-й гадзіны ночы, загарэліся дамы каля рынку, пажар пачаўся з вуліцы Завальнай. Гарадская добраахвотная пажарная варта не змагла патушыць пажар. Пачалася паніка. На дапамогу прыехалі чыгуначныя пажарныя і жаўнеры 11 авіяцыйнага палка. Сумеснымі намаганнямі пажар патушылі толькі да паўдня 19 ліпеня. Згарэла 9 дамоў, сярод якіх некалькі двухпавярхowых камяніц[450]. Давід Левін, уладальнік дома № 11 па вул. Завальнай, ад якога пачаўся пажар, быў арыштаваны[451]. Пад час пажару ў Якаба Шмуйловіча (Школьная, 29) зладзеі скралі скрыню з вопраткай, 2 залатыя гадзіннікі і 5000 злотых. У Эльяша Ілютовіча (Завальная, 15) скралі два футры і адзенне[452].

Пры канцы ліпеня 1928 г. падчас буры ад маланкі загарэлася капліца ў вёсцы Мохавічы: *"Агонь у адну хвіліну ахапіў капліцу з чатырох бакоў. Мясцовыя людзі, як маглі, ратавалі святыню, але капліца згарэла ўшчэнт"* [453]. Замест згарэўшай, у Мохавічах у 1930-х гг. была пабудавана новая каплічка ў закапанскім стылі.

Уначы з 30 на 31 траўня 1929 г. у вёсцы Нагародавічы здарыўся вялікі пажар. Сяляне самі тушылі пажар, бо добраахвотныя пажарная дружыны з Беліцы і маёнтка Жухаўшчына не прыехалі. Згарэла 17 гумён, 10 хат, 3 свірны і інш.[454]

Улетку 1929 г. у Лідзе згарэў галоўны будынак фабрыкі мыла Ківаловіча па вуліцы Пяскі[455].

**9. Здарэнні**

Прэса часта пісала пра самазабойствы, напрыклад, улетку 1928 г. чыноўнік, які працаваў у Касе Хворых (Сацзабяспячэнне) Казімір Любарскі стрэлам з рэвальвера забіў сваю жонку Юлію і потым паспрабаваў застрэліцца сам, але куля толькі прабіла яму левую шчаку[456]. Самазабойцы часта выбіралі сабе для апошніх рахункаў з жыццём лідскія каталіцкія парафіяльныя могілкі. Так, у сакавіку 1929 г. на могілках у беспрытомным стане была знойдзена Яўгенія Скеміш. Выпадковыя людзі цудам уратавалі дзяўчыну і адвезлі ў шпіталь[457].

У жніўні 1926 г. у вёсцы Агароднікі з-за спрэчкі за сушню, якая стаяла на мяжы зямлі абшарніка і ўладальніка гуты Нёман Столе была выклікана паліцыя. Столе лічыў, што сушня належыць яму, а сялянская грамада Агароднікаў лічыла яе сваёй. На агульным сходзе вёскі, які склікалі паліцыянты, узняўся скандал, і падобна на тое, што сяляне даказалі свае правы[458].

У аўторак 14 чэрвеня 1927 г. у вёсцы Зачэпічы Беліцкай гміны, каля 4-х гадзін вечара выпаў град, *"ды такі сільны, якога ня помніць найстарэйшыя людзі ў вёсцы. Велічыня паадзінкавых градзін была ў паўтара курыных яйца. Ува многіх хатах павыбіваны вокны. Куры, якія не ўсьпелі схавацца, былі пазабіваны на месцы. Скаціна не магла трываць на полі і, як магла, уцякала дамоў, уся пакрытая гузамі ... . Надворкі пакрыліся густым пластом лёду ... вуліца перарабілася ў раку. Град трымаў каля 20 мінут. Жыта паламана і скручана, ярына зьбіта і павываючвана з карэньнямі.*

*Град захапіў паласу ў вёрст дзесяць шырыні і як чутно, вёрст 100 даўжынёю, прыблізна ўздоўж Нёмана з боку Мастоў на ўсход, на шчасьце на палавіну лесам, які так сама пакрышыла ... .*

*Навакола вёскі Зачэпічы, як чутно, панішчаны пасевы ў вёсках: Страла, Краглі, Нагародавічы, Гезгалы, Каршакакі, Вусьце і Сарапіне. Найбольш спустошаньні аказаліся ў Нагародавічах, дзе ўсё поле пераробленa ў гладкі ток.*

*Вёскі апанаваў смутак. Леташні год у гэтай*

*мясцовасьці быў недарод. ... . Мясцовыя дзеячы звярочваюцца да ўсяго беларускага грамадзянства аб дапамозе ..."* [459].

4 чэрвеня 1928 г. па ўсёй Заходняй Беларусі прайшоў моцны ўраган, які прынёс *"страшэнныя страты, а навет поўнае жабрацтва многім нашым сялянам, а іншым і сьмерць. Ураган ... зьмятаў з дарогі фурманкі ... ламаў і крушыў усё ... . У Лідскім павеце ... ураган прайшоў над мясцовасьцямі: Ганчары, Ельня, Шайбакі, Геранёны, Чэхаўцы, Гердзеўцы, Сялец і інш. У гэтых мясцовасьцях ураган павырываў амаль ня ўсе стрэхі, быў прычынай многіх пажараў ... . На дарозе Ліда-Навагрудак бура вывернула больш за 100 старых дрэваў. ... Страты ад урагану* (на Лідчыне - *Л.Л.*) *дасягаюць 3-х мільёнаў злотых, з чаго мільён прыходзіцца на будынкі, а рэшта на збожжа"* [460].

На пачатку кастрычніка 1928 г. моцная бура прайшла па тэрыторыі Дакудаўскай, Ганчарскай і Беліцкай гмінаў. У вёсках Вялічкі, Ельня і Парачаны ад маланак здарыліся пажары. Маланкай забіла Ўладзіслава і Пятра Жамойцісаў[461].

З-за невялікай колькасці механічнага транспарту, аварыі з ім ў 1920-х гг. былі не часта. Але аўтамабілі і матацыклы ўжо пачалі забіваць і калечыць людзей.

2 ліпеня 1926 г. за чатыры кіламетры ад Ліды ў бок Вільні разбіўся аўтамабіль памежнай аховы, паручнік Вяндлінскі загінуў, а кіроўца аўтамабіля атрымаў цяжкія раненні[462].

Пры канцы ліпеня 1929 г. на Лідскім тракце ў матацыкла лопнула шына, і ён перакуліўся. У выніку загінуў адзін з пасажыраў - капітан 77 палка Валіца, які сядзеў у люльцы. Кіраваў матацыклам яго ўладальнік, чыноўнік з Ліды Грабоўскі, ён і пасажырка Знайдоўская былі паранены[463].

31 жніўня 1929 г. па вуліцы Вызвалення аўтобус № 79111 Ліда-Іўе, якім кіраваў Уладзіслаў Шымчак на хуткасці ў 40 км/г урэзаўся ў дрэва. Аўтобус быў перапоўнены пасажырамі, але абышлося - толькі адна асоба страціла зуб[464].

Газета "Сялянская Ніва" паведамляла, што 29 чэрвеня 1927 г. *"мае адбыцца зацьменне Сонца, якое можна будзе бачыць у Эўропе, а ў тым ліку і ў нас. Месяц закрые Сонца з правага боку налева ..."* [465].

18 траўня 1929 г. а 21-й гадзіне жыхары нашага горада, шпацыруючыя па вуліцах, убачылі вялікі метэор, які меў форму шара і з вялікай хуткасцю, пакідаючы за сабой яркі і прыгожы след, рухаўся па небе з поўдня на паўночны захад. *"Была гэта рэдкая, але надта прыгожая прыродная з'ява"* [466].

У нумары ад 6 лістапада 1929 г. газета "Навагрудскае жыццё" паведаміла пра "чорны чацвер" на Уол-стрыт[467]. Пачаўся Сусветны эканамічны крызіс, які на 5 гадоў спыніў развіццё эканомікі, увёў сотні мільёнаў людзей у галечу і спрыяў антыдэмакратычным трансфармацыям у шэрагу краінаў. Наш край пачаў выходзіць з гэтага крызісу толькі пасля 1935 г.

Але пра гэта ў наступным артыкуле.

# 10. ДАДАТКІ

## Спіс пахаваных на Лідчыне

**польскіх жаўнераў, загінуўшых у 1915-20 гг.**[468]

## Лідскі павет[469]

**CMENTARZ W M-KU BIELICA POW. LIDZKIEGO**

1) Kapitan W. P. Hejbowicz Leon.

**CMENTARZ W M-KU SZCZUCZYN POW. SZCZUCZYNSKI**

1) Szer. 12 - 24 p. leg. Graszecki Kazimierz, 2) szer. 2 bryg. leg. Bednarczyk Wladyslaw, 3) szer. 2 bryg. leg. Wilczynski Jozef, 4) ulan 4 p. ul, Zaluski Stanislaw, 5) ulan 9 pap. Lange Oswald, 6) ulan 9 pap. Krydel Stefan, 7) ulan 9 pap. Lubich Juljan, 8) ulan 9 pap. Wojciechowski Edward.

**CMENTARZ W MAJ. PAPIERNIA POW. LIDZKIEGO**

1) Wilenski p. strz. Zambrzycki Stanislaw, 2) Szer. 1 Dyw. L. B. Formusiewicz Jan.

**CMENTARZ W M-KU EJSZYSZKI POW. LIDZKIEGO**

1) Leg. 1 p. leg Belecki Jan.

**CMENTARZ W M-KU ZYRMUNY POW. LIDZKIEGO**

1) Borowski Jozef, 2) 1 pac. Baranek Jozef, 3) saper 1 B. Sap. Owczarek Pawel, 4) szer. 1 Dyw. leg. Wezlowski Marcin, 5) szer. 5 pp. leg, Brysko Boleslaw, 6) kapr. 6 pp leg. Wysokinski Franciszek, 7) kapr. 1 pp. leg. Niewiadomski Michal, 8) kapr. 3 B. 1 DAC. Szerszen Kazimierz, 9) szer. 41 pp. Rodziewicz Piotr, 10) st. szer. 1 pp. Fijewski Wraclaw, 11) szer. 1 pp. leg Paprota Wiktor, 12) szer. 1 pp. leg. Malinowski Waclaw, 13) Kowalska Zofja.

**CMENTARZ WE WSI OSOWO POW. LIDZKIEGO**

1) Klepac Jozef, 2) kapr. 7 p. ul. Basak Jan, 3) ulan 7 p. ul. Juszkiewicz Konstanty, 4) ulan 7 p. ul. Sysa Konstanty, 5) ulan 7 p. ul. Wosniewski Zygmunt.

**CMENTARZ W M-KU WERENOW - POW. LIDZKIEGO**

1) St. szer. 1 Dyw. leg. Ferenc Stanislaw, 2) Szer 1 Dyw. leg, Nowak Jan.

**CMENTARZ W M-KU LIPNISZKI - POW. LIDZKIEGO**

1) Sniezko Kazimierz, 2) Gajewski Jozef, 3) Korycki Wiktor, 4) szeregowiec 34 pp. Salata Stanislaw, 5) sezr. 22 pp. Plaszczynski Piotr, 6) szer 22 pp. Stroniowski Stanislaw, 7) szer. 22 pp. Kaminski Boleslaw, 8) st. szer. 22 pp. Kasprzak Stanislaw - zamordowani przez bolszewikow w r. - 1920.

1929.

[307] Сяланская Ніва № 38, 18 лістапада 1926.

[308] Slowo № 249 (962), 31 pazdziernika 1925.

[309] Slowo № 204 (1214), 2 wrzesnia 1926.

[310] Kurjer Wilenski № 206 (1253), 9 wrzesnia 1928.

[311] Kurjer Wilenski № 214 (1261), 19 wrzesnia 1928.

[312] Kurjer Wilenski № 153 (1200), 10 lipca 1928.

[313] Kurjer Wilenski № 236 (1581), 16 pazdziernika 1929.

[314] Slowo № 263 (1273), 11 listopada 1926.

[315] Slowo № 264 (1274), 12 listopada 1926.

[316] Slowo № 39 (1049), 18 lutego 1926.

[317] Наша Праўда № 19, 8 чэрвеня 1927.

[318] Slowo № 188 (1799), 18 sierpnia 1928.

[319] Slowo № 265 (1876), 17 listopada 1928.

[320] Slowo № 3 (1913), 4 stycznia 1929.

[321] Kurjer Wilenski № 213 (1558), 18 wrzesnia 1929.

[322] Slowo № 14 (1024), 19 stycznia 1926.

[323] Slowo № 45 (1055), 25 lutego 1926.

[324] Slowo № 161 (1171), 14 lipca 1926.

[325] Zycie Nowogrodzkie № 73 (105), 21 kwietnia 1928.

[326] Zycie Nowogrodzkie № 297 (331), 2 grudnia 1928.

[327] Slowo № 9 (2219), 12 stycznia 1930.

[328] Zycie Nowogrodzkie № 77 (111), 25 kwietnia 1928.

[329] Zycie Nowogrodzkie № 158 (192), 15 lipca 1928.

[330] Slowo № 13 (1923), 16 stycznia 1929.

[331] Kurjer Wilenski № 232 (1577), 10 pazdziernika 1929.

[332] Kurjer Wilenski № 251 (1596), 1 listopada 1929.

[333] Zycie Nowogrodzkie № 292 (326), 27 listopada 1928.

[334] Kurjer Wilenski № 152 (1199), 8 lipca 1928.

[335] Zycie Nowogrodzkie № 74 (431), 16 marca 1929.

[336] Kurjer Wilenski № 63(1408), 16 marca 1929.

[337] Oswiata № 11-1932. S. 21.

[338] Kurjer Wilenski № 353 (3957), 24 grudnia 1936.

[339] Kurjer Wilenski № 116 (4078), 29 kwietnia 1937.

[340] Kurjer Wilenski № 197 (1542), 30 sierpnia 1929.

[341] Kurjer Wilenski № 200 (1545), 3 wrzesnia 1929.

[342] Zycie Nowogrodzkie № 282 (639), 15 pazdziernika 1929.

[343] Інфармацыя прадстаўлена аўтару намеснікам начальніка гарадскога ўчастка Лідскіх электрычных сетак Ярмашуком М.Н.

[344] Kurjer Wilenski № 150 (1792), 3 lipca 1930.

[345] Oswiata № 11-1932. S. 21.

[346] Zycie Nowogrodzkie № 167 (881), 22 lipca 1930.

[347] Zycie Nowogrodzkie № 140 (854), 19 czerwca 1930.

[348] Slowo № 211 (3018), 29 sierpnia 1932.

[349] Slowo № 182 (3319), 6 lipca 1933.

[350] Zycie Nowogrodzkie № 212 (246), 7 wrzesnia 1928.

[351] Kurjer Wilenski № 197 (1542), 30 sierpnia 1929.

[352] Zycie Nowogrodzkie № 264 (621), 25 wrzesnia 1929.

[353] Slowo № 7 (1017), 10 stycznia 1926.

[354] Наша Справа № 5 (14), 15 студзеня 1927.

[355] Сялянская Праўда № 3, 5 кастрычніка 1924.

[356] Slowo № 236 (949), 16 pazdziernika 1925.

[357] Slowo № 289 (1002), 18 grudnia 1925.

[358] Kurjer Wilenski № 152 (901), 8 lipca 1927.

[359] Slowo № 199 (616), 2 wrzesnia 1924.

[360] Там жа.

[361] Slowo № 59 (1372), 13 marca 1927.

[362] Сялянская Ніва № 25 (76), 16 сакавіка 1927.

[363] Slowo № 91 (1702), 21 kwietnia 1928.

[364] Slowo № 281 (1892), 6 grudnia 1928.

[365] Slowo № 143 (1153), 22 czerwca 1926.

[366] Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 107.

[367] Народная Справа № 8, 18 жніўня 1926.

[368] Slowo № 141 (1454), 24 czerwca 1927.

[369] Slowo № 149 (1462), 5 lipca1927.

[370] Slowo № 154 (1467), 10 lipca 1927.

[371] Kurjer Wilenski № 115 (864), 21 maja 1927.

[372] Slowo № 205 (1518), 23 wrzesnia 1927.

[373] Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 107.

[374] Slowo № 101 (1712), 3 maja 1928.

[375] Slowo № 108 (1719), 12 maja 1928.

[376] Kurjer Wilenski № 139 (1186), 22 czerwca 1928.

[377] Slowo № 161 (1771), 18 lipca 1928.

[378] Slowo № 167 (1778), 25 lipca 1928.

[379] Kurjer Wilenski № 204 (1251), 7 wrzesnia 1928.

[380] Kurjer Wilenski № 150 (1495), 5 lipca 1929.

[381] Kurjer Wilenski № 178 (1523), 7 sierpnia 1929.

[382] Kurjer Wilenski № 192 (1537), 24 sierpnia 1929.

[383] Slowo № 205 (2115), 7 wrzesnia 1929.

[384] Slowo № 287 (2197), 12 grudnia 1929.

[385] Slowo № 190 (1503), 23 serpnia 1927.

[386] Kurjer Wilenski № 209 (1554), 13 wrzesnia 1929.

[387] Slowo № 278 (991), 4 grudnia 1925.

[388] Народная Справа №7, 11 жніўня 1926.

[389] Slowo № 162 (579), 19 lipca 1924.

[390] Slowo № 23 (737), 29 stycznia 1925.

[391] Slowo № 141 (855), 25 czerwca 1925.

[392] Slowo № 188 (1198), 14 sierpnia 1926.

[393] Slowo № 225 (939), 3 pazdziernika 1925.

[394] Slowo № 282 (1292), 3 grudnia1926.

[395] Там жа.

[396] Slowo № 10 (1020), 14 stycznia 1926.

[397] Kurjer Wilenski № 221 (1268), 27 wrzesnia 1928

[398] Slowo № 232 (1843), 9 pazdziernika 1928.

[399] Kurjer Wilenski № 196 (1541), 29 sierpnia 1929.

[400] Slowo № 262 (1873), 14 listopada 1928.

[401] Slowo № 184 (2094), 13 sierpnia 1929.

[402] Slowo № 45 (1055), 25 lutego 1926.

[403] Kurjer Wilenski № 20 (769), 26 stycznia 1927.

[404] Kurjer Wilenski № 146 (895), 1 lipca 1927.

[405] Slowo № 35 (1045), 13 lutego 1926.
[406] Slowo № 188 (1198), 14 sierpnia 1926.
[407] Slowo № 261 (1872), 13 listopada 1928.
[408] Kurjer Wilenski № 252 (1001), 4 listopada 1927.
[409] Slowo № 88 (1699), 18 kwietnia 1928.
[410] Slowo № 111 (1722), 16 maja 1928.
[411] Kurjer Wilenski № 154 (1499), 10 lipca 1929.
[412] Kurjer Wilenski № 174 (1519), 2 sierpnia 1929.
[413] Kurjer Wilenski № 209 (1554), 13 wrzesnia 1929.
[414] Alwida A. Bajor, Sergiusz Piasecki - wywiadowca, przemytnik, bandyta, pisarz... // Magazyn Wilenski. № 8- 2004. C. 36.
[415] http://niezalezna.pl/50815-bandyta-ktory-sie-stoczyl-do-poziomu-literata-niesamowita-historia-sergiusza-piaseckiego
[416] Skorobocki Eugeniusz. Sprawa Sergiusza Piaseckiego w Komendzie Policji Panstwowej powiatu Lidzkiego // Magazyn Polski. № 3(32) - 2004. C. 57-58.
[417] Slowo № 202 (1222), 31 sierpnia 1926.
[418] Там жа.
[419] Slowo № 204 (1214), 2 wrzesnia 1926.
[420] Slowo № 207 (1217), 5 wrzesnia 1926.
[421] Народная справа № 14, 4 верасня 1926.
[422] Лорка - так зваўся вузкакаляёвы вагон, які цягнуў конь.
[423] Skorobocki Eugeniusz. Sprawa Sergiusza Piaseckiego w Komendzie Policji Panstwowej powiatu Lidzkiego // Magazyn Polski. №3 (32) - 2004. C. 55.
[424] Там сама. C. 59.
[425] Alwida A. Bajor, Sergiusz Piasecki - wywiadowca, przemytnik, bandyta, pisarz... // Magazyn Wilenski. № 5- 2004. C. 37.
[426] Andruszkiewicz Slawomir. Sergiusza Piaseckiego droga do "Wiezy Babel". Nasz Czas http://www.pogon.lt/NCz_int/Literat18.html
[427] Dziennik Wilenski № 227, 7 wrzesnia 1926.
[428] Гл: Сяргей Пясецкі. Пяты этап. Раман. Пераклад з польскай Язэпа Янушкевіча // Полымя № 4- 2010. C. 91.
[429] Alwida A. Bajor, Sergiusz Piasecki - wywiadowca, przemytnik, bandyta, pisarz... // Magazyn Wilenski. № 5- 2004. C. 39.
[430] Slowo № 224 (1234), 25 wrzesnia 1926.
[431] Slowo № 45 (1055), 25 lutego 1926.
[432] Polechonski K. Zywot czlowieka uzbrojonego. Warszawa-Wroclaw, 2000. S. 33-35.
[433] Kurjer Wilenski № 66 (1113), 22 marca 1928.
[434] Kurjer Wilenski № 69 (1116), 25 marca 1928.
[435] Slowo № 209 (4773), 31 lipca 1937.
[436] Беларуская Справа № 25, 21 ліпеня 1926.
[437] Беларускае Слова № 25, 30 верасня 1926.
[438] Slowo № 302 (1312), 30 grudnia1926.
[439] Slowo № 116 (1429), 22 maja 1927.
[440] Slowo № 71 (1682), 27 marca 1928.
[441] Грамадзянін № 16, 18 жніўня 1928.
[442] Slowo № 185 (1796), 14 sierpnia 1928.
[443] Народ № 15, 24 жніўня 1928.
[444] Slowo № 185 (1796), 14 sierpnia 1928.
[445] Slowo № 91 (1702), 21 kwietnia 1928.
[446] Сьцяг Працы № 6, 21 ліпеня 1928.
[447] Kurjer Wilenski № 130 (1177), 12 czerwca 1928.
[448] Kurjer Wilenski № 139 (1186), 22 czerwca 1928.
[449] Kurjer Wilenski № 152 (1199), 8 lipca 1928.
[450] Slowo № 162 (1773), 19 lipca 1928.
[451] Kurjer Wilenski № 161(1208), 19 lipca 1928.
[452] Zycie Nowogrodzkie № 167 (201), 24 lipca 1928.
[453] Kurjer Wilenski № 166 (1213), 25 lipca 1928.
[454] Сьвет № 2, 29 чэрвеня 1929.
[455] Kurjer Wilenski № 123 (1468), 1 czerwca 1929.
[456] Kurjer Wilenski № 122 (1169), 1 czerwca 1928.
[457] Slowo № 62 (1972), 15 marca 1929.
[458] Народная Справа № 11, 26 жніўня 1926.
[459] Наша Праўда № 23, 22 чэрвеня 1927.
[460] Сьцяг Працы № 6, 21 ліпеня 1928.
[461] Kurjer Wilenski № 227 (1274), 4 pazdziernika 1928.
[462] Slowo № 154 (1164), 6 lipca 1926.
[463] Kurjer Wilenski № 166 (1511), 24 lipca 1929.
[464] Kurjer Wilenski № 200 (1545), 3 wrzesnia 1929.
[465] Сялянская Ніва № 47 (98), 15 чэрвеня 1927.
[466] Slowo № 114 (2024), 19 maja 1929.
[467] Zycie Nowogrodzkie № 307 (664), 6 listopada 1929.
[468] Нажаль, спісаў загінуўшых жаўнераў іншых армій няма.
[469] Slowo № 85 (2593), 15 kwietnia 1931.
[470] Slowo № 118 (2626), 24 maja 1931.
[471] Беларускае Слова №5 (34), 17 лютага 1926.
[472] Беларуская зарніца 1929 - № 3 (10). C. 16.
[473] Народная Справа № 5, 7 жніўня 1926.
[474] Народная Справа № 9, 18 жніўня 1926.
[475] Беларуская Справа № 25, 21 ліпеня 1926.
[476] Беларуская Справа № 27, 25 ліпеня 1926.
[477] Беларуская Справа № 25, 21 ліпеня 1926.
[478] Беларуская Справа № 29, 31 ліпеня 1926.
[479] Народная Справа № 8, 14 жніўня 1926.
[480] Народная Справа № 12, 28 жніўня 1926.
[481] Народная Справа № 15, 8 верасня 1926.
[482] Там жа.
[483] Народная Справа № 12, 28 жніўня 1926.
[484] Народная Справа № 14, 4 верасня 1926.
[485] Народная Справа № 21, 24 верасня 1926.
[486] Там жа.
[487] Народная Справа № 31, 3 лістапада 1926.
[488] Народная Справа № 22, 7 кастрычніка 1926.
[489] Загідулін, А. М. Беларускае пытанне ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.). Гродна, 2010. C. 162.
[490] Ksiega Adresowa Handlowa. Warszawa - Bydgoszcz. 1929. S. 1031-1033.
[491] Zycie Nowogrodzkie № 148 (505), 1 czerwca 1929.
[492] "Гарадскія вароты" - слупы з польскімі арламі, пастаўленыя каля чыгуначнага пераезду да прыезду прэзідэнта Польшчы ў 1925 г. Гл. Slowo № 223 (3030) 10 wrzesnia 1932.
[493] Маецца на ўвазе стары гарадскі парк з драўляным павільёнам-скрыняй.

Ежы Путрамант

# ПАЎВЕКУ

## Вайна*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Знакі на небе**

Такія былі забавы, канфлікты ў тыя часы... . Але рэшта свету не дала нам на доўга пра сябе забыцца.

Вясна таго года была цёплая. Львоў зялёны, надзвычай прыгожы. Аднаго дня пайшоў з Евай на нейкія зялёныя пагоркі каля дому. Яна мела тры з паловай гады. Бегала, зрывала малыя, белыя, не вядомыя ў нас маргарыткі, распытвала пра ўсё, першы раз я з ёю размаўляў, першы раз трохі пачуў сябе бацькам.

На свеце грымела вайна. Зімой усе былі прыкаваны да картаў Албаніі і Грэцыі: ганебны напад Мусаліні спатыкнуўся ў Эпірскіх гарах, грэкі перайшлі ў контрнаступленне, з захапленнем мы чыталі пра Корчу, здабытую ўжо на албанскай тэрыторыі.

Потым красавік і знішчальны пярун нямецкага ўдару на Югаславію і Грэцыю. Зноў усё лопнула перад гітлераўцамі. Англійскія войскі чапляюцца за Алімп, потым рассыпаліся. Югаславія зламалася за пару дзён. Цяпер падае Грэцыя.

Травень - і дэсант на Крыце. Тут зноў яскравая параза англічан. Нават на моры не патрафілі затрымаць немцаў. Таксама ў Паўночнай Афрыцы пасля асенніх перамог Уаўэла даходзіць да новай паразы.

Што раз часцейшыя апасенні, што і на нас! Восенню былі нейкія перамовы ў Берліне. Ездзіў туды Молатаў, потым апублікавалі камюнікe, у якім усё гучала няясна, але спакойна.

А цяпер англійскае радыё раз-пораз падае ўмовы нямецкага ўдару на Савецкі Саюз. Я не слухаў радыё, паўтаралі мне тыя весткі прыяцелі на чале з Пяхам. Я пагардліва смяяўся: гэта было шаленства!

Мая ўпэўненасць грунтуецца на трох элементах. Па-першае, прымаю даслоўна паведамленні савецкага ўраду. Не маю яшчэ дастаткова практыкі, каб, як гаворыцца, “чытаць паміж радкоў”. Па-другое, здаровы розум мне падказвае: гэта канешне было б шаленствам нападаць на Савецкі Саюз, не ўправіўшыся да канца з Заходняй Еўропай. Па-трэцяе, як мне не хочацца той вайны. Прынамсі цяпер!

Канешне, жадаю Гітлеру, як найгорай. Ведаю, што да сутыкнення мусіць дайсці. Але не цяпер, праз год... Альбо калі б напаў на Англію і там уграз. Год таму назад, падчас французскай кампаніі, я трохі разлічваў на савецкі ўдар. Але французы лопнулі надта хутка...

Ідзе лета. Заканчваю аповесць. На лета згаварыўся з Ірэнай у Гагры. Падобна, што ўсё цудоўна...

Вельмі фарсаваў “Рэчаіснасць”. У суботу, 21 чэрвеня закончыў перадапошні яе раздзел. Калі законваў дзевяты ці дзясяты раздзел, перажываў пад’ём: 3/4, 5/6 працы зроблена. А цяпер нічога. Не мог нават ацаніць, ці быў добры.

Тое, што цяпер пішу, гэта не ўспаміны праз дваццаць гадоў. Гэта ўспаміны праз дваццаць дзён, запісаныя на гарача ў Уфе. Захаваліся, толькі трохі апрацаваліся, там-сям скарочаныя, там-сям расшыраныя.

Я быў цалкам вычарпаны. Не мог нават радавацца. Застаўся яшчэ толькі адзін, маленькі раздзел. Падлічыў, што закончу аповесць 24-25 чэрвеня.

Мне дакучалі зубы. Патрабавалася лячэнне.

Як звычайна пасля аповесці я пайшоў у клуб на абед. У клубе розныя дробязі. Дасьняк выехаў у адпачынак, здаецца, у Крым. Шамплінска таксама некуды выехала, здалеўшы перад тым нарабіць жартаў з “Альманахам”.

У суботу пасля паўдня меўся адбыцца ў клубе вечар у гонар Клары Цэткін. У той год угодкам удзялілі шмат увагі. Калі б я быў больш дасведчаны, зрабіў бы з гэтага пару вывадаў.

Былі і іншыя знакавыя факты. Сталін замяніў Молатава на пасадзе прэм’ера. Адбылося гэта 6 траўня 1941 года. Шмат гэта гаварыла пра сітуацыю. А яшчэ больш яскравым, маляўнічым быў дробны сам па сабе факт. З Берліна цераз Маскву вяртаўся японскі міністр замежных спраў. Ён падпісаў у Маскве пакт пра ненапад. Калі ад’язджаў, Сталін прыйшоў на вакзал, каб развітацца з ім асабіста.

Не прыпамінаю сабе з тых часоў другога падобнага выпадку! Павеяла нечым дзіўным. Пра што мусілі тады размаўляць? Да чаго дагаварыцца? На гэта імы ўсе звярнулі ўвагу.

І яшчэ адна загадка: Гес. Яго ўцёкі ў Англію былі нечым такім нязвыклым, як з’яўленне прывіда, былі сапраўды адным са знакаў на небе, які прадказваў нейкае стыхійнае бедства, навадненне ці землятрус.

Але я прачытаў чарговае паведамленне ТАСС, ужо не памятаю з якой аказіі, і махнуў рукой на ўсякія шэпты.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Wojna.”** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

**Апошні вечар**

Ужо з тыдзень англійскае радыё перадавала чуткі пра нямецкі ўдар. Былі дакладныя даты: 16 чэрвеня, 30 чэрвеня. Мы - не “лонданцы” - рушалі плячамі. Была гэта нагода для жартаў.

Прыйшоў у клуб, чытаў газеты, трохі гуляў у валейбол. У рэдакцыі “Гарызонтаў” абураліся - чаму дагэтуль няма ганарараў за 5 нумар. Аддаў перапісваць XI раздзел “Рэчаіснасці”. Віншавалі. У сераду закончу...

Пасля абеду прыйшоў Лец. Гуга Гуперт, які як раз знаходзіўся ў Львове, даў нам паштоўку. Напісалі некалькі вострых слоў Шамплінскай па справе “Альманаха”. Паклаў паштоўку на шафу. У панядзелак вышлю...

Паволі збіраліся людзі на вечар у гонар Клары Цэткін. Сенсацыя: прыйшлі тры палякі з брыгады Дамброўскага. Ім удалося выбрацца з французскага канцэнтрацыйнага лагера ў Сахары. Мы кінуліся да іх. Моцна загарэлыя хлопцы. На нашыя распытванні адказвалі паўсловамі, усміхаліся, трохі бянтэжыліся нашым запалам, трохі як бы стомленыя.

На вечары, пасля нуднага рэферату, які ніхто не слухаў, выступіў Гуперт. Яго выступ выклікаў сенсацыю. Кінуў між іншым такое прадказанне:

- Недалёкі ўжо час, калі парэшткі Клары Цэткін спачынуць назаўсёды ў чырвоным Берліне.

На калідоры сабраліся людзі, якія размаўлялі паміж сабой па-нямецку. Мы хацелі дакладнага перакладу. Слухалі тыя словы, і дваякія пачуцці клаліся ў душы: радасці і страху. Унутраны сэнс іх, зрэшты, быў адзін: мурашкі па спіне. Потым Крэчмар дэкламаваў “Оду да маладосці” і мой “Захад”. Пэўна тое спалучэнне стварыла эфект, што мой падаўся слабюткім. Пашлі з Іркай дадому.

Цёплая, летняя ноч без хмаркі. Дрэвы маюць вялікія, але яшчэ далікатныя лісткі. Вулічныя ліхтары тонуць у іх багацці. Размаўляем з Іркай пра лета, пра Крым. Ці павінна яна пакінуць працу? На наступны дзень я мусіў сядзець з Евай дома. Думаў, ці не закончыць аповесць. Зрэшты, маю час, пару дзён, глупства.

Заснуў адразу.

**Званок, фіялетавыя хмаркі**

Званок. Аўтаматычна зрываюся з ложка. Вітальня яшчэ поўная таго віску. Фіялетавае дасвецце. Дробныя, лёгкія хмаркі. Зноў званок. Доўга шукаю абутак, хапаю плашч. Званок. Што гэта? Вывазкі? Пані Ніна павінна паміраць са страху. Званок.

Адчыняю дзверы. Нікога! Толькі ў дзвярах насупраць раскудлачаная галава іншага, знянацку разбуджанага жыльца. Аказваецца, што ўнізе нехта званіў да ўсіх кватэр па-парадку. Збягаю. Унізе нехта кажа:

- Насупраць!

Паварочваецца да мяне і тлумачыць:

- Гэта нейкая “саветка”. Пытаецца, ці тут жыве нейкі госць з энкавэдэ.

Ва ўсіх дзвярах па нейкай кабеце ў негліжэ. Занепакоеныя позіркі, шэпты. Выглядваю на паўцёмную вуліцу. Да дому насупраць бяжыць цёмная постаць, дападае, пачынае біць у дзверы і амаль не чакаючы - у акно. Трэск. Лопаецца шыба. Паспешная размова па-расейску.

Што гэта? Гэтыя званкі, асабліва тая шыба? Выходжу на вуліцу. Ціхае, цёплае дасвецце. Вуліца пустая, “саветка” ўжо пабегла, і ўсё супакоілася.

Вяртаюся да сябе. Ірка нешта бурчыць пра фальшывую трывогу. І ў тую ж хвілю далёкія самалёты.

Цягнуць высока, ледзве чутно. Раптам тры моцныя стрэлы недзе тут побач. Кулямёт, недалёка. Зноў гарматы. Выглядаю цераз акно. Фіялетавыя воблачкі на небе. Разгараецца ўсход. Высокія таполі каля семінарыі ці кляштара. І ў небе чорныя, густыя хмаркі выбухаў.

Апранаемся паспешна, не ведаючы, што рабіць. Супакойваем адно аднаго: можа манеўры? Ева спіць.

Зноў збягаю на вуліцу. Спакой. Усход набрывае яснасцю. Недзе злева спяшаецца вайсковец, зашпільваючы пас. Нейкі цывільны “савет” стаіць і ўзіраецца. Пытаюся ў яго:

- Што такое?

- Не маю паняцця.

- Манёўры.

- Напэўна.

Усміхаецца са стрыманым неспакоем. Падходзіць да вайскоўца і вяртаецца з бязрадаснай усмешкай. Той “нічога не ведае”.

Ускокваю ў дом. Ірка бурчыць, каб не швэндаўся. Сам не маю на гэта ахвоты. У той атмасферы няпэўнасці каля дома падаецца мне найбяспечней. Але не магу ўседзець у той поўнай невядомасці. Да Парэцкіх недалёка.

Высокая буйная трава. Раса. Брэша сабака. Вуліца Лістапада пустая і ціхая. Нехта падмятае тратуар. Вазок з малаком едзе ў горад.

У Парэцкіх спяць. Брама замкнёная. Кідаю ў акно груды і жвір. Не адказваюць. Мне не хочацца аддаляцца ад дому. Не магу вяртацца дадому, не паразмаўляўшы з кім-небудзь са сваіх. Іду да Тудора.

Тудор замяшчае адсутнага Дзесьняка. Далёка да яго. Рэдкія мінакі. Некалькі лётчыкаў дашпільваюць гузікі, вочы напружаныя, неспакойныя. Аўтамабіль выскачыў з-за павароту і імчыць бясшумна па мокрым, гладкім бруку.

Тудор таксама спіць.

- Гэта я, Путрамант, - крычу праз дзверы.

Тудор нацягвае порткі, упускае ў пакой. Жонка яго сарамліва нацягвае коўдру, гукае да мужа, каб прыкрыў ёй бялізну. Фікус улазіць мне пад руку. Не ведаю, з чаго пачаць. Усё тут вельмі мірнае. Тудор усміхаецца.

- Што гэта было? - пытаю.

Усмешка, рух плячыма. Нейкая нямецкая правакацыя. Можа выведка нямецкіх самалётаў. Ва ўсякім разе бомбаў тут не кідалі. Гэта толькі артылерыя.

- Што рабіць? - зноў пытаю.

- Пачакаем.

- Трэба было б падумаць. А калі гэта вайна?

- Ну і што? Калі вайна, будзем на пазіцыях.

- Але, аднак старэйшыя пісьменнікі, сем’і...

Тудор маўчыць, усміхаецца, нарэшце адказвае.

- Па-першае, не вядома, ці вайна. А як ужо нават вайна, для чаго адразу думаць пра эвакуацыю? А раптам немцы будуць адступаць?

Перапрашаюся за ранні візіт. Выходжу. Ужо сонца. На Лістапада рух - матацыклы, аўтамабілі, спяшаюцца, рычаць. Лётчыкі амаль бягуць. І яшчэ заўсёдныя дворнікі падмятаюць вуліцы.

Парэцкія спяць. Іду дадому. Трава, раса, пясок, пралажу пад галінамі яблыні. І зноў усё выглядае на падманную трывогу. Супакойваю паню Ніну, Ірку.

Зараз налёт. Цяпер няма сумнення. Цяжкія ўздрыгванні зямлі ад бомб. Страляніна.

Ах, як гэта жудасна! Усведамленне, што гэта гістарычны ранак. Пачатак новай, напэўна вялікай, але, відаць, цяжкай, жудаснай эпохі.

Парэцкія нарэшце не спяць

- За нішто на свеце без харчоў адсюль не пайду!- патэтычна запэўнівае Вішнеўская, маючы дрэнныя ўспаміны з вераснёвых уцёкаў у Вільню. Парэцкі ёй падтаквае. Маюць ісці ў Вярфлёў.

Два разы спрабую пайсці ў горад, на выведы. Даходжу да трамвайнага прыпынка. Трамваяў ужо няма. Вяртаюся. Не магу адважыцца, каб адысціся ад дому. Горад рассыпаўся на дзясяткі і сотні ваколіц. Цэнтр становіцца аддаленай мэтай цэлага падарожжа.

Нарэшце рушаю наўгад. Найперш да Галіны Горскай. Сядзіць там толькі стары Горскі. Жонка і ўсе - у чэргах. Горскі знерваваны. Пакідаю яму пачак папяросаў.

У клуб нас не хочуць пускаць. Кур’ер Івась - мілы звычайна хлопец - набывае нейкую новую танальнасць, становіцца нахабным. Аблаяў яго, тады адчыняе браму.

У клубе нарэшце свае - Пастэрнак з жонкай, Гінчанка, моцна перапужаная. Потым прыходзіць Парэцкі, Гаўрылюк з жонкай. Робіцца тлумна. Хаджу па пакоях, у якіх мне так добра “жылося” гэтыя паўтара года. Зрэшты, ёсць яшчэ ў сэрцы нейкая рэштка надзеі.

**Першыя ахвяры**

Радыё перадае маршы і песні. Яшчэ разгон мірных часоў. Слухаю тое з падвойным пачуццем. Так чакаў гэтай вайны, пісаў вершыкі “расплаты” з Гітлерам, а аднак цяпер пераследуе мяне вельмі сціплая, хоць упартая надзея: а можа гэта нейкае непаразуменне. Болей, а можа там неяк дамовяцца і ўратуюць мір. Адганяю і таплю тыя настроі - з цяжкасцю.

Паведамленне: прамаўляе Молатаў. Збягаемся ўсе. Гаўрылюк з жонкай сядзіць каля радыёпрыёмніка. Пастарнак сціскае вузкія губы. У дзвярах Тарнаўскі, малады ўкраінскі пісьменнік, меў цягу да нас, цяпер усміхаецца неяк нялоўка, відаць, што не ведае, дзе мае быць, з кім пайсці далей.

Молатаў заікаецца. Не ведаю, што гэта ў яго ад даўна. Дадае гэта напружанасці, падкрэслівае нязвыкласць сітуацыі. Толькі апошнія тры фразы мовіць цвёрда і выразна: “Наша справа правая, вораг будзе разбіты, перамога будзе нашая!”

Убягае Васілеўская. Аказваецца, усе члены партыі мабілізаваны. Ванда ходзіць у вайсковай шапцы з чырвоным аколышам, з карабінам. Вельмі тым ганарыцца. Гаворыць некалькі словаў пра тое, што ўсё ідзе добра.

У клубе безначалле. Тудор прыйшоў і засеў у кабінеце Дзесьняка. Гаўрылюк пайшоў пісаць нейкую адозву. Убягае карэспандэнт адной з франтавых газет, просіць “выказванне”.

Пішам яго на калене ўсёй грамадой. Карэспандэнт талковы, энергічны і спакойны разам.

Людзі рушаць на абед, Гаўрылюк, Тудор, нехта яшчэ. У нядзелю сталоўка клуба не працуе. Ідуць недзе ў горад. Клічуць мяне. Дзякую, мушу дадому.

Ірка крычыць: чаму так доўга? Ева вельмі вясёлая.

Налёт. Збягаем на ніз, каля піўніцы. Дом пры ўсім парадзе ў два паверхі схованка вельмі сумніўная. Людзі гуртуюцца адзін каля другога. Нехта выглядвае праз дзверы, углядаецца на неба.

- Нашы! - мовіць супакойвальна.

Учора яшчэ ніколі б так не сказаў!

На вуліцах што раз больш аўтамабіляў: з рэчамі. Пад вечар іду ў горад. Грузавікі, нейкія канапы, клункі, чамаданы, бабы. Каля Сапегі сустракае мяне Курылюк, усміхаецца інстынктыўна на від знаёмага і адразу хмурыцца:

- Ёсць ужо першыя ахвяры.

- Хто?

- Тудор і Гаўрылюк!

Не магчыма! Не магу апрытомнець! Тыя два празвішчы! Найлепшыя людзі. Яшчэ гадзіну назад, яшчэ пару гадзін назад...

Якраз тыя гадзіну таму назад клікалі мяне з сабой на абед. Былі недалёка ад клуба, ішлі сярэдзінай вуліцы ўсёй групай. Налёт. Самалёт ішоў высока, але над імі. Вендэ (Ян Караль) з жонкай скочылі ў найбліжэйшую браму. Францішак Парэцкі пабег за імі. Зеленавокая Вішнеўская пагардліва крыкнула яму ўслед:

- Франак!

Я як бы бачыў тыя яе сціснутыя губы, зморшчаныя бровы!

Франак спыніўся, павярнуўся, паслушна пабег да групы, якая ішла сярэдзінай вуліцы.

Бомба ўпала ў тое месца. З групы ніхто не ўцалеў. Акрамя Тудора, Гаўрылюка і Парэцкага, усе з жонкамі, загінула таксама польская пісьменніца для дзяцей Зофія Харшэўская, выдатны чалавек і таварыш...

Цяпер саюз цалкам спаралізаваны. Тая сляпая бомба, калі б была кіраваная, не магла б выцяць больш балюча па нашым малым асяродку!

Іду ў клуб. Кондра сядзіць у пакоі Дзесьняка. Гэты ўжо нічога не зможа залатвіць. У мясцовых

уладаў ніхто яго не ведае. Пільпель, смешны маладзён, чорны, насаты Пільпель спрабуе яшчэ нешта рабіць, пакрыквае, падганяе Івася, які ўжо не хавае сваіх гітлераўскіх сімпатый.

Кондра зусім разбіты, нават даслоўна: упаў, баліць у яго калена. Праводжу яго дадому. Налёт, хаваемся ў нейкую браму.

Ноч. Не магу заснуць. Спадзяваемся на Бог ведае якія налёты. Рэфлектары лазяць над намі, абмацваюць неба. Страляніна. Два разы сцягваю Ірку з дзіцем ўніз. Бягом у піўніцу. Чаго? Ірка злая, не хоча больш уцякаць.

Зноў ранак, чысты, ясны. У горадзе рух. Ідучы ў клуб сустракаю Адольфа Рудніцкага. Прыйшоў пехатой з Янава. Задаволены пазіцыямі арміі.

- Удала мяняюць аддзелы, а гэта найважнейшае!

Не гледзячы на гэта, хоча ўцякаць. Ад учора пачуваюся, як у пастцы. Ведаю, што немцы сюды дойдуць. Пра планавую эвакуацыю нельга марыць. Таму прапанова Рудніцкага мне вельмі на руку. Дамаўляемся, “трымаем кантакт”.

У клубе разносяць чуткі пра савецкае наступленне: гаварылі, што занятыя Жэшаў і Люблін, баі пад Варшавай, выразнае глупства.

Пасля паўдня прыходзіць да нас Рудніцкі. Ева гуляе на падворку. Сонца, ужо зацвярдзелая шчаціна травы. Ляжу на зямлі, хаваю галаву ў цень. Рудніцкі:

- І ведаеш, Ежы, трэба ўжо збірацца. І не забудзь: шкарпэткі, змена бялізны і нешта з яды, фляжка... І ўжо, ведаеш..., - голас яго дрыжыць.

Я спакайнейшы, не ведаю чаму, можа тыя плёткі пра Жэшаў. Я ігнарую яго наляганні:

- Добра, добра, няма куды спяшацца....

Размова з Ірэнай. Калі будзе раптоўная небяспека, я выходжу адзін, яна застаецца ў Львове, у сваёй сяброўкі Марысі. Трэба ёй паведаміць.

Гэта пякельна далёка, цераз увесь горад на Замарстынаве. Трамваі не ходзяць. На Казіміроўскай вельмі моцны, незразумелы рух: машыны, машыны, матацыклы, танкеткі, жаўнеры, цывільныя. Прайсці цераз вуліцу нельга. Каля клуба на Абаронцаў Львова велізарная яма, тут упала бомба, якая тых...

Іду з пачуццем: абы да таго дома, да таго рогу, абы цераз той парк. Баюся налёту, што спыніць і не пусціць мяне ні туды, ні сюды.

Заходжу ў крамы - то тут, то там яшчэ нешта ёсць. Купляю сыру, нейкія кансервы, на вуліцы лаўлю некалькі булак, папяросы.

Марысі няма. Пакідаю ёй цыдулку.

Гарачыня. Вяртаюся.

Няма налёту.

Доўгая, нудная дарога. Мне баляць ногі.

Вечарам ізноў іду ў клуб. Кондра “кіруе”. Прыходзька, сакратар абкаму па справах прапаганды сказаў яму напісаць некралог на Тудора і Гаўрылюка. Кондра піша... Змушае мяне таксама да пісання. Гэта жудасна. Нервы напятыя, і словы трэба з сябе выдушваць найвялікшым намаганнем. Прыходзька абяцаў а 8-ай прыйсці ў клуб.

Рух на вуліцы. Цяжкая мітусня танкаў. Па Каперніка цягнуцца запыленыя, змучаныя аддзелы, артылерыя, аўтамабілі. Куды? Няўжо ўжо адступаюць?

Пішу некралог. Уваходзіць бледны маладзён, нарачоны дачкі Тудора. Падходзіць да мяне і заклапочаным, але талковым тонам канфедыцыяльна:

- Не ведаеце, дзе Тудор і яго жонка? Галіна са мной, непакоіцца, нанач не вярнуліся...

Здзіўлены, сячэ:

- Як гэта, не ведаеце?

Я не паспеў апомніцца, як за дзвярыма плач: Галіне ўсё расказаў Івась. Была гэта ладная, прыгожая дзяўчына, тая дачка Тудора. Нейкая моцная і чыстая. Цяпер як дзіця. Слёзы. Кондра пры бюро Дзесняка, сканфужаны.

У клубе за дзясятак яўрэйскіх пісьменнікаў. Абступілі мяне з прэтэнзіямі і нараканнямі.

- Энкавэдэ выязджае...

- Міліцыя выязджае...

- Войска адступае...

- Што будзе з намі?

Я ўскокваю, крычу:

- Гэта панікёрскія плёткі!

Шнапер іранічна ўсміхаецца. Карнова ківае галавой.

- Зрэшты, а восьмай будзе тут Прыходзька.

А восьмай налёт. Спускаемся ў піўніцу.

Трывога трывае коратка. Выходзім з Рудніцкім у “Чырвоны штандар” па інфармацыю.

Унізе цэркаўка з левага боку, разбіта ў верасні. Бомба трапіла ў яе другі раз! За ёй танк, бездапаможна прыткнуўся пры тратуары.

За паваротам натыкаемся на групу спяшаўшыхся людзей. Я бачыў іх у рэдакцыі “Чырвонага штандара”. Прозвішчаў не ведаю. Не прыпыняючыся кідаюць нам:

- Кірунак на Перамышляны. Неадкладна выходзьце!

**Паніка**

Была гэта першая хваля панікі, якая прабегла цераз Львоў вечарам у панядзелак 23 чэрвеня.

Ужо нас мінулі. Рудніцкі хоча іх пра нешта спытаць, іх ужо няма.

Рудніцкі ўзбуджаны:

- А я што казаў? Ежы, Ежы! Выходзім апошнія! Ужо нікога няма! Ежы, Ежы!

Паўбегам узбіраюся па Каперніка. У клубе засталося яшчэ пару яўрэйскіх пісьменнікаў. Паўтараю: кірунак на Перамышляны...

Выходжу, бягуць за мной распачлівыя пытанні. Як тамтыя з нізу, са “Штандара”, знікаю без слова. Бо і што магу сказаць?

Аўтамабілі перад міліцыяй. Пакуюць клункі і бабаў. Чорныя шматкі папераў. Кружацца ў паветры, сыплюцца, павольна, без эмоцый. Паляць архівы.

З Рудніцкім: а дзяватай пункт тут, пад гэтым гадзіннікам.

Пудам лячу па Патоцкага.

Налёт. Ужо каля дому. Хаваюся, потым бягу далей, не зважаючы на зяніткі.

Унізе каля дома Ірка з Марысяй. Убягаю ў дом.

Марыся атрымала маю цыдулку, забірае Ірку з Евай. Падганяе мяне. Ірка загортвае кашулю і яшчэ нешта ў такое пакрывала на ложка, дае кавал хлеба, грошы:

- І так тут не патрэбныя...

Апранае на мяне плашч. Выбухае плачам. Марыся падганяе. Цалую Еву. Тая смяецца.

Пані Ніна. Ірыся.

Збягаю на ніз.

Ужо цямнее.

Бягу, не аглядваюся. На гадзінніку без пяці дзевяць. пару хвілін стаю засопшыся. Аўтамабілі, аўтамабілі, бабы з клункамі на вярхах. Блакітныя фуражкі энкэвэдзістаў. Спаленыя паперы. Халерна падштурхоўвае такі від. Ногі самі пачынаюць падрыгваць для далейшага бегу.

Нібы недалёка вакзал. Ані хвіліну пра яго не думаю. За блізка тут немцы, за шмат начытаўся пра налёты на вакзалы і цягнікі.

Рудніцкага няма. Дзевяць. Дзве па дзявятай. Не чакаю даўжэй, іду, яшчэ аглядваюся, а раптам пакажацца з завулка.

Да сёння шкадую, што тых пару, тых колькі хвілін не застаўся. Рудніцкі - праз пяць гадоў - распавядаў, што падвёў яго нейкі аўтамабіль, якім ён ехаў на спатканне, што быў дзесяць ці пятнаццаць хвілін па дзявятай. Не застаў мяне... і не адважыўся на ўцёкі ў адзіночку. Зацягнуў бы я яго за тыя некалькі дзён у Кіеў. Збярог бы яму тыя страшныя чатыры гады! Дзесяць хвілін - і чатыры гады!

Я меў сваю рацыю, пазбягаючы чыгункі. Цягнікі хадзілі, але вымагалі не мала нерваў. Цягнік Слабодніка па дарозе разбамбілі і спалілі. Застаўся ў яго пасля таго нярвовы шок на гук самалётнага матора. Сям'я Прыходзькі загінула ў разбомленым цягніку. Найжорсткія паслугі цягнікі аказалі шмат каму.

Шымон Натансон, партыйны дзеяч, супрацоўнік "Папулярнага штодзённіка" і намеснік Курылюка ў "Новых гарызонтах", патрапіў на цягнік, які хутка і безбалезна давёз яго да Кіева. А там быў толькі трэці дзень вайны. Былі толькі першыя бежанцы. Мясцовыя ўлады не мелі паняцця, што робіцца на фронце, гэта значыць тыя мясцовыя ўлады, да якіх трапіў Натансон.

Сказалі яму: кожны ў сваім акопе! Натансон страшна тым праняўся. Кіеў быў такі спакойны! Праклінаючы сам сябе за тое, што панікёр, сеў у цягнік і яшчэ здалеў вярнуцца ў Львоў!

Блытаўся па Львове, нікому не патрэбны, аж да апошняй хвілі. Тыя, хто меў аўтамабілі, у тую апошнюю хвілю здалелі знікнуць. Натансон выйшаў другі раз, ужо пешкі. Загінуў па дарозе. З тых, хто выходзіў у той жа час, амаль ніхто ўжо не дайшоў.

Гэта вельмі смутная справа, гэтая эвакуацыя Львова. Няўдачна склалася, што Дзясьняк быў недзе ў Крыме. Той мог бы нешта заарганізаваць. Тудор, Гаўрылюк - маглі меней, але і яны зніклі, загінулі. Хапіла б пару грузавікоў, каб забраць некалькі дзясяткаў пісьменнікаў, вучоных, дзеячоў, якія былі ў найбольшай небяспецы. Не знайшлося аднак нікога, хто вырваў бы тыя некалькі грузавікоў.

З некалькімі чалавекамі размаўляў пра тое. Крычалі, што я панікёр! Казалі пра Жэшаў і Люблін, быц-цам бы вызваленыя. Пакінуў іх у спакоі. Думаў ужо толькі пра сябе самога.

**... Кірунак на Перамышляны ...**

Думаў таксама пра адсутнага Рудніцкага. Хацеў бы быць з ім разам. Дваіх заўжды шпарчэй.

Разбіты танк, пусты клуб, развалены пасаж Мікалаша. Каля Лычакоўскай успамінаю пра Пяха. Зварочваю, заскакваю да яго. Пяха няма дома. Перабраўся да сястры, адрасу якой я не ведаю.

Бягу далей. Зноў нечы лёс так блізка ад майго. Той драбніцы забракла, каб забраць яго з сабой, ўратаваць.

Даведаўся пазней: у той жа дзень , калі прыйшлі немцы, дазорац-АУНавец выдаў Пяха. Пацягнулі яго ў паліцыю. Жонка падняла крык, хапала яго за полы, калі яе адпіхнулі, устала і пабегла за ім. То яе таксама ўзялі. Абое загінулі ці не ў той жа дзень, былі расстраляны.

Іду адзін. На Лычакоўскай рух. Аўтамабілі адзін за другім. На тратурах разявякі. У тлуме ішоўшых знаёмы твар. Бомза. Ідзе за мной і цэлы час жаліцца. Што не варта ўцякаць, што лепей вярнуцца. Што і так гэта нічым не дапаможа. Падганяю яго, крычу.

Налёт. Ужо амаль за горадам

Спрабуем узлезці на нейкую машыну. Безвынікова. Раззявякі пачынаюць нешта гарлапаніць. За горадам аддзелы міліцыі ў калонах па чатыры, але фронтам да горада. Здаецца, пасля першага паveву панікі выйшлі з горада, а цяпер рыхтуюцца да вяртання.

Ідём краем дарогі. Побач патокі машын. Групкі пешых з заплечнікамі. Што раз новыя кампаніі ствараюцца і разлучаюцца.

Цямнее. Горада ўжо няма. Нейкія абрывы, дрэвы, вельмі прыгожая ваколіца. Бомза пастаянна стогне, але ідзе. Пачынаю адчуваць стому. Спрабую загаворваць да шафёраў - аніякай мовы. Горад ціcне на мяне. Столькі прайшлі, а як адвернешся - фабрычныя коміны на фоне заходняга неба. Абы як найдалей адтуль!

Горка. Затор на шашы. Нейкі аўтамабіль прытармožвае. Ускокваю на падножку, нахіляюся да шафёра, прашу, пераконваю, прапаную грошы. Не хоча слухаць. Паказваю пасведчанне Саюза пісьменнікаў. Так далёка яго цікаўнасць да літаратуры не сягае. Хоча, каб злез. Але машыны не прыпыняе, шкада яму часу.

Еду на падножцы. Крычу Бомзу, каб лавіў наступнага. Той махнуў, абыякавы, рукой. Ужо яго не бачу.

Сярод крыку пасажыраў узлажу на дах кабіны. Грузавік напханы рэчамі. Толькі сем чалавек, астатняе клункі.

Што за палёгка: тыя дрэвы, якія павольна ішлі насустрач, зараз бягуць узад. Мінаем пешцаў, і цяпер я з цяжкасцю ўстрымваюся ад воклічаў: не, не можна!

Намагаюся загаварыць з пасажырамі. Бурчаць нешта пад нос або маўчаць. Маё нахабства не забыта. Я не "прыняты". Калі пасоўваюся, з даху злажу ў кузаў, нейкая баба верашчыць:

- Куда, куда, здесь посуда!

Прыткнуўся ў ражку, ногі звісаюць вонкі. Нейкая прыгожая мясціна. Вінаграднікі, горы дрэвы. Ужо вечар. Пры дарозе падраздзелы жаўнераў на баявых пазіцыях, замаскаваныя. Нейкая вялікая калона моладзі - па чатыры, са спевамі ідзе ў кірунку Львова.

Мінаем іх, у воблаку пылу ўштурхоўваемся ў Віннікі. Тут затор, крыкі, праклёны. Нейкі высокі вайсковы чын правярае машыны, большасць затрымлівае. Нас прапускае. Аказваецца, што гэта машына "облисполкома".

Вырываемся цяпер хутчэй, хоць ужо цёмна. На лева нейкія далёкія ні то зарыва, ні то праблёскі. На лева, значыць на поўнач. Адкуль нам ведаць, што там адбываецца адна з найбольшых танкавых бітваў той вайны.

Цуг машын цяпер радзейшы. Пешых амаль не відно.

Кожны кіламетр - як бы падараваны. Калі нарэшце шафёр спыняе машыну і хоча, каб я злез - не пратэстую. Выйграў кіламетраў з дваццаць. Добра і гэта.

Іду, адразу досыць хутка. Змрок і пыл. Жыта пры дарозе. Страшна хочацца піць

Потым адчуваю першы прыліў стомы. Але змушаю сябе да руху. Зарыва злева не знікла. Хвілямі чую вельмі далёкую кананаду. Гавару сам сабе: затрымлівацца нельга. Паніка вынікла не без повару. Па дарозе гаварылі пра Злочаў і нават Цярнопаль, што там немцы. Трэба выскачыць з таго мяшка.

Пастанавіў ісці цэлую ноч, а на досвітку сысці з шашы і рухацца лясамі. Ведаю адно: ані хвіліны ў гітлераўцаў.

Пахне гарэлым. Пры дарозе стаіць легкавы аўтамабіль. Падыходжу - нікога. Спалены.

Ноч. Ледзве бачная яснасць на поўначы. Дарэчы, гэта ноч Святаянская!

Машыны. Вёска. Пры адной з машын нейкая гаворка. Гарыць агонь - спакойны, хатні, толькі што ў незвычайным месцы: недзе, дзе колы вырастаюць! Хачу ўразуміць іх: што распалілі агонь, які можа прывабіць самалёты. У той момант гаворка становіцца крыкам. Агонь вырастае, нехта махае радном. Загарэлася шасі грузавіка. Крык жанчын і дзяцей. Агонь дабраўся да бака з бензінам, раптам выбухае!

У тую ноч уся дарога была як бы размечаная такімі спаленымі аўтамабілямі, асабліва легкавымі. Не ведаю, што з імі рабілася. Нехта кажа, што пазабывалі пра ваду ў радыятарах. Думаю, што хутчэй тыя радыятары ім папрабівалі..

Мінаю пажар, іду цераз цёмную вёску. Ледзве відны белыя сцены "мазанак". І толькі. калі падыдзеш тар у твар, убачыш постаці маўклівых мужыкоў. Стаяць каля плоту, глядзяць на шашу і думаюць: зноў нясе ... .

**Святаянская ноч і ранак**

Прычапіўся да мяне нейкі тып з Уладзіміра. Чуючы маю расейскую мову, прыняў мяне за "савета" і думаў, што са мной бдзе яму лягчэй. Вёў ровар і размовы. Ужо праз дзесяць хвілін меў яго дастаткова: гэта быў нейкі камбінатар.

Ноч. Шаша. Ад гарызонту да гарызонту бліскаюць агні грузавікоў, якія на хвілю запальваюць фары. Калі б тут былі немцы, маглі б усё перастраляць: шаша абазначана тымі праблiскамі, як вуліца бойкага горада.

Але немцы занятыя за некалькі дзясяткаў кіламетраў на поўнач, на галоўнай кіеўскай шашы, дзе зараз шалее магутная танкавая баталія.

Запах красаваўшага збожжа і пылу. Самотныя бярозы пры дарозе.

Вельмі цёмна. Мне хочацца спаць. Несвядома зварочваю з дарогі і сунуся ў жыта. Уладзімірац кліча мяне, потым рушыць далей.

Мяжа вузкая і няроўная. Кладуся, захінаюся плашчом, скрутак кладу пад галаву. Заснуць не магу. Шаша пастаянна бурчыць ад машын. Адрыўкі размоў. Цвёрда, холадна. Ляжу з нейкую гадзіну. Гляджу на зоркі. Потым устаю, іду далей.

Кіламетр за кіламетрам. Цёмныя вёскі з прытаіўшыміся ля плоцікаў мужыкамі.

Даліны, узгоркі, дарога падымаецца і апускаецца. Пачынае развідняцца.

Нейкая вялікая вёска. Спераду, направа ўзгорак. Самотны і далёкі.

Доўга іду да яго. Не рухаецца, як бы прыклееным да гарызонту. Даганяю групку жаўнераў. Потым яшчэ некалькі. Потым цэлы аддзел, без зброі, змучаных да рэшты, маўклівых.

Пры дарозе нейкі ручаёк. Жаўнеры здымаюць боты, ідуць па вадзе. Сядаю, мачу ногі.

Нарэшце мінаю той узгорак. За ім новы, даўжэйшы. Гэта падольскі парог, інакш Мёдаборы.

Світанне паўзе з поўначы на ўсход, набірае фіялетавыя адценні. Хутка дзень, трэба будзе зварочваць з гэтай шашы, яшчэ да таго ўзгорка.

Людзі становяцца бачнымі. Шаша. Фурманкі. Вёска. Дзве хаты каля дарогі, рэшта далей, каля ўзгорка. Нейкі жаўнер п'е малако. Адкуль? Паказвае на вёску.

Зварочваю, апанаваны раптоўным голадам. Мужык мяне праводзіць. У чыстай, пустой хаце п'ю малако, шклянка за шклянкай, частую папяросамі гаспадароў, дыпламатычна ні пра што не пытаўшых, плачу, выходжу.

Выдатны, чысты ранак. Раптоўнае вуркатанне самалёта. Бачу яго тут жа над шашой, невысокі, невялікі.

Адразу бах, бах! А, дакладней - гром, гром! - такія звоны, як бы ў кузні гіганцкі срэбны молат.

Дым. Недзе над шашой.

У вёсцы крык. Нейкая фурманка зварочвае з шашы, пудам улятае паміж хатамі, выскаквае з хаты кабета з дзіцем і мужчына, кабета раве, як бы яе рэзалі, бяжыць, падае пад плот і не перастае верашчэць. Самалёт яшчэ кідае некалькі бомб, потым раптам трэск стрэлаў з кулямёта, мерных, рэгулярных, не надта хуткіх.

Я пісаў "Гэты і той бераг моста" не бачыўшы вайны, апісваў налёты на шашу "ў сляпую". Цяпер правяраю: згаджаюся.

Досыць хутка (але не бягом) павварочваю, іду

пад гару, паміж кустамі. Самалёт ужо паляцеў. Пагорак прыгожы, досыць круты, засаджаны рэдкімі, але магутнымі дубамі, грабамі, асінамі. Ніжэй джунглі кустоў. Поўна кветак. Шукаю палянку, каб заснуць. Днём па шашы, брр...

Кладуся на сонцы. Холадна, не магу заснуць. Раса. Унізе вёска. Ногі нацёртыя. Пераглядаю кішэні. Знішчаю ўсякія паперкі, за выключэннем пасведчання асобы і пасведчання Саюза пісьменнікаў. Кананада на поўначы расце.

Праходзіць нейкі мужык. Пачынае размову, поўную недагаворак. Мае сына ў турме. Я не падтрымліваю размовы. Адходзіць.

Яшчэ нейкі самалёт. Я нарэшце не вытрымліваю, рушу.

Найпрыгажэйшы чэрвеньскі дзень. Адчуваецца такім далёкім ад учарашняга дня, ад Львова, ад Ірэны і Евы. Ужо ў тым журба. І нейкая бяздумнасць, безтурботнасць. Я адарваны ад усяго. Нават, калі думаю сабе, што ў Злочаве могуць быць немцы, не адчуваю страху. Неяк спраўлюся. Усё становіцца нейкім нерэальным.

Сцежка вядзе ўніз. Мінаю незлічоныя завулкі, рачулкі, падворкі. Сустракаю нейкага маладога яўрэя. Таму я зноў падаюся аднадумцам. Паведамляе з неспакоем: мужыкі пачынаюць наравіцца. У млыне, дзе ён працуе, разбілі склады, выцягнулі некалькі там мяшкоў мукі. Што ў Львове?

Выходжу на палі. Далёка разбомбленая вёска. Іду хутка, абы да наступнага ўзгорка. У рове, поўным вады, ляжыць маска газаахоўніка. Мне робіцца не па сабе на від такога марнавання вайсковай маёмасці. падымаю тую маску.

На шашы рух. Аддаю маску першаму вайскоўцу. Глядзіць на мяне падазрона: ці не вар'ят?

Аўтамабілі з Львова на Злочаў, з бабамі і клункамі. І такія ж самусенькія, з бабамі і клункамі - са Злочыва на Львоў. Дзіўна, што гэта значыць? Распытваю пра Злочыў. Большасць маўчыць, іншыя кажуць, што наш. Але чаму тады тыя бабы адтуль?

Палявы аэрадром, толькі што разбомблены. Але слядоў не відаць. Прыспешваю крок. Зварочваю з шашы. Прыгожая, узгорыстая ваколіца. Раптам аглядваюся.

Самалёт тут над жытам, на вышыні майго твару. "Каціны палёт". Падкраўся незаўважна. Што за цудоўны від. Тым больш, што гэта наш!

Узлажу на пагорак, увесь у густых кустах. Доўга ляжу пры крынічцы, п'ю ваду, нюхаю нейкую фантастычную, дзікую і прыгожую кветку.

Вельмі доўга цягнецца гэты дзень. Я зусім адзін. Як бы не было вайны і ўцёкаў, а толькі нейкая маёўка ці вяртанне ў Банева новай дарогай.

**Злочаў**

Сонца павярнула на захад, да Львова, калі я вярнуўся на шашу. Матацыклісты. За дрэвамі замаскаваныя пасты, правяраюць мае дакументы. Я змучаны, прашу фурманаў падвезці. Нарэшце адзін мяне бярэ - за 20 рублёў. На возе дзесяць чалавек, пераважна "саветы".

Трасе страшна. Змучыла тое сядзенне, але адпачылі ногі.

Прыгожы летні дзень. Перадвячэрняе неба без хмаркі. І толькі адзін, тонкі, роўненькі слуп чорнага дыму, як бы нехта правёў рысу па тым зеленаватым небе тоўстым, чорным алоўкам.

Гэта ўжо Злочаў. Гэта гарыць на вакзале разбамбаваны цягнік. Быў тут аднак дэсант, як кажуць на возе. Пры дарозе рэшткі самалёта - нашага.

Пры ўездзе правяраюць дакументы. Ратуе мяне маё месца нараджэння - Менск. Пускаюць у горад.

Вуліцы забітыя: войска, аўтамабілі. У піўной яшчэ можна дастаць нешта з яды: булку, сала, піва. Прадаюць нават піражкі!

У горадзе аблава. Жаўнеры ў касках акружаюць нейкі дом. Вакзал гарыць, спакойна, мірна, ніхто на яго не звяртае ўвагі.

Выходжу з горада. Шаша маляўніча ўздымаецца і ападае. Пасля шасці кіламетраў ногі зноў бунтуюцца.

Вёска. Тры грузавікі з бабамі і клункамі. Жонкі вайскоўцаў. Сядаюцца. Кіруе той аперацыяй нейкі сяржант. Стаю і гляджу ўпрошвальна на яго. Не звяртае ўвагі.

Бабы сварацца. Кожная мае пяцёра дзяцей і дзесяць клункаў. Адна не хоча каля другой сядзець. Пералазяць з машыны на машыну. Сяржант не можа з імі справіцца, гэта жонкі яго начальнікаў. Адна, як вынікае з іх самахвальства - жонка камандзіра, другая - камісара. Рэшта жанчын толькі ўздыхае, чакаючы, пакуль тое скончыцца.

Гляджу на сяржанта. Мой погляд пачынае быць яму ў цягасць. Раз і другі акідвае мяне нецярплівым позіркам. Спрабую неяк "дамовіцца". Дапамагаю камісаршы перацягнуць яе клункі ў іншую машыну, абы не з "той". Цягну галіну і ўтыкаю каля кабіны: "маскаванне". І пастаянна гляджу на сяржанта.

Нарэшце з адкрытым пісьменніцкім пасведчаннем падходжу да яго. Але ўжо мая "аблога" маральна зрабіла сваё. Нават не глянуў:

- Туды!

Гэта значыць трэцяя машына, санітарка, але папсаваная. Улажу ў будку. Два жаўнеры, нейкая бабка з дзіцем і дзяўчына, "тутэйшая", служанка некага з афіцэраў. Машына трасе, як ліха. Едзем хутка. Жаўнер з карабінам сядзіць ззаду, глядзіць "тэарэтычна" на шашу. Тым актыўнейшы той пры дзяўчыне. Вартаўнік злуецца, дае мне карабін і таксама перасоўваецца да дзяўчыны.

Цёмна, спыняемся. На шашы велізарная калона людзей.

Трэці жаўнер вылазіць з кабіны, кажа мне туды лезці. Выдатна. Рушым зноў. Мякка не трасе. Паспаў бы, але дзверцы не зачыняюцца, мушу іх трымаць. Упадаю ў дрымоту і што хвіліну прачынаюся са страху, што выпаду.

І вось мінулі сорак кіламетраў, суткі напружанага маршу - за пару гадзін. Ноч. Цярнопаль.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У Літаратурным выдавецтве, г. Кракаў, выйшла кніга Гжэгаша Матыкі “Аблава на белых палякаў. Войскі НКВД ў змаганні з польскім падполлем, 1944-1953”, 516 ст.**







**У Менску ў выдавецтве “Харвест” выйшла кніга Вітаўта Чаропкі “Геркулес, Руды і Пярун. Радзівілы - пераможцы”, 320 ст. Наклад 1000 асобнікаў.**

**У Лідскай друкарні выйшла кніга Вячаслава Шведа “Гісторыя развіцця рамяства ў Гродне”, 224 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**







**У выдавецтве Радыё Свабодная Еўропа/ Радыё Свабода выйшла кніга Сяргея Навумчыка “Дзевяноста чацвёрты”, 350 ст.**

**У выдавецтве “Гарадзенская бібліятэка” ў Гародні выйшла кніга Ўладзіміра Хільмановіча “Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны (дні і гады, асобы і падзеі)”, 124 ст.**






**У Менску ў выдавецтве “Рэгістр” выйшла кніга Юрыя Татарынава “Роковая страсть короля Миндовга”, 320 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**



**Помнік воінам 111-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія ўдзельнічалі ў вызваленні горада Ліды ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 8 ліпеня 1944 г.**
*г. Ліда, вул. Качана. Здымак Гражыны Бурачэўскай.*